— Умывайцеся, — сказаў Бальшакоў.— Карыта ля калодзежа.

Пайшлі да калодзежа разам, васьмярых. Упершыню з учарашняга дня засталіся адны.

— Можа да іх прыстанем...— сказаў Бальшакоў, калі адышліся ад палатак.— Хлопцы — што трэба...

— Партызаны тыдзень без году,— плячысты, рослы Сізых грэбліва адтапырыў ніжнюю губу.— Амбіцыя без амуніцыі...

— Казарму капітан не можа забыць,— падтрымаў яго руды Півавар.— Палатачкі, каравульчыкі... Гульня ў вайну. Не ляжыць душа...

Астатнія, збіўшыся ў кружок, маўчалі. Прыкладна такое Бальшакоў думаў пачуць. Два Пятры — Півавар і Сізых — за зіму палюбілі вольніцу, разлюлі-маліну. Яны далучыліся да групы Бальшакова, калі вандроўная, імклівая, як вецер, група Аркашкі памагала разбіваць гарнізон у Буйках. Асталіся не па ахвоце — хварэлі на жываты, крываўкай. Аркашка абяцаў вярнуцца, забраць сваіх, а сам тым часам недзе ўжо ў трыдзевятым гасударстве.

— Толькі трэба чэсна, хлопцы,— папярэдзіў Бальшакоў.— Не хочаце — скажыце. А то на ўсіх ляжа пляма.

— Дзякуй у шапку,— ашчэрыўся Сізых.— Ведаем такіх субчыкаў. Прызнайся! Хопіш дзевяць грамаў... Бачыў, якія тут канспірацыі? Таямнічы востраў. Тры гады такога шукаць. Мы як-небудзь пры зручным выпадку...

— І ўсё-такі трэба чэсна,— настойваў Бальшакоў.

— Пабачым,— паабяцаў Півавар.— Мы з Пецем яшчэ не рашылі. Трэба памазгаваць.

Бальшакоў адчуваў — не застануцца. Цяпер на злом галавы не пойдуць, бо вандраваць удваіх не соладка, але і пакладацца на гэтых двух не выпадае.

Ля калодзежа, акрамя кабеціны, якая гатавала вячэру, маладая чарнявая дзяўчына. Учора яе не было. Сарамліва апусціла падаткнуты падол, заірдзелася. Мые са старой бялізну ў карыце, выдзеўбаным з альховай калодкі.

Хлопцы павіталіся, выцягнулі вядро жаўтаватай вады, папрабавалі на смак, паліваючы адзін другому з бляшанкі, спаласнулі твары.

— Я вам яечак наварыла,— сказала жанчына.— Снедайце. Сямён пакажа, дзе ўзяць. Сямён — мужык мой. Разам гаруем...

— Як вас велічаць, мамаша? — спытаў Бальшакоў.— Вы ж і ўчора нас накармілі.

— Ешце на здароўе. Завуся Кацярынай.

— Чаму, цёця Каця, нас адных пакінулі?

— Прывыкайце. Можа, спадабаецца... А нашы ёсць кругом.

Навічкі пераміргнуліся — цётка Кацярына дыпламатычная...

Дзень прайшоў непрыкметна — чысціліся, выварочвалі над агнём сарочкі, галіліся брытвай Бальшакова, якую па-майстэрску наводзіў на шырокім мікалаеўскіх часоў рамяні дзядзька Сямён. Дзядзька-цясляр разам з цёткай — пара адменная. Кінулі ў гарадку дамок, набытак. Ніхто не агітаваў. Пайшлі самі. У іх, перш чым пайсці ў лес, збіраліся цяперашнія партызаны.

Сізых з Піваварам, адлучыўшыся ад астатніх, навыперадкі выдыбалі перад Соняй — так завуць чарнявую дзяўчыну. Памаглі развешаць бялізну, нанасілі вады і да вечара ведалі ўсё, што можна ведаць, завязаўшы знаёмства. Соня — медычка, незамужняя, працавала ў аптэцы.



Кідаючы адзін на другога касаватыя позіркі, дружбакі чакалі вечара, але вечарам, толькі мільгнуўшы каля палатак, Соня знікла. Грыцук бачыў, што, ускінуўшы на плячо вінтоўку, яна пайшла ў пары з высокім, падпяразаным патранташам хлопцам, які невядома адкуль вынырнуў.

Прыцемкам адзін за адным вярнуліся трое паставых. Хто зняміў іх — невядома. Другую ноч начавалі трывожна. Партызанамі іх як быццам прызналі, але зброі не аддалі. Невядома нават, дзе іхняя зброя...

## III

Бальшакоў прачнуўся ад гармідару. Тручы сонныя вочы,— заснуў толькі на світанні,— выйшаў з палаткі і сабе не паверыў: у лагеры — гульба... На стале бутэлькі з самагонкай, сала, варанае вялікімі каваламі мяса, каўбаса, вялікая міска яек.

Бондар, трохі захмялелы, заўважыўшы Бальшакова, замахаў абедзвюма рукамі.

— Будзі сваіх, таварыш камандзір. Давайце сюды!..

Па ўзнёслым, нязвычным настроі, які пануе за сталом, Бальшакоў адчуў — здарылася важнае. Прыгнуўшыся, шуснуў у палатку, раскатурхаў таварышаў — заснулі позна, усю ноч шапталіся.

Бондар устаў, падняў руку. Загаварыў урачыста, як на мітынгу:

— Вып'ем за дарагіх нашых пасланцоў. Прыляцелі з Масквы. Стаіць наша родная Масква і будзе стаяць. Дае адпор фашысцкім акупантам. Агульнымі сіламі разам з дарагімі дэсантнікамі будзем граміць праклятых ворагаў, што прыйшлі на нашу зямлю...

Толькі цяпер Бальшакоў заўважыў двух даўно няголеных хлопцаў у зялёных, армейскага фасону, куртках. Адзін — высокі, русявы, з адкрытым, прыгожым тварам. Другі — ніжэйшы, шчуплаваты, з кучаравай чорнай шавялюрай. «Парашутысты,— мільганула думка.— Камар жа гаварыў...» Прыліла да твару кроў, спуджанай птушкай забілася сэрца. Ішоў да хлопцаў, адчуваючы, як дрыжыць рука, у якой трымаў шклянку. Хацеў і не мог суняць дрыжыкі...

— Скаварада,— прадставіўся русявы, з якім чокнуўся шклянкай.

— Фурман,— назваўся чарнявы.

Бондар пасунуўся, вызваліў каля сябе месца. Бальшакоў сеў, не зводзіў вачэй з парашутыстаў. Не верылася, што хлопцы, якія сядзелі насупраць, нядаўна хадзілі па Маскве, бачылі, ведалі тое, чаго ён не ведаў і не бачыў. Ад выпітай гарэлкі закружылася ў галаве, у душы падымалася нястрымная, шалёная радасць...

— Дык як, таварыш камандзір, можа — аб'яднаемся? Дарагія дэсантнікі з намі. Прынеслі пяцьдзесят кілаграмаў толу! Мы былі без толу, як без рук. Але чатыры эшалоны саматужна...

— Мы самі хацелі да вас прасіцца,— стараючыся гаварыць спакойна, сказаў Бальшакоў.— Калі хочаце ведаць — шукалі вас...

## IV

Лінію фронту праляталі на паўночны ўсход ад Арла. Яна прамільгнула такой, як і ўяўлялі — выразнай, выгненнай паласой, даволі прамой, светлай ад успышак выбухаў, бясконцага мігцення трасіруючых куль.

Як толькі праляцелі фронт і праз круглае акенца пад крылом «дугласа» зноў зачарнелася зямля, кабіна лётчыкаў адчынілася, выйшаў штурман — высокі, плячысты хлопец у скураной куртцы. Балансуючы між цюкоў, наваленых у праходзе, спыніўся, трымаючыся за поручань, перад Мазурэнкам.

— Спірт ёсць, дыверсант? Не могуць жа вас паслаць у госці да гансаў без спірту?..

Камандзір групы Мазурэнка, які сядзеў першы ад дзвярэй, занепакоіўся. Ляцяць па прыборах, зямлі не відаць — толькі зрэдку блісне цёмна-блакітная сярод ночы стужка рэчкі, ледзь прыкметнае вока азерца.

— Не хвалюйся, начальнік, даставім у акурацe. Дзве гадзіны лёту. Нам не прывыкаць...

Мазурэнка адчапіў ад пояса фляжку ў варсістым футарале, працягнуў штурману. Другая такая вісела на рамяні з левага боку.

Штурман кабіны не зачыніў — былі відаць прыборы, якія адсвечвалі бледным, сінявата-жоўтым бляскам. Там, у кабіне, раскашавалі — лыкнуў штурман, лыкнуў лётчык, чмысьці прыкусваючы, не запіваючы. Паўтарылі...

Мазурэнка сядзеў, поўнячыся трывогай. Маўчалі спадарожнікі. Радыстка Ася, прыхінуўшыся да акенца, глядзела ў цемень. Чатыры хлопцы напаўголаса нервова перасмейваліся.

Не прайшло і гадзіны, як самалёт пайшоў на зніжэнне. Над галовамі пасажыраў успыхнулі дзве электрычныя лямпачкі. Нудна, працяжна заныла папераджальная сірэна. З кабіны, пахіставаючыся, выйшаў штурман.

— Гатова, арлы, прыляцелі!..

«Дуглас» пачаў першы заход. Штурман зняў жалезныя перакладзіны з двух бакоў, адчыніў дзверцы. Знізу глядзела чорная прорва. Дэсантнікі сталі паспешліва куляць цюкі.

Мазурэнка сігануў у цемень чацвёрты. На імгненне ўбачыў чорную цень самалёта, якая мільгнула на светлавата-шэрым фоне зорнага неба. У вушах засвістаў вецер — ён каменем ляцеў уніз. Пальцы трымаў на кальцы запаснога парашута, які гарбом вісеў на грудзях. Але асноўны парашут раскрыўся ў час — ён толькі адчуў лёгкі штуршок. Пачаўся плаўны спуск.

Прызямліўся, можна лічыць, удала. Трапіў на невялікую лугавіну. Вызваліўся ад строп парашута, стаў паспешліва яго пагашаць. Схаваў камяк мяккай падатлівай тканіны ў кустах, якія чарнелі паблізу, выняў пісталет, чакаў...

Там, па той бок фронту, калі рыхтавалі да вылету іх невялікі дэсант, здавалася, што на зямлі, на якую мусілі спусціцца, пад кожным кустом сядзіць немец. У такім настроі Мазурэнка правёў першую ноч. Сядзеў з напятымі нервамі, чуйна прыслухоўваўся да начных шорахаў.

Пад раніцу, калі на ўсходзе прабілася белая палоска, закігікала сава. Умоўны знак. Мазурэнка адказаў. З бярэзніку вынікла постаць Палякова.

У поўдзень знайшлі Асю. Спала пад кустом, заціснуўшы ў руцэ пісталет. Пазней, не тоячыся, расказала, што заснула якраз у момант найвышэйшай напружанасці: здалося ёй, што лес кішыць немцамі.

Яшчэ аднаго адшукалі ў той дзень. Купал парашута Колі Баразны, тубыльца гэтых мясцін, зачапіўся за сухую вяршаліну сасны, а сам ён, не ў час вызваліўшыся ад ніжніх рамянёў, вісеў уніз галавой. Няласкава сустрэла родная зямля сына, які хацеў спусціцца на яе з неба. Таварыша пахавалі тут жа, пад сасной.





Скінулі дэсантнікаў амаль дакладна, вёрст за дзесяць ад умоўленага месца. Па карце зверылі арыенціры. Побач чыгунка-аднапутка Бацькавічы — Бараўцы, у паўночным напрамку — шаша. Усё ж двое з групы — Скаварада і Фурман — як скрозь зямлю праваліліся. Трохдзённыя пошукі нічога не далі. Не знайшлі часткі паклажы і — што асабліва крыўдна — запасной рацыі...

## V

Выйшлі апоўдні. Расцягнуліся ланцугом між сосен. Наперадзе Бондар і масквічы ў сваіх зялёных, пад колер травы, куртках і штанах навыпуск. Скаварада з брызентавым заплечным мяшком, напоўненым толам, на галаву вышэй за камандзіра. Шчуплаваты, віхлясты Фурман сігае шырокімі крокамі, стараецца не адстаць.

Партызаны здаюцца Шуру зухаватымі — абвешаны патранташамі, гранатамі, ледзь не ў кожнага пры баку пляскаты нямецкі штык. Апрануты хто ў што — пінжакі, ватоўкі, выцертыя скураныя тужуркі. Два ручных «дзегцяровы» нясуць па чарзе. Шура трохі нёс, намуляў плячо.

Ад лагера да шашы — шлях немалы, вёрст шаснаццаць. Езджай дарогі няма — чарналессе, зарослае чэзлым сасняком балота.

Ля шашы застаў прыцемак. Пазвоньваючы зброяй, бягом перамахнулі вузкую стужку брусчаткі. Яшчэ вярсты праз дзве прывал — блізка чыгунка. Двое аддзяліліся, пайшлі ў разведку.

Шура ў атрадзе другі тыдзень, але адчуванне такое, што ён тут даўно. Нічым асаблівым партызаны ад звычайных людзей не адрозніваюцца. Ёсць добрыя, злосныя, маўклівыя, рагатуны, і нават палахліўцы ёсць сярод тых, якія здаля, з мястэчка, здаваліся героямі.

У цемені паблісківаюць агеньчыкі цыгарак. Гавораць прыцішана, напаўголаса. Лета на спад ідзе, халаднавата ноччу. Шура настаўляе каўнер пінжака, зябка пацепвае плячамі. Поруч, прыхінуўшыся спіной да камля сасны, прадае дрыжыкі Багдановіч.

— Закурым, пагрэемся...— шэпча Алесь.

Працягвае капшук, пстрыкае Шуравай запальнічкай.

— Кульнём эшалончык...

— Не выхваляйся.

— Няма чаго думаць. Без мін скідалі.

— Забыў пра немцаў.

—Ярунда. Два салдаты на вярсту.

— Па будках гарнізоны.

— Не ў кожнай. Ад Грамоў да Жарнавіц у двух, і ад Жарнавіц да Гарбылёў у двух. У Жарнавіцах — славакі. Там пякарня, пошта. Я кожны кусцік ведаю...

Цыгаркі згаслі, галасы змоўклі. Алесь прыхінуўся да Шуры, паклаў на плячо галаву. Ужо носам пасвіствае. Дзіўны хлопец... Жыве як на ляту. На адной мінуце пяць настрояў. Можа раззлавацца, збэсціць апошнімі словамі, і тут жа — адыдзе. Валодзя Шлег зусім іншы. Зацяты, маўклівы. Ходзіць з камандзірам. Абодва яны — Алесь і Валодзя — дзетдомаўцы. У атрадзе з першага дня. Але Шлег да дружбы з Шурам не хіліцца.

— Гарнак! Да камандзіра! — даносіцца да Шуры прыглушаны голас.

Шура штурхае Алеся, падымаецца. Асцярожна, каб на каго-небудзь не наступіць, прабіраецца да месца, адкуль даносяцца галасы.



— Гарнак,— голас у камандзіра прастуджаны,— калі не хлусіш, на чыгунцы вы штосьці ўзрывалі? Раскажы.

— Міна была самаробная. З аманалу.

— Усё адно. Раскажы. Галоўнае, як замаскіравалі...

— Звычайна. Прысыпалі сухім баластам...

— А мокры куды дзелі?

— Збіралі ў шапку, зносілі пад адхон.

— Вось бачыце — усё правільна... І мы так, дарагі, прыдумалі. Вінтоўку аддай, вазьмі плашч-палатку, вынесеш баласт. Ад Скаварады і Фурмана не адставаць...

Рушылі да чыгункі. Над краем лесу выплыў месяц, стала святлей. Разведчыкі вялі сцяжынкай, якая пятляла між хвой. Ішлі сцішана, раз-пораз прыпыняючыся. Была поўнач — ні зыку, ні шораху. Шура ішоў узбуджаны і, здаецца, чуў, як таххае сэрца.

Перамахнулі пясчаную дарогу, і толькі цяпер Шура як бы пачаў пазнаваць лес — гэтай дарогай ішоў у партызаны, начаваў у сасняку, прачнуўся ад дзіцячага плачу. Недзе недалёка вербіцкія курані.

Патыхнула вільгаццю. Прайшлі яшчэ вярсту. Спыніліся. Чыгунка блізка. Бондар напаўголаса аддае каманды. Двое аддзяліліся ўправа, двое — улева. Наперадзе як бы кігікнула начная птушка, і тады, узяўшы вінтоўкі ў рукі, ступаючы след у след, пайшлі.

Лес скончыўся, перад вачамі залітая хісткім месячным святлом паляна з рэдкімі, чэзлымі хвойкамі. Не паляна, а высахлая балацянка. Па ланцугу шэптам каманда: «Лажыся». Шура лёг грудзьмі на купіну. Ногі ў каленях прамоклі, купіна мяккая, як падушка.

Цяпер каманда: «Наперад!» Паўзлі доўга, робячы частыя перапынкі, прыслухоўваючыся. Асака непрыемна казытала твар, рэзала рукі.

Пачуўся далёкі, невыразны гул, які ішоў, здаецца, ззаду, з лесу. Як бы ў вершалінах сосен уздымаўся вецер. Ланцуг замёр. Шура ведаў гэтае зманлівае лясное водгулле прыбліжэння цягніка. Толькі ноччу яно другое, чым днём. Удзень рэйкі пачынаюць пазвоньваць, а лес нібы скача, прытупвае. Цяпер — уражанне такое, што там, у соснах, усчынаецца навальніца.

Шура падняў галаву, на імгненне працяўшыся страхам. З шэрай, хісткай далечыні проста на іх ляцелі два зыркія электрычныя вокі. Вырывалі са змроку ніцыя хвойкі, ярка-зялёныя ў паласе начнога святла бярэзнікі. Хвіліна, і паласа святла пайшла лявей. Шура ўбачыў высокі, з травяным схілам насып, чорныя рэйкі. Прыйшла адразу здагадка — ляжаць ля крывой. Крывая на захад ад Вербічаў, самае большае за вярсту. Выгін чыгункі ён бачыў, калі ездзіў у Гарбылі і калі тут, ля Вербічаў, капалі акопы.

Пранёсся цягнік. У адным месцы,— відаць, рэйка была прышыта не па шаблоне,— з-пад колаў яркім веерам сыпанулі іскры. Не паспела сціхнуць водгулле цягніка, як, узнятыя прыглушанай камандай, кінуліся да насыпу. Беглі, прыгінаючыся, стрымліваючы дыханне. Заляглі, калі чорны, круты вал быў на відавоку, метраў за трыццаць.

Месяц віседў высока, зоркі як бы пачыналі бляднець. З правага боку ад Шуры — Скаварада і Фурман. Ціхенька перашэптваюцца. Шура раз-пораз прыўзнімаў галаву, глядзеў на насып, поўнячыся дрыготкай нацятасцю. Халадзеючы, чакаў каманды. Міналі хвіліны, ніхто не адзываўся. Нечакана для самога сябе Шура прыдрамнуў...

Прачнуўся ад зычных нямецкіх галасоў. Імгненным страхам праняла ўсё цела. Не ведаў, дзе ён, што з ім. Як правал у памяці. Прыўзняў галаву, убачыў на насыпе чатыры шэрыя постаці. Немцы-варта-

вы ішлі павольна, грукалі ботамі па шпалах, гучна, нібы глухія, перамаўляліся...

Ноч канчалася, наступала шэрае світанне. Над балацянкай празрыста-тонкая пеляна туману. Можна ўжо адрозніць тэлеграфныя слупы, якія бягуць па балотцу нацянькі, падступаючы вельмі блізка да чыгункі, кавалак чорнай толевай паперы на схіле насыпу. Па той бок палатна чэзлыя хваінкі і бярэзінкі знікаюць у хісткай шэрані. Адзенне на Шуры макраватае.

З правага боку, дзе схаваліся за паваротам немцы, зычна кігікнула птушка. Каманды Шура не пачуў, убачыў толькі, як, прыгнуўшыся, пабеглі да насыпу Скаварада з Фурманам. Падхапіўся і на мяккіх, нібы гумавых, нагах — зацяклі за час ляжання — рушыў за імі...

Скаварада сядзіць наўколенцах, пляскатым нажом разрыхляе пад рэйкай жвір. На шпале ладны, перавязаны шпагатам пакунак. Фурман зубамі абдзірае канец тэлеграфнага кабеля. Тонкую трубку ўзрывальніка, з чакой, як у лімонцы, паклаў на рэйку. Шура разаслаў плашч-палатку, стаў паспешліва збіраць жвір.

— Прынясі сухога баласту,— сказаў Скаварада.— Набяры дзе далей.

У яго на шырокім загарэлым ілбе буйныя кроплі поту...

Калі ямку выграблі, Шура слізгануў у адхон, высыпаў жвір. Партызаны не тояцца — з асакі ўзнімаюцца галовы, тырчаць рулі вінтовак...

Шура, чуючы, як тахкае сэрца, зноў узлез на насып, прыгаршчамі сабраў на палатку горку пяску. Памагаючы адзін аднаму, міну прысыпалі, зараўнялі сляды. Фурман размотвае кабель, прысыпае пяском.

Галоўны мінёр Скаварада махнуў рукой, сагнаў Шуру з насыпу. Фурман, адступаючы, размотвае кабель унізе, у траве. Потым як ветрам змяло самога Скавараду.

Ужо вывіднела. Пакутліва цягнуцца хвіліны. Могуць прайсці патрулі. Калі заўважаць міну, Шура здагадваецца, што будзе: зрашэцяць салдат кулямі. Не зразумела адно: чаму не ставілі міну ноччу?

Багдановіч, як і ў лесе, ляжыць побач з Шурам. Шыя потная, брудная, з бураватымі падцёкамі. На шчацэ белы пух. Глядзіць на насып, не міргнуўшы. Умее быць сур'ёзным. А так хвіліны спакойна не пасядзіць...

Відна, але сонца яшчэ не ўзышло. Неба хмурнае. Якраз тая пара, калі жанчыны дояць кароў, выганяюць на пашу. І ў мястэчку, і ў вёсках. Калі браць па чыгунцы, мястэчка недалёка. Вёрст шаснаццаць. Выбух пачуюць і там. Калі ўдасца скінуць эшалон, будуць ведаць.

— Алесь,— шэпча Багдановіч (Шуру заве Алесем),— жытнія клёцкі з малаком любіш?

— Якія клёцкі?

— Кругленькія. Есці хочацца. Калі будзем уцякаць, бяжы за мной. Заскочым у Альхоў. Наядзімся ад пуза...

— А хіба ў лагер пойдзем не разам?

— Разам, як рак свісне. Пабачыш, што тут пачнецца! Дзяржыся за мяне.

— Чаму ноччу міны не падклалі? — шэпча Шура.

— Уночы эшалоны ярундовыя. Добрых знарок не пускаюць.

Кігікнула птушка. Шура напяўся ўсім целам. Сапраўды, здалёку, ледзь чутны, нарастаў гул. Пачалі пазвоньваць рэйкі.

— Па эшалоне не страляць,— пранеслася па ланцугу.— Адыход у разбежку. Збор каля калодзежа...

Цягнік ужо вылятаў на крывую. Шура шчыльней прыціснуўся да зямлі, прыжмурыў вочы. Парывісты жалезны грук цягніка ззаду, у лесе, аддаваўся суцэльным гулам. Паравоз і першыя вагоны набеглі ўжо на месца, насупраць якога яны ляжалі, і некалькі вострых імгненняў Шура, сціснуўшы зубы, чакаў выбуху. Але калі праз хвіліну ён падняў галаву і ўбачыў апошні жоўты вагон, які, пахістваючыся, знікаў за паваротам, яго ахапіла дзіўнае пачуццё расслабленасці. Такое пачуццё ён ужо аднойчы перажыў — зімой, калі нічога не атрымалася з прыёмнікам.

У ланцугу нехта зычна вылаяўся. Зноў пачуўся трывожны крык птушкі. Да насыпу, амаль не прыгінаючыся, пабеглі чацвёра. Апошні з чорным нямецкім аўтаматам на шыі бег Бондар. На рэйках, распластаўшыся, застыла постаць Скаварады, астатнія заляглі воддаль, на насыпе. Ляжалі нядоўга, хутка пачалі адпаўзаць.

Беглі марудныя, пакутлівыя хвіліны. Справа, у тым баку, дзе зніклі патрульныя, пачуўся перарывісты пошчак кулямётнай чаргі. Кулямёт як бы прабаваў сваю сілу: пасля двух-трох стрэлаў змаўкаў, потым зачынаў зноў.

Ва ўтрапенні, якое яго апанавала, Шура не пачуў гулу, які нарастаў, як і першы раз, здалёку. Убачыў з кароткай трубой паравоз, які паспешліва выдыхаў цёмныя клубы дыму, выгнутую чараду вагонаў. Ляжаў амаль спакойна, ні на што не спадзеючыся.

Сляпучы, вогненны слуп агню вырас за некалькі метраў ад паравоза, а ўслед за грымотамі выбуху, які прыціснуў Шуру да зямлі, аглушыў, напоўніў рот, горла, нос саладкавата-горкай ватай, пачалося скончэнне свету. Паравоз, нібы ўздыблены конь, стаў старчака, потым павольна рухнуў на бок. Вагоны набягалі, лезлі адзін на другі, куляліся пад адхон. Водгулле, рэха, трэск, скрыгат зліліся ў адно. Шура, размашыста сігаючы праз купіны, бег услед за Багдановічам і, нават аглушаны выбухам, чуў ззаду страшны жалезны гул...

(Далей будзе)



Уладзімір ПАЎЛАЎ

●

# ПЕСНІ ВАЕННЫХ ГАДОЎ

Столькі вырасла новых садоў,
Столькі мёду калоды даюць,
Што аж песні ваенных гадоў,
Толькі выпіўшы, сёння пяюць.

У шуфлядах камодаў на дне
Гром ваенны ў медалях аціх.
І балюча і боязна мне,
Як да ран, дакрануцца да іх.

Не таму, што яны не мае
І зазвоняць, як толькі крану,
А таму, што я рос на вайне,
А таму, што я помню вайну.

А ў палацы раз'ятраны твіст
Гне паркет і людзей у дугу...
Я хачу уявіць куляў свіст
І ніяк уявіць не магу.

Пэўна, я безнадзейна адстаў,
Калі бацьку шукаў з году ў год
У сакрэтах пярэдніх застаў,
У дрыгве беларускіх балот.





Час, ты маеш ракет-рысакоў,
Асядлай і як хочаш гані —
Толькі песні ваенных гадоў
Мне, як светлую памяць, вярні...

# СТАРЫЯ САМАЛЁТЫ

Даўно знялі з іх быстрыя маторы,
І зараз ля ангара на двары
Іх рэжуць, быццам выкінутых морам
І распластаных у бяссіллі рыб.

З іх кожны быў у паднябессі лёткі,
З маланкамі суседнічаў не раз,
З іх кожны да апошняе заклёпкі
Правераны на штопар і віраж.

Адным бы — з гукам яшчэ спрэчку весці,
Не вечна толькі браняваяя сталь.
А у другіх на «вымушаных» дзесьці
Здзірала, быццам рашпілем, дзюраль.

Каля адных у час святой разлукі
Скупой слязой ніхто не пакрывіў.
З другіх жа самалётаў цераз люкі
Пілотаў даставалі у крыві.

Яны б на небе разагналі хмары,
Каб даць хоць міг ім неба узамен.
Ля доўгага адкрытага ангара
Трашчыць вясёла сіні аўтаген.

Няма, здаецца, большае самоты,
Чым пазіраць, як сыпле іскраў соль.
Ў адной чарзе старыя самалёты —
Чыясьці слава, нечы моцны боль.

●

У Замошшы маім паміраюць мужчыны.
Нібы тыя дубы пасярод пажарніц,
Узмахнуўшы здаровай яшчэ верхавінай,
У камлі надламаўшыся, валяцца ніц.

У Замошшы маім паміраюць мужчыны —
Залатыя дзядзькі, дарагія сваты!

I праз дванцаць гадоў дзень блакадны нішчымны
Ім заходзіць у тыл — і адольвае тыл.

Дасталася на век іх нялёгкая ноша.
Яны чэсна дзялілі і хлеб і бяду...
Усё меней мужчын застаецца ў Замошшы,
Што прайшлі на франтах праз агонь і ваду.

Быццам ім забаліць, так нясуць асцярожна,
Быццам мулкія дошкі ім раны натруць.
Іх нясуць на плячах да апошняй з апошніх Вышыні,
што заўжды пасля смерці бяруць.

## СВЕТАЦЕНІ

Зямлі трымаюцца карэннем
Высокі дуб і ніцы мох.
Разліў святла і ўпартасць ценю
Кладуцца кратамі ля ног.

Калі ж праменне сонца звесіць
Над вырубкай лабатых пнёў,
Наровіць цень схавацца ў лесе
Пад кронамі, ля камялёў.

Нікому цень не замінае
У веснавы пагодны дзень.
І да касцей аж працінае
Увосень той жа самы цень.

Набытак наш — не ў летуценні,
Не белізна і не загар,
А ў тым, відаць, што светацені
Кладуцца промнямі на твар.

□ □ □

# ДВА АПАВЯДАННІ

Мікола КАПЫЛОВІЧ



## СІРАТА

I

— Бярыся ля маёй рукі, сынок... От так... Моцненька дзяржы... А праваю за кульку вазьміся... І роўна, пры самай зямлі, вадзі... Толькі на касу не налягай вельмі...

У алешніку пад рэчкай, дзе трохі паднялася атава, Антося вучыла сына касіць, бо праходзіць лета, а ў трысцене была хіба толькі адна ношка сена — ці ж багата выжнеш сярпом?

— Зімою, сыночак мой, наша цяліца ацеліцца. І малачко даваць будзе, калі ты сена ёй накосіш... Напяку я табе тады картаплянікаў, пастаўлю на стол цэлую міску смятаны, а ты возьмеш у пальцы блінец — жоўценькі, аж свеціцца... Макець-ляп, макець-ляп яго ў міску — і ў рот... От смакоцце будзе!.. Ц..а! На два бакі і тырчком мачаць будзеш картаплянікі ў смятану... Толькі навучыся касіць...

Антося прыгаворвала і, бы сама мачала ў міску, паказвала рукамі сыну, як ён будзе есці смятану — падахвочвала, каб налаўчыўся касіць... І калі так гаварыла, твар яе, учарнелы і вузкі, святлеў — быццам верыла, што ў гумне поўна сена і касіць яго ўжо не трэба.

Толік выбраў лепшую латку асакі і стаў прымервацца касіць. І вось ужо як не з-за вуха разганяў касу — пацягнуць не хапала сілы, шлёгаў ёю па атаве, але каса адскоквала ад травы, не хацела яе браць, і там, дзе трэба каб выслаўся валок, рэдзенька ляжала жменя асакі, а пакоша была не роўная, бы абы-як выстрыжаная авечымі нажніцамі яго галава — уся ў хібках.

— Не так, сынок!.. Не так!

Яна ўзяла з сынавых рук касу, па-мужчынскаму паплявала ў далоні і размахнулася была касіць, але зрабіла толькі адзін мах,— як не па самую шыйку загнала касу ў зямлю.

Вырывала, хістаючы ўбакі, касу з дзірвану і войкала:

— За што ж мяне бог так пакараў?! Чым жа я яго ўгнявіла?!. Як жа мы, сыночак, перазімуем... Здохне наша худобінка...

Потым змоўкла, паклала ў куст касу і ўзяла ў рукі серп.

Мал. П. Драчова

## II

Сонца адышло ад зямлі, пазырчэла, і настылая за ноч зямля дыхнула ў твар парным, цёплым духам. Спадала раса, закіпела, зазвінела ад пчол грэчка, духмяная да казытлівасці ў грудзях — можна было папярхнуцца. І ад сонца і ад грэчкі, белай, як малады снег, рэзала Толіку ў вачах.

З касою на плячы і посцілкаю пад пахаю, ён кульгаў сцежкаю, якая збягала з грэчкі ў карчы, на паплавец.

У карчах ужо нехта джвэгаў касою. Толік падышоў бліжэй і пазнаў дзядзьку Цімоха. Быў ён у лутовых лапцях, у палатняных штанах-споднiках з выцепанымі, рудымі калашынамі — недзе ў рэчцы за іх узялася балотная ржа. Ваенная шапка ляжала на яго галаве брылём на патыліцу.

Каса роўна і гладка хадзіла ў Цімохавых руках, выядала траву да голай зямлі. Трава — перапляцены гарошкам ціпец — клубамі скочвалася з-пад ляза ў тоўстыя, бухматыя рады. Толік з зайздрасцю глядзеў, як косіць дзядзька. Здавалася, што ён не косіць, а забаўляецца з касою — так чыста і лёгка вымятаў перад сабою густы, як воўна, ціпец.

Цімох дагнаў пракос да карчоў, вярнуўся назад, спыніўся ля Толіка. Той стаяў на пракошы і цёр адна аб адну свае босыя, парэпаныя ногі — кусалі камары.

— Ты чаго? Не бачыў, як косяць? — Цімох пучком травы выцер касу. І — ужо са злосцю: — І не прыладжвайся тут: занята... Ідзі кажу! Ну!..

Толік павярнуўся і моўчкі пакульгаў да рэчкі.

Цімох памянташыў касу і заняў новы пракос.

Нешта яму пачало не ставаць у спрыце і лёгкасці, бы рукі абвялі — махаў касою цяпер чамусьці не так лоўка і вольна; ззаду на пракошы аставаліся хібкі травы — касіць стаў не так чыста, як няда́ўна, прапускаў траву, вяртаўся назад, збіваў яе касою і, чым часцей гэта рабіў, разбірала на сябе злосць: падумаў, што спяшаецца касіць, і прымусіў сябе ісці за касою памалей, мацней націскаючы на касавільна.





Каса цяпер ішла перад Цімохам сама, вяла за сабою, размахвала яго рукамі, і ён бы забыў, што робіць. Як ні касіў — у вачах стаяў гэты Юзікаў хлопец з сінім тварам, з анучаю на назе, з іржаваю касою на плячы... З яго бацькам ён калісь гуляў разам на вячорках... На Віслe яго, бедалагу, палажыла, і дзеці асіроцелі. І ўсе, як гарох, дробныя: адно аднаго не панясе... А гэты, Толік, з іх большанькі...

Каса нешта стала не браць траву. Ён падняў яе да вачэй, памацаў лязо пальцамі, упэўніўся, што яно вытупілася, і пайшоў у канец пракоса па брусок — палажыў яго там у цяньку пад карчом. Патаптаўся на тым месцы і не знайшоў — бы ў ваду кануў брусок.

Ён стаяў і не ведаў, што рабіць: ісці прасіць да Юзікавага хлопца не хацелася... Бы хто не пускаў яго...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Трава тут была, як валасы на цемені дзіцяці: рэдкая, мяккая мычка ляжала паклычаная на зямлі — тут быў выган.

Цімох прыслухаўся. За лазовым карчом нехта шамацеў, і ён пайшоў туды. Выглянуў з-за карча: Толік стаяў на каленцах на зямлі, дзвюма рукамі скуб траву і складаў яе ў маленькія кучкі. Каравая ануча на яго назе размоталася, і на чорнай пяце быў бачны жоўты, выспелены нарыў.

— Што гэта ты тут робіш? — папытаў Цімох.

Толік уздрыгнуў ад яго голасу, падняў галаву.

— Нічога... Траву рву.

— А чаму не косіш яе?

— Я, дзядзечка, не ўмею...

— Хай бы маці навучыла...

— І яна не ўмее.

У грудзях Цімоха нешта торгнулася, апяклося, бы памарака схапіла: ён стаяў як не на сваіх нагах і не ведаў, што казаць — мову адняло... І ўсяго яго сціснула ўнутры нешта шчымлівае і скамянелае...

Толік стаяў на каленцах, апусціўшы галаву, і церабіў пальцамі траву, быццам быў у нечым вінаваты.

Цесната і пякучасць адхлынулі ад Цімоха, ён перавярнуў на галаве шапку брылём на лоб і азваўся:

— Ты ж так рукі парэжаш аб траву.

— Я парэзаў ужо.

Толік адвярнуў убок ад Цімоха твар і заплакаў.



Плакаў ён па-дзіцячы горка і шчыра: круціў, адтапырыўшы ніжнюю губу, кашчавым кулачком ля вачэй, раскоўзваў па твары слёзы.
Цімох нахіліўся і пагладзіў яго па галаве.

### III

Пад вечар Антося выбрала на сотках лён, змеркавала, што на ільнішчы можна выбіць посцілку сена — на загоне асталося доўгае, пахілае зелле — і гукнула сына.
Толік узышоў на загон, паставіў касу, утыркнуўшы яе касавільнам у зямлю, узяў у руку мянташку. «Жах! Жах! Жах!» — звонка разлеглася рэха на поплаве. Перахапіў далонню палатно касы на сярэдзіне, каб ямчэй было падтачыць, і — ужо глушэй азвалася рэха: «Шах! Шах! Шах!..»
Маці бачыла, як у руках сына лоўка і спрытна шоргала мянташка, як ён, прутка расставіўшы ногі, пайшоў за касою, валіў у разору зелле, і ў сярэдзіне ёй заныла і запякло, і свет засланілі слёзы...
Яна плакала: у сям'і вырас мужчына...

# АБОРКА НА ЧАМАДАНЕ

### 1

Распараны ад духаты, Андрэй Млынскі сышоў з аўтобуса, агледзеўся і ступіў на цупкую, віхлястую сцяжыну. Па баках яе лянiва калыхалася ад ветру спалавелае жыта, каласы шчыкатліва тыцкаліся ў рукі, лашчыліся даўно знаёмаю ласкаю роднай зямлі.
Стрэхі хат падняліся з жытоў нечакана, як толькі ён узышоў на пагорак. Нешта торгнулася ў душы, ахапіла ўсяго яго здзіўленай нечаканасцю і гарачым хваляваннем: Млынскі ўбачыў матчыну хату. Пайшоў павольней, шукаючы вачыма ў ёй нечага новага і незнаёмага. Але не знайшоў: хата стаяла такая, як і калісь — пачарнелая ад дажджоў, абгароджаная хісткім штыкетам, стуленая, з адным акном на вуліцу. Ён прагна ўглядаўся ў гэтае акенца на чатыры шыбіны і ўсхвалявана адчуваў, што сустрэча з маці, аб якой думаў усю дарогу і нецярпліва чакаў, цяпер ужо зусім блізкая і хуткая.
Падыходзіў Млынскі да хаты з такой асцярожнасцю і заміраннем, што прыйшлося спыніцца, каб пераадолець імгненную нерашучасць; стаяў, пераводзіў дыханне, прыслухоўваючыся да сябе, і ніяк не мог саўладаць з хваляваннем, якое ўзнялося ў ім.

### 2

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
У гэтыя дні ён жыў у нейкай урачыстай радасці, якая была прыглушана горадам, доўгім расстаннем з вёскай, бо радасць гэтая



нібы паднялася з забыцця, успомнілася і адчулася, як некалі, падзіцячаму лёгка і шчыра. І не мог Млынскі насыціцца ёю: кожную раніцу,— толькі чырванню набрыняе ўсход,— абкручваў ногі да пяшчоты мяккімі анучамі, абуваўся ў рыжыя лапці, будзіў суседанастаўніка і, паклаўшы на плячо рыбацкую сетку, ішоў з ім цераз духмяныя паплавы на возера. І ісці было лёгка, бы не сваімі нагамі, і адчуваў ён сябе нейкім другім, непадобным на сябе ў гэтым урачыстым настроі.
Потым весела трапяталася перад вачыма полымя, і ён, дрыготкі, мокры і шчаслівы, натыкаў на ражон скрылёк сала, саджаў яго ў агонь, смажыў. Падстаўляючы пад кроплі тлушчу скібку хлеба, нёс да нясцерпу смачную скварку ў рот і прыемна апякаў ёю губы... А ў гэты час закіпаў у полымі чыгунок з юшкай...
Прыходзіў дадому Млынскі прыемна стомлены, клаўся спаць у шаматлівае, духмянае,— аж кружылася галава,— сена і ніяк не мог заснуць: мроілася — перад вачыма стаяла возера, а на ім, бы расстаўленыя зялёныя сподкі, ляжала лісце лілей, у вушах чуўся блёкат вады, а ў сетцы лепаталі краснапёркі, трапяталіся карасі, кідаліся шчупакі...
І засынаў — прыемна тануў кудысьці ў цемру.
Прачынаўся на досвітку, дыхаў туманам і зноў не пазнаваў сам сябе ў лагоднасці і ціхай радасці.

### 3

Млынскі расплюшчыў вочы і зажмурыўся — праз шчыліну ў зашчытку моцна біла сонца. У хлеў праз вароты залятали ластаўкі, са шчэбетам насіліся ў вільчыку страхі, растапырыўшы раздвоеныя, вострыя, бы нажніцы, хвасты.
На двары нехта гаварыў з маці:
— Бог у помач, Настуля!
— Казаў бог, каб ты памог... Што гэта ў цябе ў запазусе, Хвёдарка?
— Яблыкі. Гаўрыла, дзякаваць яму, нарваў. Можа табе, саколка, даць, га?.. На... пасмакуй.
— Зубоў няма, Хвёдарка.
— От як... І ў мяне павыпадалі... Куды ж іх дзець?..
— Аддай чым-небудзь дзецям.
— І то праўда.
Гаварылі яны адзін да аднаго спагадліва, да наіўнасці шчыра і проста, і Млынскі, слухаючы гэтую адвыклую для сябе гамонку, уяўляў-бачыў выразы іхніх пацямнелых, аплеценых маршчынамі твараў, бачыў рукі, якімі яны памагалі сабе ў размове.
— Можа пайшла б сёння, Настуля, лён палоць?
— Які ж, Хвёдарка, з мяне работнік цяпер... От ледзьве ногі цягаю... Маладзейшым загадай...
— Дзе ты іх бачыла?.. У горад паз'язджалі твае маладзейшыя...
Гамонка абарвалася. Ляснула фортка — крокі застугнелі на вуліцы.
«Хто гэта прыходзіў? — ляжаў у застаронку і думаў Млынскі.— Няўжо той самы Хведар, што і раней рабіў брыгадзірам?..» Яму прыйшло на памяць, як некалі яны, малыя, пацвельваліся з Хведара, калі ён хадзіў па дварах і даваў нарады. Чамусьці Хведара не любілі сабакі. Ён ведаў гэта і заўсёды, каб адагнацца ад іх, насіў



з сабою кіёк. І калі, бывала, на дварах якаталі, заходзіліся ад брэху сабакі, усе ў хатах ведалі, што па вуліцы ідзе Хведар. Меў брыгадзір дзіўную звычку: усё, што трэба было яму, насіў не ў кішэні, а ў запазусе... Чаго толькі не было ў яго адтапыранай запазусе: тытунь, яблыкі, алоўкі, ведамасці... Было і такое, што ён, прыняўшы ў калгаснікаў работу, губляў свае запісы...

## 4

У гэты вечар у хаце яму было непрывыкла маркотліва ад цішыні і спакою, гудзення сонных мух у кутках, слепаватага водсвету полымя з печы, які мітусіўся па сцяне, хістаў згорблены цень ма-



церы. Паклаўшы пад галаву рукі, Млынскі ляжаў на ложку і вёў з ёю нетаропкую гамонку. Маці сядзела насупраць печышча на доўгай, праз усю сцяну, лаве, лупіла на вячэру картоплю. Сарамлівая ад сваёй адзіноты і нявыказанай дабраты да сына, яна ўздыхала, гаварыла працяжна, часта збівалася са слоў, баючыся сказаць штонебудзь неўпапад:

— ...Дзе тут управішся... І ў калгас трэба хадзіць, і свае соткі зеллем пазаганяла... Хоць на часткі разрывайся... А тут яшчэ, як на тое гора, у спіне ломіць — разагнуцца няможна... Папарачкуй, папагніся на полі ад цямна да цямна...

Млынскі слухаў яе тужлівы голас, якім маці адводзіла перад ім душу і жалавалася на сваю жытку, і гэтая матчына туга перадавалася яму. І не так перадавалася, як прыгадвалася, усплывала ў душы, бо была гэтая туга даўно вядомая яму, адчутая і перажытая



ў маленстве тут, у матчынай хаце. І Млынскі забываў сябе цяперашняга, вяртаўся ў памяці да свайго дзяцінства. Тады ён ніяк не мог выспацца: ноччу пасвіў, каб зарабіць мацеры працаднёў, калгасныя коні; удзень хадзіў у лес, гнуўся да самага вечара ў ягадніку, збіраючы ў кашэль чарніцы, за якія можна было ў краме купіць кулідку хлеба; увечары кляпаў касу, хадзіў пры расе на ўзмежжы, каб выбіць і высушыць хоць вязанку сена карове на зіму. І не мог пацягнуць касу — не хапала мужчынскай сілы...

Вастрэй памяталася радасць. З ёю тады лягчэй перажываліся дзіцячыя нягоды, забывалася сіроцкая нядоля. А можа памяталася таму, што ён, малы, толькі вучыўся тады радавацца шчыра і ўзнёсла прыгожаму і добраму; можа ад самой нядолі была гэтая радасць, бо радасці было тады вельмі мала і яе вельмі хацелася. Ён радаваўся зялёным слядам на шызай, дымнай ад расы траве, ляскату перуна, ад якога лопалася хмара, цененькаму шамаценню дажджу па лісцях гарбузніку, шырокай і глыбокай паводцы туману на поплаве, у якой, пырхаючы, тапіліся коні; радаваўся злоўленай птушцы, картовай сарочцы, якую пашыла маці да свята, першай маладой бульбіне ў місцы, скібцы хлеба з першага ўмалоту...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Памру я хутка, сынок. І ў хаце няма з кім пагаварыць — адзін кот жыве... Як, бывала, захварэю, дык няма каму ў ложак вады падаць...

Маці сядзела ля Андрэя з трапкачом у руках, якім нядаўна прыстаўляла да агню чыгунок з картопляю, перабірала пальцамі на ім матузы. Млынскі слухаў яе і ніяк не мог здагадацца, што яна хоча казаць.

— Кідай, сынок, той горад ды пераязджай сюды... Хоць бы ў горадзе ў цябе кватэра была, а то жывеш недагледжаны, па чужых людзях... А тут я табе варыла б есці... Акурат і месца ў нашай школе аслабанілася... Жаніўся б тут на ўрачысе, і дзетак тваіх перад смерцю пакалыхала б... Ды і мне, як ні кажы, помач была б.

Пачуўшы такое, ён падняў з падушкі галаву:

— Усе едуць у горад, а я... з горада. Я лепш, мама, буду кожны месяц па дзесятцы прысылаць...

— Сам з капейкі жывеш... Хоць бы табе самому хапала...— уздыхнула яна.

Тупала ўжо ля печы і падварушвала ёмкаю жар, падграбала яго пад чыгунок, каб хутчэй зварылася бульба.

## 5

„Здароў, Слава!

Праз лясы і палі, праз усе адлегласці, якія раздзяляюць нас, шлю табе віншаванне — заўтра ж твой дзень нараджэння. Ты пытаеш, як я тут адпачываю? О, дружа, я ледзь не звар'яцеў ад шчасця, калі прыехаў дадому. Упаў быў тварам у траву, і трава блізка ля вачэй здалася мне непралазнымі, глухімі джунглямі, а кузуркі, што бегалі па яе сцяблінках,— трапічнымі жывёлінамі. Потым качаўся, як той жарэбчык, па зямлі, і ў маіх вачах зямля мянялася месцам з глыбокім небам і на ім гайдалася бліскучае, зыркае сонца.

І калі я наталіўся радасцю, тут, у вёсцы, мне стала нечага не хапаць. Радасць, з якой жыў гэтыя дні ў вёсцы, апала ў душы...



Унутры нешта надарвалася, перавярнулася... І пацямнела глыбокае неба ў вачах — ад хмар, ад дажджу, ад нуды...

Каб прагнаць сум, хадзіў учора ў калгасны клуб: думаў, што стрэну каго-небудзь са сваіх равеснікаў і душу з імі адвяду. Але нікога не ўбачыў: хто жаніўся, хто ў горадзе... Прыйшоў дадому і месца сабе не знаходзіў ад несамавітасці... Бы што згубіў...

Няўжо мне так захацелася ў горад?

Каб забыць сябе, здзічэлага ад суму і адзіноцтва, сёння цэлы дзень сплю. Распухла ўся морда і заплылі ад сну вочы.

Не, не дабуду я тут да канца водпуску — хутка прыеду... Чакай.
Твой Млынскі».

## 6

— От я табе іх насалю... З маладою картопляю будзеш есці,— гаварыла маці Млынскаму добрым, ласкавым голасам, бы маломў дзіцяці. Яна стаяла на сярэдзіне хаты з поўным прыполам гуркоў і шукала вачыма, у што іх высыпаць.

Росныя, з адлежанымі бакамі, гуркі пахлі гародам, сырою зямлёю.

— Я заўтра, мама, паеду.

— Куды?.. Шчэ ж водпуск твой не кончыўся?..

Вочы яе трывожна зірнулі на сына, і не ўтрымала ў руках прыпол — гуркі пасыпаліся, загрукацелі аб падлогу, і жаўтляк, руды і парэпаны, падкаціўся пад самыя ногі Млынскага.

— Да таварыша трэба заехаць...

— Таварыш, сынок, табе стаў даражэйшым за маці...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Раніцай маці выбірала яго ў дарогу. Пакавала ў чамадане: у адзін бок перакладала, каб у дарозе на іх не пацякло варэнне са слоікаў, чыстыя сарочкі, у другі — сала, загорнутае ў газеты. Потым збегала ў сенцы, вярнулася адтуль з аборкаю і перавязала ёю чамадан пасярэдзіне — каб у дарозе не расчыніўся. А калі Млынскі памыўся, паставіла на стол гладышку малака, поўную талерку цёплых блінцоў і ўсё яго ўпрошвала:

— Еш, сынок... У дарозе ямчэй будзе...

Андрэй сядзеў за сталом і еў, а яна крадком усё пазірала ды пазірала на сына — хацела наглядзецца надоўга, каб стаяў у вачах, бы жыў з ёю, да таго часу, пакуль зноў не прыедзе.

Пасля ён апрануўся, надзеў шаматлівы плашч-балонню, і з чамаданам у руцэ ступіў на парог. У яе грудзях нешта апяклося і заныла, і, калі ўжо выйшлі з хаты, яна ледзь паспявала за сынам і нешта шаптала сама сабе — нібы малілася.

## 7

Ляскаталі колы цягніка...

Ён сядзеў у купэ і глядзеў у акно. А ў акне вагона, як на экране, марудна разгортвалася прамытая дажджом зямля з цёмназялёнымі хвойнікамі, з белым разлівам грэчкі на палях, з дробнымі вёсачкамі ўдалечыні; беглі, гналіся адзін за адным у хвост цягніка

слупы, і абвіслыя правады на іх то ападалі ўніз, то ўзляталі ўгару.

І застыла ў нерухомасці зямля, і спыніліся за акном слупы — быў першы паўстанак.

Завалтузіліся, зашархалі нагамі ў праходзе вагона, нехта ў тамбуры ўжо лаяўся з кандуктаркай — напіраў, відаць, на яе з чамаданам,— і Млынскі блізка ля сябе пачуў порсткія крокі і абярнуўся на іх стук толькі тады, калі пачуў мяккі жаночы голас:

— Месца свабоднае?

На яго глядзелі вялікія дзявочыя вочы, і было ў іх позірку нешта тамлівае і пякуча-таемнае, і ён, адчуўшы ў сабе ціхае хваляванне, на момант разгубіўся, а пасля ціха выдыхнуў:

— Ага.

Яна села насупраць, падтуліўшы пад сябе стройныя, аблітыя блакітным капронам ногі, выняла з сумкі «Часопіс мод», паклала яго на калені і стала марудна перагортваць старонкі. І калі нахіляла над часопісам галаву, чорныя, распушчаныя на плечы валасы абсыпалі пасмамі ёй твар, і звыклым рухам рукі яна закідвала іх назад. І хоць бы раз глянула на яго. Наблудзіўся раптам ён позіркам на свой чамадан, які стаяў ля яго ног, і адчуў, як пагарачэлі шчокі і ўсяго яго ахапіла сарамлівая ніякаватасць і неспакой: ён убачыў аборку. Крадком глянуў на дзяўчыну і трохі паспакайнеў: яна не глядзела на чамадан. А калі зноў нахілілася над часопісам, выняў з кішэні складанчык і, чыркнуўшы ім па аборцы, вышмаргнуў яе з-пад чамадана ды цішком сунуў у кішэню. І сеў, разважлівы і цяпер спакойны.

Зноў не спускаў вачэй са сваёй спадарожніцы, чакаў, калі яна дагартае часопіс...

◆ ◆ ◆

Апавяданні

**Івана КІРЭЙЧЫКА і Алеся НАЎРОЦКАГА**

**чытайце ў бліжэйшых нумарах.**

**Ніл ГІЛЕВІЧ**



●

Далёка ў полі, на пагорках варненскіх,
Дзе не чутно курортнай гаманы,
Сімфонію часоў яшчэ даварварскіх
У трыста скрыпак граюць цвыркуны.

Пад кожным кустам і пад кожным кусцікам,
На ўвесь прасцяг без межаў і граніц —
Азванчаная незямной акустыкай
Язычаская музыка грыміць!

Здаецца, свет увесь ёй зараз поўніцца.
Яна праходзіць праз мяне ўсяго:
Ты не забудзешся? Табе запомніцца
На лісцях яблынь срэбнае сяйво?

Яна, здаецца, на зямлі не месціцца —
То адляціць увысь і прападзе,
То раптам зноў вяртаецца з-пад месяца —
І ў глыб начы мяне далей вядзе.

Далей, далей, нязведанай сцяжынкаю,
Дзе водар жніўня соладка п'яніць,
Дзе векавечнай песняй старажытнаю
Сама зямля балгарская звініць.

Забуду многіх музыкантаў хваленых,
Але й прад смерцю прыгадаю зноў —
Далёка ў полі, на пагорках варненскіх,
Язычаскія скрыпкі цвыркуноў.

●

На змярканні, калі ў небе зоры
Праступалі, прывідна-няўстойлівыя,
Мы купаліся ў Японскім моры,
Пераездам і спякотай стомленыя.

Цішыня стаяла над затокай —
Пэўна, ветры спалі супакоенымі
Недзе там, у далечы далёкай,
За Курыламі і за Японіямі.

Толькі чуўся хвалі плёскат мерны —
Перашэпты ціхія з каменьчыкамі...
І адходзілі лагодна нервы,
Што здаваліся ушчэнт скамечанымі.

І дзівілася палёгцы цела,
Што нядаўна чулася старлыбінаю.
І ныраў у хвалях месяц белы
Неспайманай серабрыстай рыбінаю.

●

Замірае,
Сціхае
Мая залатая дуброва,
Асыпае,
Скідае на дол
Свой задумлівы ўбор.
Не звініць і не льецца
Раздольна-вячыстая мова,
Толькі шорхат сухі пад нагамі,
Як скарга-дакор.

А нядаўна ж яшчэ —
На пачатку нядоўгага лета —
Божа мой,
Што рабілася тут,
Што за свята было!
Як усё бушавала.
Буяла лістотай і цветам,
Як усё гаманіла,
Спявала,
Гукала,
Гуло!

Колькі радасці
Чулася ў кожным разбуджаным гуку!
Колькі сілы
Укладалася ў сокат,
І строкат,
І свіст!
Кожны парастак прагнуў
Узвысіцца дрэвам магутным,
Кожны лісцік
Хацеў разрасціся ў агромністы ліст.

Дзе ж падзелася ўсё,
Што заместа вячыстага слова —
Толькі шорхат сухі пад нагамі,
Як скарга-дакор?..
Замірае,
Сціхае
Мая залатая дуброва,
Асыпае,
Скідае на дол
Свой задумлівы ўбор.

●

Не баюся, што мой век не вечны,
Што падамся за дзядамі следам.
Калі міф пра пекла недарэчны —
Дык чаго баяцца стрэчы з дзедам?

Пашкадую толькі, што замала
Даражыў нявечнымі дарамі:
І язміннымі начамі мая,
І дажынкавымі вечарамі.

Пашкадую, што пайду ад гэтых
Дарагіх і мілых сэрцу гоняў,
Што на сцежках-пуцявінах свету
Не пацісну ўжо сябрам далоняў.

А мацней за ўсё я пашкадую
Перад тым, як свет пакінуць весні,
Што ўжо больш ніколі не пачую
Нашай роднай беларускай песні.

□ □ □

Генадзь ПАЦЫЕНКА



# ДЗЕ НАРАДЖАЕЦЦА ВЕЦЕР

Апавяданне

Мал. В. Шрамякова

На беразе мора скакаў хлопчык у кароткіх штоніках і блакітнай майцы — таптаў нагамі пену. Хвалі паўзлі да яго доўгімі, бясконцымі шарэнгамі. Удалечыні, на шырокім гале мора, яны шалелі, а ля берагу цішэлі, і быццам стомлены плывец, разлягаліся на пяску, пакідаючы на ім пену, якую прыносілі на сабе.

Паміж пасёлкам і берагам — вялікія валуны. Сярод іх замільгала нечая кудлатая галава: да прыстані, дзе мора тузала, гайдала на сабе лодкі, ішоў чалавек.

Хлопчык у адзін момант узлез на валун, саскочыў на дол і з усіх ног кінуўся да прыстані.

Мужчына, зусім яшчэ незагарэлы адвязваў лодку. Ля яго ног ляжалі вёслы.

— Добры дзень! — прывітаўся хлопчык.

— Добры дзень, малы,— абазваўся мужчына.

— Катацца паедзеце?

— Не, паеду загараць.

— Загараць у мора на лодцы? — здзіўлена перапытаў хлопчык.

— Чаму ж гэта ў мора? Вунь туды, на востраў паеду.

Хлопчык паглядзеў на прадаўгаваты востраў, які быў не вельмі далёка ад берагу.

— А ці можна мне...— заікнуўся быў хлопчык ад хвалявання,— ...можа мне з вамі паехаць?

Мужчына доўга маўчаў і чамусьці скроб пальцамі патыліцу. Потым вымавіў:

— Што ж, едзь...

Мужчына зняў свае парусінавыя штаны і акуратна паклаў іх у лодку.

Яны ўзяліся за борт лодкі, мерачыся ўскочыць у яе. Хвалямі вырывала лодку з рук, кідала ў бакі, і хлопчык як не захліпваўся ад захаплення.

— Мяне завуць Цімка! — моцна пракрычаў ён мужчыну.

— Во як! І часта ты, Цімка, бываеш у моры?

— У моры я ніколі не быў.

— Во як!

— Я прыехаў з Сібіру. Да дзядзі Пракопа... Ён брыгадзір. Брыгадзір у рыбакоў!

— Во як! — усё паўтараў мужчына.

— А я вас ведаю. Вы прыехалі з Масквы!

— Адгадаў.

— А ваш дзядзя — інжынер,— не змаўкаў Цімка.— І жыве з маім дзядзем у адным доме!



— Значыцца мы суседзі?

— Так,— згадзіўся хлопчык.

Да вострава недалёка. І здаецца, што не шумяць хвалі, а гамоняць на востраве сосны.

Яны ішлі, папіхаючы перад сабою лодку, яшчэ па мелкаводдзю.

— А вы — артыст? — пытаў Цімка.

— Я? Я артыст.

— А ў нас няма артыстаў.

— Затое ў вас ёсць мядзведзі. Ты бачыў мядзведзя?

— Бачыў.

— Глядзі ты! І вялікага?

— І вялікага і маленькага.

— А ён цябе?

— Не, не бачыў.

— Табе пашанцавала... Ну, лезь у лодку.

І мужчына палез першы, боўтаючы ў вадзе нагамі. Цімка лёгка падцягнуўся на руках і перакуліўся цераз борт у лодку — яна амаль не асела.

— За вёслы! — падаў каманду мужчына, стаў на ногі і, хістаючыся ў бакі, пайшоў да лаўкі — у нос лодкі. Але Цімка яго апярэдзіў: схапіў у рукі вёслы і пачаў устаўляць іх у качоты.

— Мы будзем разам веславаць? — спытаў ён у артыста.

— А ты ўмееш?

— Умею.

І Цімка схапіўся дзвюма рукамі за кароткую, тоўстую ручку весла. Весла было цяжкое, і хлопчык ледзьве варочаў ім. Хутка Цімка зусім перастаў грэбсці — хвалі самі неслі лодку.

— Дай, малы, мне аднаму паспрабаваць,— артыст напляваў на далоні і сеў на месца Цімкі. Хлопчык перасеў на другую лаўку,— на карму.

— За лета навучышся і ты веславаць.

— Няўжо?

— Канечне, навучышся.

І яны разам усміхнуліся — мужчына і хлопчык: сонечнаму дню, ветру і мору.

З кармы хлопчык перабраўся на нос лодкі, перагнуўся цераз борт і зачэрпнуў у далоні вады. Падзьмуў вецер, пырскнуў з далоні кроплямі вады, сiканyў імі па спіне і шыі артыста — і яны зноў засмяяліся.

Любуючыся морам, яны не заўважылі, як лодку панесла лявей ад вострава. Цяпер хвалі круцілі лодку, падхоплівалі і перакідвалі яе адна адной, шпурлялі ўніз — бы забаўляліся.

— Дзядзечка, я баюся! — закрычаў ад страху Цімка.

Артыст зразумеў: трэба хутка грэбсці. Ён мацней налёг на вёслы, але грабнуў толькі адным вяслом — лодка развярнулася.

— Хачу на бераг! — Цімка моцна ўчапіўся рукамі за лаўку.

Мора хвастанула па борце дашчанкі тугою хваляю, ударыла пад днішча і панесла лодку паўз бераг. Яны разгублена сталі аглядацца па баках. Востраў быў ужо далёка ад іх. Бераг — бліжэй. І ў тым месцы берагу, куды іх несла, раз'ятранае мора кідалася на каменныя выступы гор. Вецер гнаў лодку якраз на гэтыя выступы.

Хваля зноў моцна пляснула па дашчанцы. Артыст мацней сціснуў у руках ручкі вёслаў. Ён зразумеў — грэбсці трэба асцярожна, каб не страціць раўнавагу. Але па-ранейшаму няўмела варочаў вёсламі, і лодку круціла, залівала вадою цераз барты.

І ў артыста раптам выспела рашэнне — трымаць лодку ўпоперак хваль, трохі на ўскос ім. Тады яна можа плыць сама. І ён павярнуў лодку, укладваючы ў вёслы ўсю сваю небагатую сілу.

Лодка нерашуча пастаяла між хваль і памалу папаўзла да вострава. Трэба было даплыць да таго месца, дзе ён упершыню ўзяўся за вёслы — там востраў прыкрые іх ад раз'юшаных хваль. Але праз нейкі момант ён зразумеў, што сілы ў яго на гэта не хопіць. Рукі і ногі знямелі. Пальцы не сціскаліся, вёслы выслізгвалі з іх. Калі б не было ўключын, вёслы даўно панесла б па хвалях. Ну і няхай! Яму захацелася самому іх кінуць у ваду. Недзе чуў, што можна ўчапіцца за борт перавернутай лодкі і ўратавацца. Калі вецер дзьме з мора — яе абавязкова прыгоніць хвалямі да берагу. Ён нават узрадаваўся магчымасці вызваліцца ад вёслаў.

— Гэй, ты! — напомніў раптам пра сябе хлопчык.— Даганяй нас!

Артыст глянуў на яго. Дзіўна — малы размаўляў з хвалямі...

— Глядзіце! Не дагнала!

І хлопчык зноў загаварыў з морам. Нічога, што яно было злоснае — мора можна ўгаварыць. Калі на моры дыбяцца хвалі, дзядзька Пракоп, звычайна, падыходзіць да берагу і гаворыць ім:

— Ну, хопіць... Падурэлі і хопіць...

Ад яго слоў хвалі сціхаюць, ападаюць і тады ён з рыбакамі, паклаўшы ў лодку сеткі, ідзе ў мора.

— Э-э-й! Даганяйце!

Хлопчык зноў крычаў хвалям. Было незразумела, як вецер не скіне яго ў ваду. Спачатку артыст хацеў сказаць Цімку, каб той хапаўся за борт лодкі, калі яны перавернуцца, але перадумаў. І цяпер, пазіраючы то на яго, то на вёслы, веславаў і веславаў, і ні аб чым не думаў. Ні пра бераг, ні пра мора, ні пра хвалі на ім.

Ля вострава хлопчык прыціх. І ў той жа момант з-за берагу выскачыў кацер. Развярнуўся недалёка ад іх, падышоў да лодкі, і з кацера данеслася:

— Яшчэ адна! Бяда з гэтымі дачнікамі!

Артыст перастаў грэбсці і апусціў у ваду далоні з вадзяністымі мазолямі.

* * *

Раніцай дзядзька Пракоп пайшоў здымаць сеткі. Цімка спаў. Калі даведаўся, пабег да берагу. Тры лодкі, па тры рыбакі ў кожнай, калыхаліся на хвалях ужо ля самага вострава. Адна з гэтых лодак была тая, на якой ён з артыстам учора спрабаваў даплыць да вострава.



Хутка лодкі прычалілі да берагу. Рыбакі пачалі згружаць рыбу. Цімка памагаў выпутваць яе з сетак.

— А чаму сеткі стаялі ля вострава? — спытаў Цімка ў дзядзькі Пракопа.

Той выцер рукі фартухом і адказаў:

— Там травы многа. Рыба ноччу есць яе.

У кашы з рыбай наклалі лёду, потым рыбу пагрузілі на машыны і павезлі ў горад. Цімка застаўся на беразе. Пачаў быў таптаць нагамі пену, але, заўважыўшы артыста, які загараў на валунах, падбег да яго.

— Вы сёння катацца паедзеце? — спытаў Цімка.

— Не.

— А на востраў?

— Не, не паеду.

— І заўтра?

— І заўтра.

Вецер непрыкметна аціхаў. Было яму ўжо не пад сілу гнаць вялікія валы хваляў, і Цімка, углядаючыся ў марскую далячынь, спытаў яшчэ раз:

— Скажыце, а дзе нараджаецца вецер?

— Вецер? — перапытаў мужчына, уздымаючы галаву.— Вецер... Гм... Вецер... Відаць, ля іншых берагоў...

— А тут, ля гэтых берагоў,— паказаў Цімка на горы,— вецер можа нараджацца?

— Не ведаю, малы. Не ведаю,— і артыст уткнуўся ў кнігу.— Раніцай ты мог паехаць з рыбакамі да вострава... Чаму не паехаў?

Хлопчык не адказаў.

Вецер прыслухаўся да іх размовы і хітравата засвістаў у рыбацкіх сетках, якія былі развешаны на беразе. Цімка маўчаў, бо добра ведаў, што ў вялікі вецер дзядзька Пракоп ніколі не возьме яго ў лодку. Не возьме, бо ўсё жыццё жыве ля сярдзітага мора.

А без ветру Цімка і сам не паедзе.

Пераклад з рускай мовы.

◆ ◆ ◆

## У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ

перакладу з УЗБЕКСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ.



Сяргей ПАНІЗНІК

●

●

Продкі мае —
крывічы,
камяні
асцярожна ў далоні бралі —
клалі першыя гарады.
На веча
майстроў склікалі,
каб паслаць Скарыну
роднаю моваю
першую кніжку стварыці.
У навалу —
браты паўставалі.
Скакалі шалёныя коні,
з чыстага срэбра мячы
сінь напалам калолі —
сцякала яна па палянах...

Ці не таму каля гулкіх бароў
столькі азёр сінее...
Як поўныя кублы —
стагоддзі.
Зачэрпні па гарцу з кожнага —
прыпамінамі свет напоўніцца...



●

Знаеш ты,—у маю вернасць не вер.
Часта вернасць, як пошум здаля.
Як адданасць травы — перавер,
пераваж чалавечы павер —
і раскінь па прылесных палях.
Хай ён трапіцца пчолам, чмялям,
ў жаўруковыя гнёзды ўпляцецца...
Толькі ворагу я не аддам
свой давер і спагаду сэрца.

●

Недзе там —
цішыня і золакі,
і азяблыя плечы Золушкі.
Гномы дзіўныя,
барадатыя
папрыцціхлыя зоры кратаюць...
Я прашу,
мая Зола,
Золушка,
зберажы мне чакання золата, —
каб сыйшліся сцяжыны росныя
у краіне дарог і ростаняў.
Там складзем непаўторныя казкі
з далячыняў,
даверу
і ласкі...
А Яга — злосці поўніць торбу...—
Мы не возьмем з сабой яе,
добра?

□ □ □

**НА ЧАРЗЕ ПУБЛІКАЦЫЯ**

**артыкула Фёдара ЯФІМАВА**

**ПРА МАЛАДУЮ БЕЛАРУСКУЮ ПАЭЗІЮ.**



## Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ

●

●

Мяне зіма
абдымкамі замучыла,
цалуе —
і ніяк не нацалуецца.
Пытаецца,
чаму такі засмучаны,
чаму не баўлю
з ёю час
на вуліцы.
Аднекваюся я:
— Прабач, адзіная...—
І, каб гучала больш пераканана,
тлумачу:
— Кожнай даражу гадзінаю —
пішу паэму пра каханне.
Зіма
з лыжні
упарта не зварочвае —
яна туды мяне паехаць просіць,
дзе на бярозах рыфмы,
як званочкі,
вісяць, вісяць —
і падаюць у просінь...
О, як мне цяжка
слухаць шэпт старэчы!
Лягчэй ісці
з рагацінай
на звера...



На досвітку,
пасля тае сустрэчы,
пастукаў нехта ціхенька
у дзверы.
Няўжо зіма?
Я ўсхваляваны вельмі —
сустрэчай новаю
не задаволен...
Адкрыў акно...
Перад акном —
у вэлюме
сама Вясна
з паэмай на далонях.

●

Туга мая бяссонная
злятае
з вачэй няўцешных
на глухі парог...
Каго чакаю,—
той не завітае,
чым даражыў я,—
тое не зберог.
А спадзявацца
ўсё ж не перастану,
сагрэюся надзеяй —
і пайду
на змрочны
і прастуджаны паўстанак,
адкуль мой спогад
сіверам падзьмуў.
Павeру, што зямля
ў зялёным звоне,
памаладзеўшы,
зноўку зацвіце,
калі ты выйдзеш
з душнага вагона
на той апошняй,
ветранай вярсце...

●

Любая,
Не трэба крыўдаваць —
ад папрокаў боль не перастане...
Для мяне твой лёс —
не трын-трава,
як сказала ты перад расстаннем.
Не лічы,
што мара перапалена
горыччу нявыплаканых слёз,
што каханне наша пераплаўлена
на сляпую злосць...
Вер,
маю душу не ачарнілі

плеткары з ухмылкаю крывой...
Гэты верш
          пішу я
                    не чарнілам —
ён даўно напісаны крывёй.
Кроў мая цячэ
                    да тае раны,
што разлукай змрочнаю адкрыта.
Тую рану
          і тыраніць
                    і тараніць
па начах
          твая нямая крыўда.

□ □ □ ———————————

## У МАЙСКІМ НУМАРЫ:

## «МІНСК І МІНЧАНЕ»

## —ТАК БУДЗЕ НАЗЫВАЦЦА ФОТАНАРЫС, ПРЫСВЕЧАНЫ 900-ГОДДЗЮ БЕЛАРУСКАЙ СТАЛІЦЫ.





У. І. Ленін. Масква, 28 лістапада 1921 года (кінакадр).

# ЛЕНІН І КАСТРЫЧНІК

50-годдзе Кастрычніка — свята перамог камунізма, марксізма-ленінізма, жыццесцвярджальнага вучэння Уладзіміра Ільіча Леніна — натхніцеля і арганізатара Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, заснавальніка і правадыра Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы, барацьбіта за адзінства міжнароднага камуністычнага руху. Ленінізм — вечна жывая крыніца рэвалюцыйнай думкі, рэвалюцыйнага дзеяння, рэвалюцыйнай мужнасці; да ленінскіх ідэй імкнуцца ўсё новыя і новыя пакаленні людзей, якія выступаюць за сацыяльную перабудову гра-

мадства. Імя Леніна бясконца дарагое ўсім народам планеты, яно стала сімвалам новага свету.

**Рыхтуючыся да 50-годдзя Савецкай улады, Камуністычная партыя, савецкі народ зноў і зноў выказваюць сваю любоў да Ільіча, які аддаў свае сілы, свой геніяльны розум справе рэвалюцыі, барацьбе за шчасце людзей працы, выказваюць непахісную рашучасць свята выконваць яго запаветы, берагчы і памнажаць заваёвы Кастрычніка.**

(З пастановы ЦК КПСС «Аб падрыхтоўцы да 50-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі»).



**Фёдар Пятровіч Бераснеў — удзельнік лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый. Трэцяга красавіка 1917 года, калі сустракалі Уладзіміра Ільіча Леніна, быў на Фінляндскім вакзале ў Петраградзе. І пасля не раз яшчэ бачыў ён і чуў Ільіча...**

**Цяпер Фёдар Пятровіч — на пенсіі. Жыве ў Мінску і часта выступае перад моладдзю з успамінамі.**

# СУСТРЭЧЫ НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ

Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года наш Валынскі полк карыстаўся папулярнасцю ў арміі і даверам у новага, Часовага ўрада. Таму нам і даручылі ахову дзяржаўных устаноў.

Трэцяга красавіка апоўдні да нас у казарму прыйшоў намеснік камандзіра роты. Ён паведаміў, што з эміграцыі вяртаецца Уладзімір Ільіч Ленін. Чакаюць яго на Фінляндскім вакзале. Я адразу прыгадаў расказ салдата Кексгольмскага палка, былога рабочага Пуцілаўскага завода Хрэнава.

Было гэта позняй восенню 1916 года. Мяне тады параніла на фронце, і я трапіў у шпіталь. Там ад суседа па ложку Хрэнава я ўпершыню і пачуў, што Ленін стаіць за рабочых і бедных сялян, выступае супраць цара і яго ўрада, супраць паноў і фабрыкантаў.

— Калі б Ленін быў і зараз у Піцеры, — гаварыў былы пуцілавец, — ён бы папраравіў цару шапку!

Так з расказа Хрэнава ўвайшоў тады ў маю душу Ільіч. Я пачаў расказваць пра яго саслужыўцам. Гэта заўважыў афіцэр Кірпічыкаў, да якога я звярнуўся за дазволам пайсці на вакзал, каб пабачыць Леніна.

Добраахвотнікаў набралася дзесяткі тры, і мы строем накіраваліся на Фінляндскі вакзал. Прыйшлі гадзін у пяць вечара. Ля ўваходу на перон стаялі рабочыя з павязкамі на руках і адзіночак не прапускалі. Мы строем без затрымкі прайшлі на перон.

Тут нам давялося чакаць больш за чатыры гадзіны. Пахаладзела, і некаторыя салдаты пачалі шкадаваць, што пайшлі. Ды яшчэ папаўзлі чуткі, што Ленін арыштаваны.

Але вось запыхкаў доўгачаканы поезд. Слаба асветлены перон перапоўнены салдатамі, матросамі, рабочымі. З вагонаў выходзяць людзі. Аглядаю самых высокіх мужчын: такім я ўяўляў сабе Уладзіміра Ільіча. Раптам бліжэй да паравоза закрычалі: «Ура! Ур-р-ра Леніну!» Я ўбачыў чалавека сярэдняга росту, які стаяў на прыступках вагона і, трымаючыся адной рукой за поручань, другой вітаў сустракаючых. Як толькі Ленін ступіў на перон, матросы і салдаты падняліі яго на рукі і панеслі міма нас, да ўваходу ў вакзал. Мы пайшлі следам.

Уся плошча і прылеглыя да яе вуліцы запоўнены людзьмі. Электрычнасці не было. Тыя, хто сустракаў У. І. Леніна, асвятлялі плошчу факеламі, якія калыхаліся ў імжыстай красавіцкай цемені.

Уладзімір Ільіч заўважыў у натоўпе грузавік і накіраваўся да яго. Падышоў, стаў на падножку кабіны і зазірнуў у кузаў. Відаць, хацеў адтуль выступаць. Аднак нехта паказаў яму на аўтабранявік, што стаяў непадалёку. Матросы падхапілі У. І. Леніна на рукі, данеслі да браневіка і памаглі падняцца на яго.

І ў тую хвіліну ўсю плошчу ярка асвяцілі два ваенных пражэктары. Мне запомніліся вялікія чырвоныя палотнішчы з надпісамі: «Прывітанне Леніну!», «Смерць капіталу!», «Мір хацінам, вайна палацам!».

Уладзімір Ільіч павіншаваў петраградскіх рабочых, салдатаў і матросаў з перамогай над царызмам.

— Няхай жыве сацыялістычная рэвалюцыя! — так закончыў ён сваё першае пасля доўгіх год развітання з Петраградам выступленне перад пралетарыямі.

Потым бранявік з Леніным накіраваўся да палаца Кшэсінскай, а мы, салдаты-валынцы, да сябе ў казарму. Дарогай ішлі і ўсё разважалі: што гэта за сацыялістычная рэвалюцыя, да якой клікаў Ленін? Якой яна павінна быць?



1917 год. Перад прыездам у Расію.

Шмат чаго мы тады не разумелі, але ўсё ж цягнуліся да Леніна. І колькі было размоў, калі мы вярнуліся ў казарму і расказвалі пра Леніна і яго прамову.

У казарме я даведаўся, што назаўтра прызначаны начальнікам каравула ў Таўрычаскі палац. А там якраз праводзілася Усерасійская нарада Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Каравульнае памяшканне знаходзілася тут жа, ля параднага пад'езда палаца. Так што адсюль было добра відаць, хто ідзе ў палац і хто выходзіць з яго.

Бачу, пад'ехала адкрытая машына. З яе выйшаў Ленін і хутка падаўся ў пад'езд. Там яго сустрэў незнаёмы мне чалавек. Яны паціснулі адзін аднаму рукі і па лесвіцы пайшлі наверх. Гэта зацікавіла мяне: нарада ідзе ўнізе, куды ж яны накіроўваюцца? Падняўся за імі.

На трэцім паверсе, які называўся хорамі, яны зайшлі ў залу. Я зазірнуў у прыадчыненыя дзве-

ры. Месцаў не хапала, і людзі сядзелі на падаконніках. Калі заўважылі Леніна, усе заапладзіравалі з радаснымі воклічамі: «Уладзімір Ільіч! Уладзімір Ільіч!» Ленін паціскаў рукі, жартаваў...

Праз нейкі час Ленін з групай таварышаў спусціўся ўніз і накіраваўся ў залу Усерасійскай нарады. Пакінуўшы за сябе ў каравуле намесніка, я таксама пайшоў за імі. Стаў у дзвярах, каб агледзецца. Зала вялізная! Справа амаль усе месцы занятыя. Злева больш палавіны — вольныя. Таварышы, якія ішлі з Леніным, садзяцца злева. А Уладзімір Ільіч уздоўж сцяны пайшоў у прэзідыум.

На трыбуне выступаў нейкі прамоўца. Але ў зале пачуўся шэпт: «Ленін, Ленін, Ленін...» Пляснуўшы ў далоні, нехта крыкнуў:

— Няхай жыве Ленін!

І тут левая палавіна залы так загаманіла, што цяжка было разабраць, хто як вітае Уладзіміра Ільіча. На правым баку — разгубленасць. Старшыня звоніць у званок, супакойваючы, але дзе там! — яго не чуваць.

Нарэшце, невялікая паўза, і прамоўца працягвае сваю гаворку. Але толькі некалькі секунд. Левая палавіна зноў запляскала ў далоні і выгукнула: «Ура Леніну!»

Так паўтаралася некалькі разоў. Разгублены прамоўца згарнуў свае паперы і знік. А Уладзімір Ільіч, прыўзняўшы руку, глядзіць на старшыню. І той аб'яўляе, што слова прадастаўляецца У. І. Леніну.

Ільіч пайшоў да трыбуны, я — бліжэй у залу, туды, дзе селі яго таварышы. Хаця і былі вольныя месцы, я не адважыўся сесці. Думаю, камусьці пакінуты. Але чалавек, што сядзеў з краю, тузануў мяне за шынель і шэпча:

— Садзіся!

— А ці можна? — пытаю.

— А ты якой партыі?

— Ніякай... — паціскаю плячыма.

— Ну, тады садзіся — будзеш нашай.

Я сеў. Уладзімір Ільіч пачаў сваю прамову з абвінавачання меншавікоў як лакеяў буржуазіі. Левая палавіна залы заапладзіравала яму, а з правай пачуліся нейкія невыразныя воклічы. Уладзімір Ільіч дачакаўся цішыні і зноў працягваў. А калі ён сказаў, што і ў вёсках трэба стварыць Саветы, якія б адабралі зямлю ў паноў, ад манастыроў і цэркваў і перадалі яе сялянам, заапладзіравалі нават многія з правага боку.

Потым Ільіч павёў гаворку пра вайну, пра тое, што яе трэба скончыць. Справа — гул галасоў, крыкі: «Ленін анархіст! Нямецкі шпіён!..»

Тут мяне выклікалі па службе. Але зноў такі мне пашанцавала: я пазнаёміўся з шафёрам Леніна. Ён працаваў на заводзе, і цяпер яму даручылі вазіць Уладзіміра Ільіча.

— Я з учарашняга дня з Леніным, — гаварыў ён. — Спаў у машыне. А вось Леніну і вачэй звесці не было калі. Аднак раніцай выклікае мяне і пытае, як адпачыў. Добра, кажу. Выспаўся ў машыне. Тут ён і давай мяне прабіраць: чаму не быў дома? Здароўе, кажа, трэба шанаваць, ды і сям'я, відаць, турбуецца: дзе ты і што з табой. Падышоў Ленін да тэлефона, пазваніў на завод, каб паслалі да мяне дамоў чалавека — сказаць жонцы, што я жывы і здаровы і сёння буду начаваць дома.

Шафёр радасна, узбуджана працягваў:

— Я заўважыў Леніну: вы пра маё здароўе турбуецеся, а самі зусім не спалі. Ленін усміхнуўся: «Вы, бацenька мой, не заўважылі, калі я спаў. Я сплю, як заяц, не заплюшчваючы вачэй».

Уладзімір Ільіч пасур'ёзнеў і сказаў: «А цяпер мы павінны паехаць на Волкавы могілкі, на магілу маёй дарагой мамы».

Калі прыехалі туды, Ленін доўга стаяў ля магілы, апусціўшы галаву і паўтараючы: «Мама, мама...» З могілак мы неўзабаве вярнуліся сюды, — закончыў шафёр.

Я падумаў тады: «Праўду казаў ранены салдат Хрэнаў пра Леніна, як бясстрашнага змагара за справу бедных, як чалавека невычэрпнай энергіі і мужнасці». А пасля каравула ўсе свае ўражанні ад сустрэчы з Леніным я выкладваў салдатам, расказваў, як бурна апладзіравала яму левая палова залы і гікала правая. Афіцэр Кірпічыкаў спытаў:

— А ты ведаеш, хто сядзеў злева і справа?

— Н-не...

— Дык вось, левыя — гэта бальшавікі, а правыя — меншавікі, эсэры і іншы зброд. Першыя ідуць за Леніным, змагаюцца за ўладу рабочых і сялян. Другія — за ўладу буржуазіі, іх палітыка мала чым адрозніваецца ад царскай. Дык за каго ты будзеш? — ва ўпор спытаў ён.

— За Леніна, за бальшавікоў.

Не выпадкова ўспомнілася гэтая размова. Пазней у нас у часці бывалі мітынгі, выступала мноства прамоўцаў. Яны гаварылі шмат і туманна для нашага брата-салдата. Бывала, слухаеш, слухаеш ды так і не зразумееш, за што агітуюць, каму з іх аддаць свой голас. Тады прама так і пытаю: «А вы за каго: за Леніна ці за буржуяў?» І пераважная большасць у нас галасавала за Леніна.

Уладзіміра Ільіча бачыў я і Першага мая 1917 года. У Петраградзе, на Марсавым полі, каля брацкіх магіл змагароў, якія загінулі ў часе лютаўскай рэвалюцыі, адбыўся мітынг. Я шукаў вачыма Леніна. Толькі падумаў, што, магчыма, яго і не будзе, як пад'ехаў грузавік. З кабіны выйшаў Ільіч. Ён выступаў з кузава грузавіка, абсталяванага пад трыбуну. Гаварыў Ільіч аб міжнародным значэнні свята, аб неабходнасці барацьбы за сапраўдную рабоча-сялянскую ўладу, за сацыялістычную рэвалюцыю.

Чым болей я слухаў Леніна, тым даражэйшым станавіўся ён. Яго словы краналі душу, хацелася верыць яму.

Адно з маіх чарговых дзяжурстваў супала з І Усерасійскім з'ездам Саветаў, які адкрыўся 3 чэрвеня 1917 года. Я даведаўся, што будзе выступаць Ленін, і рашыў абавязкова яго паслухаць. Але калі выступіць Уладзімір Ільіч, невядома, а мне ўвесь час знаходзіцца ў зале немагчыма: служба. Тады папрасіў аднаго дэлегата, які сядзеў на заднім радзе, каб ён паведаміў мне, калі слова дадуць Леніну.

Спыніўшыся на праграме партыі бальшавікоў, Ленін гаварыў, што ўсе памешчыцкія, манастырскія і царкоўныя землі неабходна перадаць народу і без усялякага выкупу. І прыватная ўласнасць на зямлю павінна быць знішчана назаўсёды.

Калі Ленін чытаў рэзалюцыю, дэпутаты-сяляне горача апладзіравалі яму:

— Правільна гаворыць Ленін!

— Аніякага выкупу за зямлю!

— Трэба браць зямлю зараз, а не чакаць Устаноўчага сходу!

У другой палавіне 1917 года ў нас у палку зачытвалі зварот партыі бальшавікоў да салдат і рабочых аб адкліканні з Саветаў тых дэпутатаў, якія не апраўдалі даверу выбаршчыкаў, абараняюць інтарэсы буржуазіі. Адначасова на сходах рабочых і салдат выбраліся замест іх другія дэлегаты. Сярод іх быў выбраны і я ў Петраградскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў.



**Штаб Кастрычніка — Смольны. 1917 год.**

Цяпер мне часта даводзілася бываць на нарадах. У садзе Смольнага з салдацкімі дэлегатамі нярэдка гутарыў Якаў Міхайлавіч Свярдлоў. Кожнага ў паасобку ён распытваў пра настрой салдат, падрабязна тлумачыў, чым мы павінны займацца, як весці палітычную работу ў часці.

Якаў Міхайлавіч выклікаў нас амаль кожны тыдзень і выслухоўваў нашы кароткія даклады аб праведзенай рабоце.

— Салдаты — гэта рабочыя і сяляне ў шэрых шынялях, — гаварыў Якаў Міхайлавіч. — Палітыка

партыі бальшавікоў супадае з кроўнымі інтарэсамі рабочых і сялян, таму салдаты павінны быць на нашым баку.

У кастрычніку з намі гутарыў Ф. Э. Дзяржынскі і А. С. Бубнаў. Іх парады мы таксама праводзілі ў жыццё ў сваіх часцях.

Напярэдадні падзей Вялікага Кастрычніка адчувалася салдацкая згуртаванасць.

І вось наступіў гістарычны кастрычніцкі дзень. Наш полк атрымаў баявое заданне — заняць подступы да Смольнага. Мяне прызначылі конным сувязным паміж штабам палка і Ваенна-Рэвалюцыйным Камітэтам у Смольным.

Смольны быў перапоўнены салдатамі, матросамі, рабочымі. На плошчы перад Смольным артылерысты ўстанаўлівалі гарматы. Тут жа гудзелі аўтамабілі і матацыклы. Было холадна, і людзі затрымліваліся каля раскладзеных на плошчы вогнішчаў.

25 кастрычніка частку нашага Валынскага палка перакінулі ў раён Адміралцейства. Другая ж частка палка засталася на месцы.

Ужо атрымана вестка, што рэвалюцыйныя атрады захапілі штаб Керэнскага, што Часоваму ўраду прапанавана здацца, але той адмовіўся. І вось у начной цішыні пачуліся адзін за адным два далёкія гарматныя выбухі. Пасля данеслася вінтовачная і кулямётная страляніна — недзе пачалося... Але дзе? Мяне пасылаюць у штаб палка ў Смольны — даведацца пра ўсё. Адтуль прывожу радасную вестку: «Штурмуюць Зімні!..» А гадзін каля дзвюх ночы стала вядома, што Зімні заняты і ўрад Керэнскага арыштаваны. Нашы валынцы да хрыпаты крычалі «ўра», абдымаліся, цалаваліся.

Полк па-ранейшаму нёс каравульную службу. У канцы лістапада 1917 года мне давялося быць дзяжурным у Смольным каля прыёмнай Уладзіміра Ільіча. З самай раніцы пачалі прыбываць людзі, запаўняючы доўгі калідор. Тут былі і прадстаўнікі арганізацый, і



Ленін у дзень святкавання 1-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Масква, 1918 год.





Ленін на Краснай плошчы гутарыць з сакратаром МК РКП(б) Загорскім у часе Першамайскай дэманстрацыі 1919 года.

мужчыны, і жанчыны з дзецьмі, і сялянскія хадакі. Былі наведвальнікі з Сібіры, Урала... Усе, вядома, хацелі папасці на прыём да Леніна. Указанне Уладзіміра Ільіча было такое: допуск да яго не абмяжоўваць, але строга захоўваць устаноўлены парадак. У першую чаргу Ільіч прымаў камандзіраваных ваенных і прадстаўнікоў розных арганізацый з другіх губерняў, гэта значыць, не мясцовых.

Часам для адпачынку Ленін выходзіў у калідор і тут гутарыў з тымі, хто прыходзіў па асабістых справах. Калі пытанне адразу не ўдавалася вырашыць, ён даваў заданне сваім памочнікам разабрацца ва ўсім і аб выніках паведаміць яму. Прозвішчы ўсіх наведвальнікаў Ленін запісваў у кніжачку.

Раніцай мне здавалася, што такой колькасці людзей Уладзіміру Ільічу за дзень не прыняць, але ў сем-восем гадзін вечара ўжо нікога з тых, хто прыходзіў удзень, не было.

Неўзабаве я ўступіў у Чырвоную гвардыю і артылерыстам ваяваў супраць белякоў. Грамадзянская вайна закінула мяне ў Маскву, стаў старшыной батарэі.

У 1919 годзе перад 1 Мая даведаўся, што ў дзень свята на Краснай плошчы адбудзецца гарадскі мітынг, дзе выступіць Уладзімір Ільіч. Натуральна, з'явілася нястрымнае жаданне пабываць на мітынгу. І не аднаму, а са сваімі батарэйцамі. Але паўстала такая праблема: ісці зможа толькі дзесятак-паўтара чалавек, астатнія босыя і не маюць чаго апрануць.

На дапамогу прыйшлі нашы батарэйцы-масквічы. Выпісаў ім звальненні, і яны тое-сёе прынеслі таварышам з дому: зашываюць, латаюць мае хлопцы гімнасцёркі, падшываюць боты, прымяраюць адзін другому абмундзіраванне...

Раніцай 1 Мая батарэя — больш як трыццаць чалавек адправілася на Красную плошчу. Спыніліся ля Іверскіх варот. На плошчы стаяла ўжо некалькі вартавых. Людзі ха-

дзілі ўзад-уперад, чакаючы Леніна.

Мне захацелася даведацца, з якой трыбуны будзе выступаць Ленін, каб раней падвесці туды сваіх чырвонаармейцаў. Рашыў: самае зручнае месца для выступлення — праезд ля Іверскіх варот. І сапраўды, неўзабаве адсюль выехала адкрытая машына. Калі машына спынілася, з яе выйшлі У. І. Ленін і Н. К. Крупская. Іх сустрэў камісар у чорнай хромавай скуранцы. Мільганула думка: падысці і далажыць Леніну аб прыбыцці нашай батарэі, а заадно даведацца, з якой трыбуны ён будзе гаварыць. Але тут нейкая жанчына з дзвюма дзяўчынкамі прыпынілася і, звяртаючыся да Леніна, спытала:

— Грамадзянін, вы не можаце сказаць, Ленін будзе на мітынгу?

Уладзімір Ільіч уважліва паглядзеў на яе і сказаў:

— Так, так, абавязкова будзе.

Жанчына зрабіла два-тры крокі наперад і зноў прыпынілася.

— Прабачце, грамадзянін, а ці не ведаеце вы, з якой трыбуны будзе гаварыць Ленін?

— А што вас так цікавіць Ленін? — у сваю чаргу дабрадушна спытаў Ільіч.

— Ды вось дзяўчынкі мае другі дзень спакою не даюць: пакажы ім Леніна — і ўсё тут. А я яго і сама не ведаю...

Уладзімір Ільіч шчыра ўсміхнуўся і паказаў рукой:

— Вось да той трыбуны ідзіце.

Мы ўраз абступілі тую трыбуну.

Уладзімір Ільіч гаварыў пра жорсткія баі на франтах грамадзянскай вайны, заклікаў усіх, хто можа насіць зброю, стаць на абарону Савецкай улады, у вёсцы — болей сеяць хлеба для арміі.

Ленін пабыў на трох трыбунах, пераходзячы ад адной да другой. Нашы батарэйцы не адставалі ад яго ні на крок. Ленін знаходзіў у натоўпе знаёмых яму рабочых, віншаваў з першамайскім святам, называючы па імені і па бацьку, цікавіўся здароўем сям'і.

Памяць і прастата правадыра ўсіх нас здзівілі. І я ад душы зайздросціў, лічыў вялікімі шчаслівцамі тых, каго Ільіч і ў натоўпе заўважаў. Міжволі падумалася: «А дарэмна не падышоў да яго... Можа б і мяне запомніў і калі-небудзь паціснуў руку». Так мы яго і правялі да царквы Васілія Блажэннага, дзе Уладзіміра Ільіча чакала машына.

Задаволеныя, вярталіся мы ў часць. Неўзабаве многія з нашых артылерыстаў паехалі на фронт. Мяне доўга яшчэ не адпускалі з часці. Нарэшце, я быў прыняты разведчыкам у кавалерыйскую дывізію, якая ўваходзіла ў корпус Кліментa Яфрэмавіча Варашылава. Трапіў на паўднёвы фронт. Быў паранены. Вярнуўся ў Маскву ў шпіталь. Крыху папраўіўся ўжо, калі праходзіў VIII Усерасійскі з'езд Саветаў. Нам у шпіталь прыслалі некалькі гасцявых білетаў. Я ўзрадаваўся, што ёсць новая магчымасць пабачыць Леніна. Але доктар не пусціў мяне. Тады я пачаў яму расказваць, што некалькі разоў бачыў Уладзіміра Ільіча, і мы, маўляў, старыя знаёмыя. Ён з цікавасцю мяне выслухаў, але дазволу ўсё роўна не даў. Я ажно заплакаў. Пасля такі мне дазволілі, далі білет і праважатую медсястру.

Там я апошні раз бачыў і слухаў нашага дарагога правадыра.

**Фёдар БЕРАСНЕЎ**

# МАСКВА, КРЭМЛЬ, ЛЕНІНУ.

У першыя паслярэвалюцыйныя гады з усіх куткоў бяскрайняй Расіі ў адрас Уладзіміра Ільіча Леніна штодзённа ішлі дзесяткі пісьмаў і тэлеграм. У іх яскрава відаць адданасць беларускага народа савецкай уладзе, вернасць ленінскім ідэям, гатоўнасць адстаяць і ўмацоўваць заваёвы Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Праз усе пісьмы праходзіць шчыры клопат пра здароўе Ільіча, як любоўна называлі свайго вялікага правадыра працоўныя.



Частка дакументаў, якія захоўваюцца ў дзяржаўных архівах Беларусі, публікуецца тут упершыню.

Публікацыю падрыхтавалі супрацоўнікі Архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР **Эла Казлоўская** і **Ларыса Яшэнка.**

## АД СЯЛЯН СМАЛЯНЕЦКАЙ ВОЛАСЦІ, ЛЕПЕЛЬСКАГА ПАВЕТА, ВІЦЕБСКАЙ ГУБЕРНІ.

**8 лістапада 1917 года**

Сяляне Смалянецкай воласці, Лепельскага павета, Віцебскай губерні, што былі на сходзе 8 сяго лістапада ў сваёй валаснoй земскай управе, даведаўшыся пра дэкрэт аб зямлі, прынятым на пасяджэнні з'езда Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў 26 кастрычніка, па якім доўгачаканая сялянствам зямля перайшла ў іх рукі, шле Вам і Саветам гарачую падзяку за клопаты і барацьбу за працоўнае сялянства, якое доўгія гады прыгняталася памешчыцкім ярмом; прыступаючы сяго чысла да адчужэння памешчыцкай уласнасці ў распараджэнне зямельнага камітэта, мы моцна верым, што і Устаноўчы сход, дружна падтрыманы ўсім сялянствам, пацвердзіць дэкрэт аб зямлі і тым пакладзе канец векавому прыгнёту.

Упаўнаважаныя: **Іван Лукіч Петрашэнка,**
**Пілiп Піліпавіч Барадаўка.**

## АД АРШАНСКАГА ПАВЯТОВАГА САЎДЭПА МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕРНІ.

**16 красавіка 1918 года**

Масква, Леніну.

Перавыбраны Саўдэп Аршанскага павета вітае ў Вашай асобе вышэйшы орган Расійскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. За тры вярсты ад места, дзе цяпер сабраўся паўнамоцны парламент Аршанскага павета, стаяць белагвардзейскія банды нямецкіх імперыялістаў і польскія буржуазныя легіянеры. Кожнае імгненне яны гатовыя адарваць яшчэ частку тэрыторыі Савецкай рэспублікі, адлучыўшы нас ад астатняй рабоча-сялянскай Расіі. Пры такіх умовах пастаяннай пагрозы неабходна быць надзвычай пільнымі, каб не даць магчымасці нашым айчынным і класавым ворагам шляхам правакацыі выклікаць гатовыя ўмяшацца ў імя аднаўлення «парадку» шайкі нямецкіх драпежнікаў і польскіх памешчыкаў, што стаяць ля граніц.

Таварышы, стойкасць і мужнасць, неабходныя самадысцыпліне, праводзяцца намі вельмі рашуча. Мы абавязваем працоўнай ваенна-рэвалюцыйнай павіннасцю ўсіх рабочых і сялян, мы зробім усё, напружваючы апошнія сілы, каб адбіць новыя ўдары.

Вітаючы Цэнтральны Выканаўчы Камітэт, мы шлём рэвалюцыйнае брацкае прывітанне ўсім Саветам Расійскай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Няхай жыве сацыялістычная рэвалюцыя!

Няхай жыве Расійская Савецкая Рэспубліка!

Няхай жывуць Саветы і перамога працы над капіталам!

**Савет Аршанскага Саўдэпа.**

## АД АГУЛЬНАГА СХОДУ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ ДРУКАРНІ ГОРАДА ВІЦЕБСКА.

**2 верасня 1918 года**

Смерць таварыша Урыцкага і замах на таварыша Леніна няхай будзе тым агульнарасійскім набатам, які заглушыць усе нашы дробныя інтарэсы і ўскалыхне ўсю рабочую масу на гучныя подзвігі.

Усе як адзін мы станем на той адзіна верны шлях, які дыктуецца нам ходам нашай пралетарскай рэвалюцыі: барацьба да пераможнага канца над буржуазіяй і сусветным імперыялізмам.

Ад гэтага часу шчыльней самкнём мы свае баявыя рады, усе на свае пасты, і перамога за намі. Той, хто адмовіцца ў цяжкую хвіліну ахвяраваць сваім жыццём на карысць рэвалюцыі, з'яўляецца подлым злачынцам і яўным контррэвалюцыянерам і павінен пакінуць нашы рады, панёсшы заслужаную кару.

## АД МСЦІСЛАЎСКАГА ГАРАДСКОГА САВЕТА РАБОЧЫХ І ЧЫРВОНААРМЕЙСКІХ ДЭПУТАТАЎ МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕРНІ.

**7 верасня 1918 года**

Масква, таварышу Леніну.

Мсціслаўскі гарадскі Савет рабочых і чырвонаармейскіх дэпутатаў на сваім першым пасяджэнні шле прывітанне цэнтральнай Савецкай уладзе і заяўляе, што ён усе сілы свае прыкладзе, каб сцвердзіць панаванне рабоча-сялянскай дыктатуры і разбіць ушчэнт усіх ворагаў пралетарыяту. Савет вітае параненага правадыра рабочага класа таварыша Леніна. Жадае яму хуткага выздараўлення і вяртання на свой пост на карысць далейшага ўмацавання рабочай рэвалюцыі і на пагібель ворагам сацыялізма.

**Мсціслаўскі гарсавет.**

## АД РАБОЧЫХ І СЯЛЯН ГОРАДА ПОЛАЦКА.

**23 лістапада 1918 года**

Мы, усе як адзін, вітаем уладу Саветаў і нашых дарагіх правадыроў таварыша Леніна і другіх таварышаў. Вітаем рабочых Чырвонага Піцера — застрэльшчыкаў сусветнай рэвалюцыі. Вітаем нашу слаўную непахісную Чырвоную Армію — сапраўдную змагарку за святую будучыню ўсяго свету на ўсім зямным шары. Клянёмся мы, усе як адзін, усімі сіламі будзем падтрымліваць нашу Савецкую ўладу. Будзем імкнуцца прымаць самы гарачы ўдзел у стварэнні слаўнай Чырвонай Арміі, а таксама і ў з'яднанні ўсіх нас, беднякоў рабочых і сялян, у адну суцэльную брацкую сям'ю, гэта значыць у вялікую, сапраўдную, непахісную і непераможную адзіную Усерасійскую Камуністычную партыю.

Няхай жыве натхніцель і вялікі настаўнік яе Уладзімір Ільіч Ленін!

## АД АГУЛЬНАГА СХОДУ СЯЛЯН ПАРПЛІШЧАНСКАЙ ВОЛАСЦІ, ВІЛЕЙСКАГА ПАВЕТА.

**19 снежня 1918 года**

*Дарагі правадыр таварыш Ленін!*

Мы, сяляне Парплішчанскай воласці, Вілейскага павета, Віленскай губерні, якія толькі што вызваліліся з-пад ярма нямецкага імперыялізму і ўлады кулакоў і памешчыкаў, вітаем Вас, як сапраўднага правадыра — барацьбіта за лепшую будучыню ўсіх прыгнечаных народаў і будучы сацыялізм.

**Подпісы 2 000 сялян.**

## АД АГУЛЬНАГА СХОДУ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ МІНСКАГА РАЁНА ЛІБАВА-РОМЕНСКАЙ ЧЫГУНКІ.

**27 снежня 1918 года**

Масква, Крэмль, Саўнарком, Леніну.

З Мінска.

Агульны сход служачых, майстравых і рабочых Мінскага раёна Лібава-Роменскай чыгункі шле Вам гарачы прывет і сардэчную падзяку як вялікаму і дарагому правадыру сусветнай пралетарскай рэвалюцыі, правадыру партыі камуністаў як органа абаронцы рабочага класа і ў асобе Вашай дзякуе Чырвонай Арміі, Саўнаркому, якія вызвалілі акупіраваныя чыгункі ад ярма германскага імперыялізму.

**Макавееў.**

## АД І З'ЕЗДА ПРАДСТАЎНІКОЎ КАМІТЭТАЎ ВЯСКОВАЙ БЕДНАТЫ ПУСТЫНСКАЙ ВОЛАСЦІ, ДРЫСЕНСКАГА ПАВЕТА, ВІЦЕБСКАЙ ГУБЕРНІ.

**7 студзеня 1919 года**

З'езд вітае Савецкую ўладу, у асобе яе Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў, горача вітае дарагога таварыша, друга працоўных таварыша Леніна, як сапраўднага барацьбіта за свабоду працоўных і бяднейшых сялян, як сусветнага правадыра, які стаіць на чале пралетарыяту, што ідзе з чырвоным сцягам па шляху да сацыялізма, вітае Чырвоную Армію. З'езд выказвае поўны давер Савецкай уладзе і абяцае ўсялякую ёй падтрымку ва ўсім, у чым толькі будзе меншь магчымасць.

Няхай жыве Савецкая ўлада!
Няхай жыве Чырвоная Армія!
Няхай жывуць правадыры сусветнай рэвалюцыі!
Няхай жыве сусветнае аб'яднанне працоўных!

## АД ВЫКЛАДЧЫКАЎ І СТУДЭНТАЎ МАГІЛЁЎСКАГА ПОЛІТЭХНІЧНАГА ТЭХНІКУМА.

**22 лютага 1919 года**

Масква, таварышу Леніну.

Педагагічны савет і студэнты Магілёўскага політэхнічнага тэхнікума разам з усімі прысутнымі на ўрачыстым адкрыцці політэхнікума пасылаюць сваё гарачае вітанне Вам, правадыру рускай і сусветнай рэвалюцыі.

Мы верым, што над новым расаднікам святла і ведаў, узведзеным у Магілёве, будзе горда і непахісна лунаць Чырвоны сцяг, узняты рабочым класам. Ён будзе нашай пуцяводнай зоркай да вялікіх ідэалаў камунараў, імя якіх носіць наш палітэхнікум.

Няхай жыве творца новага жыцця — сусветны пралетарыят!

**Губернскі аддзел** (народнай асветы).
**Педагагічны савет.**

## АД АГУЛЬНАГА СХОДУ-МІТЫНГУ ГРАМАДЗЯН МАШКАНСКАЙ ВОЛАСЦІ, СЕННЕНСКАГА ПАВЕТА, МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕРНІ.

**5 лютага 1920 года**

Мы, працоўныя сяляне Машканскай воласці, усведамляючы агульнае крытычнае становішча Савецкай Рэспублікі і ўсведамляючы, што кожны сумленны грамадзянін павінен прыйсці на дапамогу будаўніцтву для ліквідацыі гэтага разбуранага становішча, абяцаем усімі сіламі памагаць Савецкай уладзе змагацца з яе ўнутранымі і знешнімі ворагамі. Толькі разам, дружна, усе за аднаго і адзін за ўсіх, прыкончым вайну і зоймемся мірным будаўніцтвам. Няхай жыве Ленін!

Няхай жывуць правадыры рэвалюцыі!
Няхай жыве Чырвоная Армія!

## АД V БАРЫСАЎСКАГА ПАВЯТОВАГА З'ЕЗДА САВЕТАЎ МІНСКАЙ ГУБЕРНІ.

**1 снежня 1921 года**

Масква, Старшыні Саўнаркома таварышу Леніну.

V Барысаўскі павятовы з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармей-

скіх дэпутатаў, сабраўшыся 1 снежня, вітае Вас як правадыра рускай і сусветнай рэвалюцыі.

На працягу чатырох гадоў нечувана цяжкай барацьбы на ўсіх франтах унутранай і сусветнай контррэвалюцыі працоўныя Савецкай Расіі атрымалі магчымасць прыступіць да эканамічнага адраджэння Савецкай Расіі. З'езд, усведамляючы ўсе цяжкасці, што стаяць на гэтым шляху, верыць, што дружнымі намаганнямі рабочых і сялян Савецкая Расія выйдзе эканамічна адроджанай і пераадолее ўсе перашкоды, якія стаяць на шляху мірнай і стваральнай творчасці працоўных.

Няхай жыве эканамічна адроджаная Савецкая Расія!

Няхай жыве Савецкая ўлада!

**Прэзідыум з'езда.**

## АД РАБОТНІКАЎ КАМУНАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКІ ГОРАДА ВІЦЕБСКА.

**8 лістапада 1922 года**

Масква, таварышу Леніну.

Работнікі камунальнай гаспадаркі горада Віцебска, адкрыўшы сёння ўноў наладжаную электрычную станцыю для асвятлення рабочых ускраін горада, вітаюць Вас, дарагі Ільіч, які абвясціў упершыню лозунг электрыфікацыі Расіі, і паводле пастановы агульнага сходу рабочых гэтая станцыя прыносіцца Вам у падарунак у гонар Вашага выздараўлення і ўрачыстасці пяцігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Старшыня губвыканкома **Крылоў.**
Загадчык губкамунаддзела **Гурэвіч.**
Старшыня прафсаюза **Жыроў.**

## АД СХОДУ РАБОЧАЙ МОЛАДЗІ ПАЛІГРАФВЫТВОРЧАСЦІ ГОРАДА МІНСКА.

**20 сакавіка 1923 года**

Рабочая моладзь паліграфвытворчасці горада Мінска, сабраўшыся 20 сакавіка ў колькасці 200 чалавек на ўрачысты вечар, прысвечаны двухгадоваму юбілею ячэйкі КСМБ пры 1-й Савецкай друкарні, пасылае Вам, дарагі правадыр, сваё гарачае прывітанне і жадае Вам хутчэйшага выздараўлення, каб Вы маглі прадаўжаць далей работу на карысць працоўных усяго свету.

## АД ЧЛЕНАЎ КАМУНЫ «ЗВЯЗДА» ІГУМЕНСКАГА ПАВЕТА, МІНСКАЙ ГУБЕРНІ.

**22 красавіка 1923 года**

Камуна «Звязда» ў дзень святкавання двухгадовага існавання пасылае табе, дарагі наш Уладзімір Ільіч, гарачае прывітанне і жадае табе хутчэйшага выздараўлення. Дарагі наш правадыр, ты першы кінуў лозунг аб'ядноўвацца ў камуны для барацьбы з разрухаю ў сельскай гаспадарцы. Кінутае табою насенне ўпала на добрую глебу і дае ўжо добры плён. Аб'яднаўшыся ў камуну, мы крок за крокам перамагаем разруху, будуем светлае новае жыццё.

## АД І ВІЦЕБСКАГА ГУБЕРНСКАГА З'ЕЗДА РАБОЧЫХ І СЯЛЯНСКІХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ.

**20 кастрычніка 1923 года**

Выбраўшы цябе, дарагі Ільіч, пачэсным старшынёй нашага першага губернскага з'езда рабочых і сялянскіх карэспандэнтаў Віцебскай губерні, мы пасылаем табе прывітанне са шчырым пажаданнем хуткага выздараўлення і горача жадаем, каб ты цяпер зноў стаў ля руля не толькі рускай рэвалюцыі, але і рэвалюцыі ўсяго свету.



У патрэбную хвіліну і мы дакажам, што ўмеем валодаць не толькі пяром, але і вінтоўкай.

Няхай жыве сусветная рэвалюцыя і правадыр яе таварыш Ленін!

## АД V З'ЕЗДА КАМІТЭТАЎ СЯЛЯНСКАЙ ГРАМАДСКАЙ УЗАЕМАДАПАМОГІ ПОЛАЦКАГА ПАВЕТА, ВІЦЕБСКАЙ ГУБЕРНІ.

**11 студзеня 1924 года**

Пасылаем табе, дарагі Уладзімір Ільіч, гарачае прывітанне і пажаданне хутчэйшага выздараўлення і прыняцця кіраўніцтва работай на шляху гаспадарчага адраджэння першай у свеце краіны Саветаў.


ТЕЛЕГРАММА

Фотаздымак тэлеграмы, якую пасылалі Леніну віцебскія рабочыя ў 1918 годзе.

# ТАК ПАЧЫНАЎСЯ ТЭАТР

Архіўныя матэрыялы — строгія і дакладныя сведкі мінулага і сучаснага. Яны памагаюць узнавіць гісторыю многіх з'яў грамадскага і культурнага жыцця кожнага народа. Дакументы, якія тут падаюцца, сведчаць аб вялікіх клопатах партыі і ўрада пра ўздым культуры сельскага насельніцтва Беларусі ў першыя гады Савецкай улады.

У 1932 годзе ў Гомелі арганізаваўся Трэці Беларускі дзяржаўны тэатр. Ён вырас з аматарскіх гурткоў і вызначаўся сваім самабытным каларытам.

Пажоўклыя ад часу дакументы аб'ектыўна і цікава расказваюць пра першых энтузіястаў беларускай сцэны, пра іх нялёгкую працу, не толькі як артыстаў, але і натхнёных прапагандыстаў усяго новага і светлага.

Цікава прасачыць гісторыю аб'яднання ў творчы калектыў першых энтузіястаў беларускага тэатра. 22 верасня 1924 года з'явіўся —

**«Загад Наркамасветы БССР аб стварэнні Беларускай дзяржаўнай трупы пад кіраўніцтвам У. Галубка».**

Вось вытрымкі з гэтага загаду:

§ 1

***Дзеля павелічэння магчымасцей наўмыснага пашырэння беларускага драматычнага мастацтва утвараецца пад кіраўніцтвам видомага беларускага драматурга і артыста Уладзіслава Галубка Беларуская дзяржаўная трупа са складу арганізаванай ім драматычнай грамады, якая разам са сваім кіраўніком зрабіла за апошнія тры гады вялікую культурную працу сярод працоўных мас Беларусі.***

§ 2

**Зацвярджаецца і абвяшчаецца да агульнага ведама ўзгодненае з Саюзам працаўнікоў мастацтва:**

ПАЛАЖЭННЕ
АБ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ ТРУПЕ ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ГАЛУБКА.

**1. Беларуская дзяржаўная трупа пад кіраўніцтвам Галубка мае сваім сталым месцам быцця Мінск і мае на мэце:**
**а) працяг сваёй папярэдняй працы па арганізацыі спектакляў для шырокіх працоўных мас,**
**б) арганізацыю перыядычных падарожжаў па правінцыі.**
**2. Трупа ўтрымоўваецца на грошы, якія асігнуюцца Урадам БССР, зборы ад спектакляў і аднаразовыя дапамогі.**
**3. На чале трупы стаіць дырэктар Уладзіслаў Галубок, як ідэйны і тэхнічны кіраўнік усяе працы, якая вядзецца па планах, распрацоўваемых мастацкай радай трупы.**
**УВАГА. З развіццём дзейнасці трупы ўтвараюцца пасады мастацкага кіраўніка, яго памочнікаў, адміністратара і іншых па патрэбе працаўнікоў...**

У палажэнні вызначаліся далей — склад мастацкага Савета (рады) і кола яго абавязкаў.

Трэба адзначыць, што драматычны калектыў У. І. Галубка пачаў сваё існаванне 15 жніўня 1920 года, калі ў Беларускім рабочым клубе была пастаўлена аднаактовая камедыя У. Галубка «Суд». Гэты дзень і з'яўляецца днём нараджэння Беларускай дзяржаўнай трупы У. Галубка. Да 1921 года калектыў называўся трупай Галубка, потым — Другой Беларускай трупай, з 1924 па 1926 год — Другой Беларускай Дзяржаўнай трупай, з 1926 года — Беларускім вандроўным тэатрам. У 1932 годзе арганізаваўся Трэці Беларускі дзяржаўны тэатр з базай у г. Гомелі. Тэатр імкнуўся весці культурна-асветніцкую работу сярод беларускага насельніцтва. У рэпертуары тэатра значнае месца займалі п'есы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Чарота, У. Галубка і іншых аўтараў. У народзе тэатр карыстаўся вялікай павагай і любоўю. Аб гэтым зноў-такі сведчаць архіўныя дакументы.

**«Рапарт кіраўніка Беларускай дзяржаўнай трупы У. Галубка ЦВК БССР аб гастролях трупы ў Мазырскай акрузе.**

**27 чэрвеня 1925 г.**

**Згодна камандзіроўкі НКА трупа 6 мая ў ліку 20 асоб паехала на гастролі ў Мазырскую акругу.**

***Першым пунктам быў Мазыр. Трупа, паставіўшы 10 спектакляў, перакачавала ў Нароўль.***

**Як у Мазыры, так і ў Нароўлі беларускімі спектаклямі цікавіліся ўсе, асабліва сяляне, а сялян на спектаклі дапушчалі 50 працэнтаў.**

**Характэрна тое, што селянін, нягледзячы на свой клерыкальны быт, ахвотна бываў на антырэлігійных спектаклях і слухаў антырэлігійныя рэчы, якія казаліся заўжды перад пастаноўкай такога зместу п'есы.**

**Бачачы гэта з'явішча, трупа зусім смела распачала гэту прапаганду і амаль што кожнае свята (у нядзелю), калі канчалася служба ў царкве, збірала ўсіх сялян з царквы ў клуб і там вяла з імі размову аб рэлігіі, богу, святых і г. д.**

**З вялікай зацікаўленасцю слухаў селянін, калі казалі яму, што царква і папы аджылі ўжо сваё і што на змену гэтага ашуканства і ашуканцаў прыйшоў іх брат артыст-камуніст, каторы ідзе са святлом у вёску і гоніць прэч з дарогі ашуканцаў народных: папоў і ксяндзоў.**

**Гэты селянін слухаў, маўчаў, калі казалі яму, што няма бога, ён так аддаваўся прамоўцу, што ў канцы прамовы біў у ладошкі і заставаўся далей на спектакль.**

**Прамоўца даводзіў сялянам аб тым, што ўсюды ў нас будуюць клубы і тэатры, а ў Нароўлі якраз наадварот — веруючыя будуюць царкву.**

**Пры гэтым прамоўца стыдзіў сялян, даказваючы непатрэбнасць гэтай будыніны ў наш час.**

**Горшае з'явішча давялося бачыць у Петрыкаве. Там ёсць архірэй і цэлая армія папоў.**

**Прыехаўшы туды, трупа затрымалася на больш час і распачала працу. Дармовыя спектаклі, антырэлігійныя п'есы. На спектаклі веруючыя хадзілі мала, але сяляне ішлі.**

**І там селянін ніколі не аказваў супраціўлення. Слухаў усё, што яму казалі. Адны толькі бабы моршчыліся, калі казалі, што няма бога.**

**У Петрыкаве і дзень і ноч гудзяць званы, тысячныя працэсіі цягаюцца па мястэчку з абразамі і ўсякай немаччу. Народ верыць, моліцца. Проста шорахна глядзець на гэта з'явішча ў наш век.**

**Пасля некалькіх пастановак у Петрыкаве трупа выехала, бо прыйшлося пачуць ад некаторых асоб, што ў Петрыкаве моцная арганізацыя веруючых, якім не падабаюцца нашыя рэчы супраць рэлігіі і духавенства і што ад іх можна чакаць усяго.**



Народны артыст рэспублікі Уладзіслаў Галубок.

**У Тураве быццам то ў нейкай Палестыне.**

**Была субота. Сінагога гудзела. Поўна народу. Стаім, чакаем канца службы, каб пабачыць, што ж там ёсць.**

**А к вялікаму нашаму здзіўленню, пераважна моладзь 20—30 гадоў.**

**Кожны пад пахаю трымае талмуды і ўсе прылады, зусім спакойна ідзе праз мястэчка.**

**Пытаюся: чаму не зачынена сінагога?**

**Кажуць: зачынілі, але чамусьці зноў адчынілі.**

**Назаўтра, у нядзелю, была сёмуха.**

**Ідзём над царкву. Там зусім сярэдневякоўе. Бясконечна вялікі хвост баб, якія чарадою ідуць у царкву, несучы ў руках запаленыя свечкі, заткнутыя ў мёд, які знаходзіцца ў пасудзінцы.**

**Іх пераймае поп, які ачышчае гэтыя пасудзіны ад мёду, благаславіўшы за гэта на дарогу.**

**Гэткі рух адбываўся нешта дні тры. Гудзяць званы, калышацца перад царквой веруючы сялянскі люд.**

**Глядзіш і не верыш сваім вачам. Зусім спакойна адбываецца гэта ашуканства селяніна...**

**Поп вянчае... цэлымі кучамі.**

**У Тураве, больш як дзе, вялася антырэлігійная праца, праз усе дні гэтай вакханаліі нушчалі сялян у тэатр.**

**У нядзелю, на «тройцу», удзень на дармовы спектакль зараз жа з царквы ўсіх баб і сялян унусцілі ў тэатр і пачалі ім казаць прамовы, а затым ставілі п'есу.**

**Дзядзькі слухалі і білі ў ладошы, а бабы трошкі шумелі, але сядзелі. Характэрна тое, што старыя сяляне вельмі запрашалі нас да сябе ў вёску, выказваючы вялікае ўздавальненне ад усяго, што бачылі і чулі. Пасля Турава трупа пабывала ў Каралінe, Жыткавічах, Капцэвічах і Калінкавічах.**

**Вельмі добрае ўражанне засталося ад Капцэвіцкага фанернага завода, дзе было дадзена 7 спектакляў. Там рабочыя людзі развітыя...**

**Вынік з нашай вандроўкі такі:**

На Палессі пануе цемра... Вельмі добры грунт пад сабою чуюць папы. Развіваецца клерыкалізм. Сялянскія масы лёгка паддаюцца дурману. Будуюць царкву, ладзяць новых багоў.

Паколькі, з аднаго боку, сяляне ідуць у царкву, настолькі задумваюцца над тым, ці ёсць бог, калі пабываюць у тэатры і паслухаюць прамоўцу, які даводзіць, што няма бога. Сяляне ахвотна ідуць у тэатр і вераць таму, што ім там кажуць. Тэатр для іх — усё. Ён гатоў слухаць усё, што яму кажуць, а пасля ён задумаецца над тым, што чуў.

Гэткім чынам чалавека, які прывык толькі верыць у бога, пачынае варушыць і будзіць пачуццё з новым клічам, што няма бога і што царква — ёсць лавачка, а поп — ашуканец.

Тэатр, як мне здаецца, можа аказаць вялікую паслугу ў барацьбе з клерыкалізмам.

Лягчэй усяго можна асвятліць мозг селяніна добрым тэатрам.

Лягчэй усяго можна з'яднаць вёску, калі на помач прыйдзе тэатр.

Вось дзеля чаго, адчуваючы такую вострую патрэбу, трупа, не пакладаючы рук, працавала ў Мазырскай акрузе 45 дзён, даўшы 40 спектакляў.

Але гэтага мала. Беларусь вялікая, і поле для працы вялікае.

Трэба спяшыць, пакуль ёсць сіла і натхненне, бо нас чакаюць.

Не трэба шкадаваць грошай на тэатр. Трупа павінна мець як правы ў дарозе, так і грошы на пражыццё.

Трупе было выдадзена грошай на дарогу 500 руб., з якіх 250 руб. прыйшлося аддаць на вопраткі для тэатра, а на астатак ехаць у такую вялікую дарогу.

Праехалі 1500 в. па ж. д., 300 коньмі, 250 параходам.

50 працэнтаў спектакляў дармовых...

Але гэта не спыніць нашай працы. Мы чакаем новага загаду і ахвотна пойдзем туды, куды нас пашлюць.

Галубок».

З 1917 года і да канца свайго жыцця Уладзіслаў Галубок выступаў як рэжысёр і акцёр. Ім пастаўлена і сыграна вялікая колькасць спектакляў і ролей. Яго п'есы «Пан Сурынта», «Ганка», «Суд», «Пісаравы імяніны», «Бязвінная кроў», «Блуд» і іншыя з поспехам ішлі на сцэне тэатра. У 1928 годзе пасля прызнання яго працы і заслуг праз наданне годнасці народнага артыста рэспублікі Уладзіслаў Галубок з яшчэ большым натхненнем працягваў сваю нялёгкую і пачэсную працу. Аб гэтым сведчыць вытрымка




# ЗНАМЯНАЛЬНЫЯ ДАТЫ З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

## 1967 ГОД

### ЛІСТАПАД

**3** — 85 гадоў з дня нараджэння (1882) народнага паэта Беларусі Якуба Коласа (Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча). Памёр 13 жніўня 1956 года.

---

* Пачатак гл. №№ 1, 2, 3.

** Каляндар падрыхтаваны аддзелам навуковага выкарыстання дакументальных матэрыялаў і інфармацыі Архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР на падставе матэрыялаў, прадстаўленых цэнтральнымі і абласнымі дзяржаўнымі архівамі рэспублікі.



«З пастановы калегіі Народнага камісарыята рабоча-сялянскай інспекцыі БССР аб выніках абследавання работы Беларускага дзяржаўнага вандроўнага тэатра.

5 студзеня 1929 г.

БДВТ у сваёй працы мае наступныя дасягненні:

1. БДВТ з'яўляецца сапраўды масавым тэатрам і карыстаецца велізарнай папулярнасцю сярод працоўнага насельніцтва БССР, і яго існаванне адпавядае запатрабаванням сённяшняга дня.

2. БДВТ абслугоўвае самыя цёмныя куткі БССР, гарадскія акраіны і мястэчкі, з'яўляецца вельмі каштоўным культурным фактарам і можа быць скарыстован як сродак палітыкі культурнага будаўніцтва вёскі.

3. Адданая праца калектыву БДВТ у галіне мастацтва і яго кіраўніка ўзмацняе аўтарытэт тэатра сярод працоўных мас (за апошнія 4 гады наладжана 892 пастаноўкі, штогод — 223).

4. БДВТ мае вялізнае значэнне ў сэнсе беларусізацыі горада і мястэчак, асабліва месц, якія далучаны да БССР пазней, што ім часткова і прароблена.

5. БДВТ пачаў сваё існаванне з невялічкага драмгуртка, заснаванага У. Галубком; невялікую дзяржаўную дапамогу пачаў атрымоўваць з канца 1925 г., і нягледзячы на цяжкія матэрыяльныя ўмовы, да сучаснага моманту тэатр колькасна і якасна вырас.

6. Нягледзячы на цяжкія матэрыяльныя ўмовы, БДВТ здабыты неабходныя рэчы для пастановак (дэкарацыі, бутафорыі, абсталяванне і г. д.).

7. Рухавасць тэатра, які можа сабрацца ў падарожжа ў адзін дзень...»

У кастрычніку 1931 года была прынята пастанова, згодна якой:

«Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр пад кіраўніцтвам народнага артыста рэспублікі Галубка рэарганізуецца ў БТД—III. Гэтую зіму тэатр будзе працаваць у гор. Віцебску».

23 снежня 1935 года ў Гомелі быў урачыста адзначан 15-гадовы юбілей Трэцяга Беларускага дзяржаўнага тэатра. Аб уважлівым стаўленні Камуністычнай партыі і ўрада Савецкай Беларусі да развіцця тэатральнага мастацтва таксама сведчыць:

---

**4** — 80 гадоў з дня нараджэння (1887) пісьменніка, грамадскага і дзяржаўнага дзеяча З. Х. Жылуновіча (Цішкі Гартнага).

**6** — 40 гадоў з дня пуску (1927) гарбарнага завода «Бальшавік» у Мінску.

**7** — 40 гадоў назад (1927) у Пінску адбылася дэманстрацыя працоўных у гонар 10-й гадавіны Кастрычніка.

50 гадоў назад (1917) у Мінску ўлада перайшла ў рукі Мінскага Савета.

50 гадоў з дня перамогі (1917) Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

**7—8** — 50 гадоў назад (1917) у Петраградзе адбыўся II з'езд Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. З'езд абвясціў Савецкую ўладу ў Расіі і прыняў дэкрэты аб міры і аб зямлі, сфармаваў рабоча-сялянскі ўрад — Савет Народных Камісараў на чале з У. І. Леніным.

**9** — 50 гадоў назад (1917) пры Мінскім Савеце створаны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту на чале з А. Ф. Мясніковым.

**11** — 50 гадоў назад (1917) Савет Народных Камісараў прыняў дэкрэт аб 8-гадзінным рабочым дні.

**14** — 25 гадоў з дня гібелі (1942) слаўтага кіраўніка партызанскага руху Беларусі Канстанціна Заслонава.

«Пастанова ЦВК Саўнаркома БССР «Аб 15-гадовым юбілеі Трэцяга Беларускага дзяржтэатра».

23 снежня 1935 г.

Улічваючы вялікую работу, прароблену Трэцім Беларускім перасоўным дзяржаўным тэатрам за 15 гадоў яго дзейнасці, асабліва ў справе культурнага абслугоўвання працоўных мас вёскі (калгасаў і саўгасаў), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Узнагародзіць граматамі ЦВК БССР старэйшых работнікаў і актыўных удзельнікаў у будаўніцтве тэатра таварышаў: народнага артыста рэспублікі Галубка У. І., артыстаў Саннікава К. М., Рэйзман-Бусела Б. В., Качынскую А. Б., Несцяровіч О. І., Лазарчык З. С.

2. За актыўны ўдзел у арганізацыі тэатра і за стварэнне шэрагу каштоўных мастацкіх вобразаў прысвоіць званне заслужанага артыста рэспублікі лепшым акцёрам тэатра тт. Згіроўскаму А. А. і Былічу К. Ф.

3. Прэміяваць народнага артыста рэспублікі, нязменнага дырэктара тэатра Уладзіслава Іосіфавіча Галубка асабістай легкавой машынай і творчай камандзіроўкай у Маскву і Ленінград.

4. Выдаць грашовую прэмію артыстам тэатра: У. І. Галубку, К. М. Саннікаву, Б. В. Рэйзман-Буселу, А. Б. Качынскай, О. І. Несцяровіч, З. С. Лазарчык, А. А. Згіроўскаму і К. Ф. Былічу.

5. Даручыць Народнаму камісарыяту асветы БССР прэміяваць каштоўнымі падарункамі работнікаў БГТ—III, якія праявілі сябе на рабоце ў тэатры.

6. Для палягчэння работы БДТ—III па абслугоўванню раёнаў, саўгасаў і калгасаў выдаць тэатру грузавую машыну.

Старшыня ЦВК БССР: А. Чарвякоў.
Намеснік старшыні СНК БССР: А. Любовіч.
Сакратар ЦВК БССР: М. Ляўкоў».

Так, клапоцячыся аб росквіце тэатральнага мастацтва ў Беларусі, камуністычная партыя мацавала свае сувязі з народам, несла ў працоўныя масы святло бальшавіцкіх ідэй.

Публікацыю падрыхтавала
Роза ВАСІЛЬЕВА.

---

| | |
|---|---|
| **14** | 60 гадоў з дня нараджэння (1907) літаратуразнаўцы, доктара філалагічных навук М. Р. Ларчанкі. |
| **15** | 50 гадоў з дня падпісання (1917) У. І. Леніным «Дэкларацыі правоў народаў Расіі». |
| **22—29** | 40 гадоў назад (1927) у Мінску працаваў XI з'езд Кампартыі Беларусі. |
| **26** | 60 гадоў з дня нараджэння пісьменніка (1907) М. А. Скрыпкі. |
| **Лістапад — снежань** | 50 гадоў назад (1917) у гарадах Беларусі былі створаны саветы рабочага кантролю. |
| | 50 гадоў назад (1917) у Віцебску, Оршы, Гомелі, Магілёве, Слуцку і іншых гарадах Беларусі былі створаны ваенна-рэвалюцыйныя камітэты. |
| **Лістапад** | 20 гадоў назад (1947) была пушчана першая чарга Віцебскага дыванoвага камбіната. |
| **Лістапад** | 10 гадоў з дня адкрыцця (1957) у Мінску Дзяржаўнага мастацкага музея БССР. |

**СНЕЖАНЬ**

| | |
|---|---|
| **1—3** | 50 гадоў назад (1917) працаваў III з'езд Саветаў сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў. |
| **1** | 60 гадоў з дня нараджэння (1907) заслужанага артыста БССР І. А. Ражбы. |
| **2—4** | 50 гадоў назад (1917) у Мінску працаваў з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў Заходняй вобласці. |
| **3** | 50 гадоў з дня ліквідацыі (1917) рэвалюцыйнымі войскамі на чале з М. В. Крыленкам контррэвалюцыйнай Стаўкі ў Магілёве. |
| | 50 гадоў назад (1917) адкрыўся II з'езд армій Заходняга фронту. |
| **4** | 50 гадоў назад (1917) створан Выканаўчы камітэт Саветаў Заходняй вобласці і фронту на чале з А. Ф. Мясніковым. |
| **9** | 50 гадоў назад (1917) адбылося першае пленарнае пасяджэнне выканкома Савета рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту. На з'ездзе быў створаны Савет Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту. |
| **11** | 60 гадоў з дня нараджэння (1907) заслужанага дзеяча мастацтва БССР мастака А. Д. Шыбнёва. |
| **13** | 60 гадоў з дня нараджэння (1907) мастака М. І. Манасзона. |
| **14—18** | 45 гадоў назад (1922) у Мінску працаваў IV з'езд Саветаў Беларусі. З'езд прыняў дэкларацыю аб неабходнасці ўтварэння СССР. |
| **14** | 50 гадоў назад (1917) выйшаў першы нумар газеты «Советская правда» — орган Выканкома Савета рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці. |
| **19** | 50 гадоў назад (1917) адбылася канферэнцыя рабочых Аршанскага павету Магілёўскай губерні па пытанню арганізацыі рабочага кантролю і рабочых дружын на фабрыках і заводах. |
| **24—29** | 50 гадоў назад (1917) праходзіў Надзвычайны з'езд Саветаў рабочых, салдацкіх, сялянскіх і батрацкіх дэпутатаў Віцебскай губерні. |
| **26** | 50 гадоў з дня нараджэння (1917) пісьменніка Я. П. Васілёнка. |
| **28—31** | 50 гадоў назад (1917) у Магілёве праходзіў І губернскі з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. |
| **30** | 45 гадоў назад (1922) пачаў сваю работу І Усесаюзны з'езд Саветаў у Маскве. З'езд зацвердзіў дэкларацыю і дагавор аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. |
| | 15 гадоў з дня пуску (1952) першай чаргі Мінскага радыёзавода. |
| **Снежань** | 45 гадоў назад (1922) выйшаў першы нумар часопіса «Полымя». |

Дзень сённяшні — дзень заўтрашні

# КРОЧ НАПЕРАД, ГЕОЛАГ!



Геалагічная карта — вельмі прыгожая рэч.

Геалагічная карта — надзвычай таямнічая рэч.

Калі на паверхні зямнога шара амаль усё дакладна вывучана географамі, дык у нетрах зямных ёсць яшчэ мноства белых плям. Шукай ды капай. Свідруй шчыліны хоць з паўночнага полюса на паўднёвы, а работы — на вякі, багаццяў нераскрытых — на дзесяткі пакаленняў. Кроч наперад, геолаг!

Іх тысячы — хлопцаў і дзяўчат, якія завуцца геолагамі. У Сібіры, на Далёкім Усходзе, на Поўначы, у Сярэдняй Азіі. У Беларусі — таксама. І, кажучы шчыра, марку сваёй рамантычнай прафесіі беларускія геолагі трымаюць высока. Пра вынікі іх працы ў 1966 годзе, пра планы на будучае расказвае начальнік Упраўлення геалогіі БССР **Павел Антонавіч ЛЕАНОВІЧ.**

— Беларуская геалогія можа ганарыцца тым, што дзякуючы яе намаганням у нас з'явіліся новыя прафесіі. Услед за шахцёрамі Салігорска рабочы клас папоўніўся нафтавікамі. Апошнія знаходкі карысных выкапняў, безумоўна, павялічаць колькасць гарнякоў у Беларусі.

Раней Рэчыцкае месцанараджэнне было самым буйным. Цяпер стала галоўным Асташкавіцкае. Разведка тут вядзецца самымі паскоранымі тэмпамі. Перад новым годам геолагі адкрылі Паўночна-Даманавіцкае месцанараджэнне. Мы пераканаліся ў высокай перспектыўнасці Цішкавіцкай плошчы і лічым, што ў нетрах Аршанскай нізіны схаваны залежы нафты і газу. Перавыкананы план па перадачы нафтавых шчылін у пробную эксплуатацыю аб'яднанню «Беларусьнафта».

Рака чорнага золата яшчэ толькі набірае магутнасць, а рэсурсы ў яе невычарпальныя. За дзевяць месяцаў гэтага года мяркуецца значна павялічыць прырост запасаў нафты.

Паліўныя запасы рэспублікі не абмяжоўваюцца нафтай. На Бараўскім участку знойдзен каменны вугаль, плошча месцанараджэння складае пятнаццаць квадратных кіламетраў. Адкрыта месцанараджэнне вугалю і ў Брэсцкай вобласці, а ў Тураўскім і Акцябрскім раёнах — сланцы, запасы якіх геолагі цяпер удакладняюць.

На тэрыторыі нашай рэспублікі знойдзены руды жалеза і каляровых металаў. У раёне Шчучына і Карэліч залягае магутны пласт жалезнай руды высокай якасці. Пакуль нельга сказаць, што іменна гэтае месцанараджэнне будзе ў хуткім часе распрацоўвацца. Руда залягае на вялікай глыбіні, але значныя дамешкі тытану ў шчучынска-карэліцкіх рудах ускладняюць іх перапрацоўку. Усё ж мы спадзяемся, што там будуць пабудаваны жалезныя руднікі, таксама, як медныя — на Палессі, у выступе Мікашэвіцка-Жыткавіцкага фундаменту.

Пошукі сыравіны для будаўнічых матэрыялаў — гэта найбольш даўняя спецыяльнасць беларускай геалогіі. Беларускія геолагі на гэтым фронце вельмі плённа працавалі ў першыя пасляваенныя пяцігодкі, а не цяпер, як гэта здаецца. Справа ў тым, што велізарная колькасць будаўнічых работ у той час патрабавала ад геолагаў найвялікшых намаганняў, каб адшукаць сыравіну. А пра тое, што ў нетрах Беларусі, акрамя гліны і вапнякоў, ёсць яшчэ і нафта, і вугаль, і руды, таксама ведалі даўно. Не было толькі тэхнічных сродкаў, каб распрацоўваць гэтыя скарбы, бо яны залягаюць на вялікай глыбіні. Сучасная горная тэхніка дазволіла зрабіць плённыя пошукі. Валодаючы выдатнай методыкай накіраваных выбухаў, геолагі цяпер маюць магчымасць распрацоўваць адкрытым спосабам месцанараджэнне на глыбіні да пяцідзесяці метраў.

І цяпер патрэба ў будаўнічых матэрыялах вельмі вялікая. Таму нас надзвычай узрадавала, напрыклад, адкрыццё Гайдукоўскага (пад Радашковічамі) месцанараджэння гліны. Мінскія цагельныя заводы атрымалі цяпер багатую сыравінную базу. А наогул, у мінулым годзе на Беларусі выяўлена 39 месцанараджэнняў сыравіны для будаўнічых прадпрыемстваў.

— І нарэшце,— гаворыць Павел Антонавіч,— мы не засталіся ў даўгу перад хімікамі. Акрамя павелічэння разведаных запасаў калійных соляў, у мінулым годзе нашы геолагі ўдакладнілі залежы харчовай солі на Мазыршчыне. На базе гэтага багацейшага месцанараджэння ўзнікне Мазырскі хімічны камбінат.

У кожнай галіне геалогіі, у кожнай спецыяльнасці мы назіраем значныя зрухі. Нашы поспехі залежаць перш-наперш ад самаадданай працы людзей, і ў першую чаргу ад нашай моладзі. Я магу назваць дзесяткі прозвішчаў: Барыс Бабушнікаў, старшы геолаг, які кіраваў пошукамі гайдукоўскай гліны; Яўген Зелянцоў — старшы геолаг старобінскай партыі; Аляксандр Чарняхоўскі — старшы геолаг здымачнай партыі, якая працавала на Мікашэвіцка-Жыткавіцкім выступе; старшы інжынер Галіна Лукша, якая займалася вывучэннем металаноснасці крышталічнага фундаменту. Усё гэта наша крылатая моладзь. З такімі людзьмі можна горы зрушыць. Слаўнае пяцідзесяцігоддзе Кастрычніка геолагі сустрэнуць новымі багатымі адкрыццямі.

# МІНСК ПЕРАДЮБІЛЕЙНЫ

*Радыётэхнічны інстытут на Падлеснай вуліцы.*

*Гэты прыгажун вырас у Мінску нядаўна. Аўтары праекта лабараторнага корпуса — архітэктар Павел Бяляеў і інжынер Сцяпан Сапун. Тарцовую сцяну будынка ўпрыгожвае мазаічнае пано. Яго зрабілі мастакі Барыс Аракчэеў, Фёдар Бараноўскі, Іван Рэй і Іосіф Эйдэльман.*

Фота Валянціна ЖДАНОВІЧА.



# ПРА НАБАЛЕЛАЕ

**Гавораць удзельнікі семінара**

Бывае так: чалавек у творчым пошуку прыходзіць да пэўных вывадаў і нават адчувае, як той жа думкай захоплены яго калегі. Але ні ён, ні яго таварышы чамусьці не могуць выгаварыцца да канца, бо няма глебы для задушэўнай размовы, няма штуршка, каб усіх аднолькава ўсхваляваць. Якую індывідуальную афарбоўку не мела б творчасць мастака, пачынаючага ці масцітага, спевака ці танцора, усё-такі шчырасць размовы дабратворна ўплывае на любы характар, і нават самы замкнёны чалавек пачынае гаварыць пра набалелае.

Так здарылася на семінары артыстычнай моладзі, які правялі ў лютым Цэнтральны Камітэт Ленінскага камсамола Беларусі і Міністэрства культуры БССР. Гасцямі беларускіх артыстаў былі вядомыя савецкія рэжысёры і тэатральныя педагогі. Пра тое, якім павінен быць сучасны тэатр, сучасны акцёр, сучасны рэжысёр, гаварыў і Барыс Львоў-Анохін, і Аркадзь Неміроўскі, і Віктар Манюкоў. Нашу тэатральную моладзь узрушыла тое натхненне, з якім госці ўзнімалі гэтыя праблемы. Такая акалічнасць дазволіла нашаму карэспандэнту паставіць перад маладымі драматычнымі артыстамі некалькі пытанняў.



*— Які сцэнічны герой мог бы цалкам захапіць ваша ўяўленне і выклікаць найбольшую аддачу вашага майстэрства?*

Адказвае Раман **ФІЛІПАЎ**, артыст тэатра імя Янкі Купалы.

**— П'ер Безухаў. Я называю яго не таму, што гэта мацнейшы вобраз у сусветнай літаратуры, а таму, што ён блізкі мне як сучаснік. Мне здаецца, немагчыма гаварыць пра сучаснага героя, які б не знаходзіўся ў нейкай супярэчлівасці з самім сабой. Героя заўсёды павінна быць цяжка — толькі тады ён жыве, толькі тады мае права прэтэндаваць на пэўнае месца ў мастацтве. Унутранае сутыкненне думак — самае дарагое ў героі, з гэтага і пачынаецца вобраз сучасніка. А другая не менш важная рыса, якую можна перанесці з П'ера Безухава на станоўчага героя ўвогуле, — велізарная, бязмерная любоў да людзей, даведзеная да самаахвярнасці.**

**П'ер Безухаў пры ўсёй сваёй прывабнасці толькі прататып для сучаснага героя. Мне значна бліжэй Нагульнаў у другой частцы «Узнятай цаліны». А што датычыць ідэалу — на жаль, у сучаснай драматургіі, я такога героя яшчэ не сустрэў.**

*— Ці задавальняе вас у творчых адносінах праца ў абласным тэатры?*

— Не, — адказвае Тамара **НІКАЛАЕВА**, актрыса Гродзенскага драматычнага тэатра. — **І вось чаму. Я скончыла Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут летась і разам са сваімі сябрамі Мікалаем Смірновым, Яўгенам Баўдзеем і Оляй Клебановіч — трапіла ў Гродна. Надзеі ў нас былі самыя светлыя, мы рваліся да сур'ёзнай, удумлівай працы, але за цэлы сезон ні разу не адчулі творчага ўзлёту. Нас збянтэжыў рэпертуар. Большасць п'ес, якія прымае да пастаноўкі наш тэатр, ідуць толькі ў нашым тэатры. Здавалася б — гэта ж цудоўна, бо арыгінальна! Ды прыкра ад усяе гэтай арыгінальнасці. «Венская паштовая марка», «Вышэйшая мера», «Змацаваныя крывёй» — я нават не запомніла аўтараў гэтых п'ес, нецікавых як для акцёраў, так і для гледачоў. Але тэатр упарта іх ставіць, бо такая «драматургія», як ні дзіўна, задавальняе акцёраў старэйшага пакалення.**



**Мы паспрабавалі вырвацца з рамак нашага рэпертуару і ў вольны час падрыхтавалі «Вясельнае падарожжа» Дыхавічнага. Уявіце сабе, што гэтая п'еса дваццацігадовай даўнасці прайшла «на ўра». Гледачы, якія прывыклі пасля першай дзеі пакідаць залу, наладзілі нам у фінале авацыю. Гэта маладзёжны спектакль, ён зроблены моладдзю і для моладзі. Але старэйшыя акцёры тут жа астудзілі наш энтузіязм сваімі суровымі ацэнкамі: дрэнна, слаба, школьная самадзейнасць і г. д. Але тым часам спектакль не сыходзіць са сцэны.**

**Цяпер, зноў-такі няпланава, мы рыхтуем другі спектакль — «104 старонкі пра любоў» Разінскага. Робім таму, што не можам сядзець без работы, таму што не жадаем марнавацца на ўводных ролях і зайздросціць сябрам з другіх тэатраў, дзе больш чула ставяцца да моладзі, дзе моладзь творыць, а не пазірае ў спіны абураных гледачоў.**

Акцёры Брэсцкага абласнога тэатра Ленінскага камсамола Беларусі Ірына **ФЯДОТАВА**, Наталля **АБРАМАВА**, Жана **ЗАРЭМБА** і Леанід **ЛЯОНЦЕЎ** думаюць наконт гледача так:

— **Мы дрэнна выхоўваем гледача,** — гавораць яны. — **Мы лічым, што нашы пастаноўкі «Арганаўтаў» і «Брыганціны» зроблены на добрым узроўні, а глядач на іх не пайшоў. І прыйшлося абедзве п'есы знімаць.**

**Замест таго, каб паступова падымаць гледача ад аднаго спектакля да другога, узбагачаць яго кожнай новай пастаноўкай, мы кідаемся ў розныя бакі. Сумбурны рэпертуар — вынік слабасці сучаснай драматургіі.**

**Гэтую слабасць ускладняе дрэнная рэжысура. Я ўпэўнена, — кажа Жана, — што сярод акцёраў мноства таленавітых людзей. Будзе сапраўдная драматургія і добрая рэжысура — сучасны тэатр хутка наблізіцца да свайго ідэалу.**

**Крытыка таксама не выхоўвае гледача. Нашай крытыцы пакуль што не хапае аб'ектыўнасці.**

*— Як вам спадабаўся семінар?* — спытаў я ў чацвёркі з Брэста.



Ірына Фядотава адказала:

**— Даўно б так!**

Жана Зарэмба:

**— Вельмі карыснае мерапрыемства.**

Наталля Абрамава:

**— Добра. Толькі не ўсё зусім добра прадумана. Тры дні сярод нас быў Віктар Манюкоў, але ніхто нас з ім не пазнаёміў, і ў самы апошні дзень, за тры гадзіны да яго ад'езду, нам давялося пачуць яго цікавую гутарку.**

Леанід Ляонцеў выказаў, бадай, агульную думку ўсіх удзельнікаў семінара:

**— Каб нам часцей так сустракацца, каб усталявалася гэтая традыцыя — традыцыя творчых сустрэч, творчага адзінства! Бо якімі б шляхамі мы не ішлі ў мастацтва, мэта ў нас адна — узбагачаць яго.**

**Валянцін ЖДАНОВІЧ.**

Фота аўтара.



Тамара Пяганава ўзначальвае брыгаду камуністычнай працы на трыкатажнай фабрыцы ў Баранавічах. У брыгадзе — трыццаць восем вязальшчыц і сярод іх Людміла Барадзіна (справа).



Машыны з маркай Мінскага ордэна Леніна трактарнага завода можна сустрэць на палях многіх краін свету. У юбілейным для Савецкай дзяржавы годзе калектыў прадпрыемства працуе з асаблівым уздымам, выпраўляючы штодзень у дарогу табуны магутных сталёвых прыгажуноў.

Фота В. Ждановича.

Яшчэ адзін гігант беларускай лёгкай прамысловасці — камбінат тэкстылю ў Баранавічах. Прадпрыемства маладое, а на ім ужо ёсць свае ветэраны, такія, як роўнічніца Валянціна Дзянісава.



Круглы стол «Маладосць»

# ЯК БЫЦЬ ПРЫГОЖЫМ

### З запісной кніжкі ўрача-педыятра

1

За многія гады ўрачэбнай практыкі мне сустракаліся розныя людзі. І я навучыўся нічому не здзіўляцца. Але вось аднойчы да мяне на прыём прыйшла дзяўчынка гадоў пятнаццаці і сарамліва, апусціўшы вочы, запыталася:

— Доктар, а ці можна стаць прыгожай?

Пытанне здзівіла мяне сваёй нечаканасцю: да гэтага часу неяк не даводзілася весці са сваімі пацыентамі гаворку на такую тэму.

Дзяўчынка сядзела на канапе і напружана чакала. Я задумаўся. Гаварыць аб прыгажосці ў філасофскім сэнсе тут было недарэчы: субяседніца мая была яшчэ зусім маладая. Ды і не філасофскі бок гэтага пытання яе цікавіў — калі яна звярнулася да ўрача, то, відаць, хацела пачуць ад яго нешта больш канкрэтнае, нейкія практычныя парады. І мне падумалася: а што ж такое прыгажосць, як не сапраўднае здароўе! Так, так, здароўе, у самым шырокім сэнсе гэтага слова! І тут адразу ўсё стала на сваё месца. Я ўжо ведаў, што трэба адказаць дзяўчынцы на яе пытанне.

Можа хто з вас, нашы чытачы, і асабліва чытачкі, хацеў бы папрысутнічаць на такой гутарцы? Дык — калі ласка. Думаю, што пра тое, аб чым гаварылі мы, будзе карысна ведаць і вам.

Знешняя фізічная прыгажосць чалавека — гэта цэлы комплекс па-





няццяў. Мяркуйце самі: ці можна гаварыць аб прыгажосці чалавека, не бачачы, які ў яго колер вачэй, якія валасы, як ён ходзіць і якая ў яго пастава. Іменна гэта, надаючы характэрны, непаўторны выгляд, можа ўпрыгожваць чалавека або рабіць яго непрывабным. Нават такое старажытнае мастацтва, як касметыка, будзе бяссільнае, калі скура на вашым твары бледная і вялая ўжо ў маладыя гады.

Быть можно дельным человеком
И думать о красе ногтей,—

гаварыў некалі Пушкін. І сапраўды, касметыка, калі ёю карыстацца разумна і з густам, упрыгожвае чалавека. Але ж часам захапляюцца грымам на шкоду здароўю і прыгажосці.

Мне міжволі ўспомнілася Света — знаёмая дзяўчына гадоў шаснаццаці. Наогул, яна — развітая, начытаная, магла паспрачацца аб кнігах, любіла вершы. Яе можна было сустрэць на канцэртах прыезджых славутасцей. Толькі адно мне не падабалася ў гэтай дзяўчыне — грым. У яе не было свайго аблічча — яна насіла нейкую маску.

— Света, — спытаўся я аднойчы, — няўжо табе падабаецца твой цяперашні выгляд?

І з-пад грыму было відаць, што яна пачырванела — нават вочы сталі вільготныя.

— А што? Гэта ж модна! — з выклікам сказала яна.

На гэты раз размовы не атрымалася. Вярнуліся мы да яе месяцы праз два. Света захварэла. Я прыйшоў яе наведаць. Цяпер яна была без грыму, і на яе прыемна было глядзець.

— Света, — сказаў я ёй па-сяброўску, шчыра, — не палічы за сумную натацыю, але паслухай... — І расказаў ёй пра людзей, якія за ўсё жыццё ні разу не дакрануліся да крэму ці грыму, але тым не менш выгляд у іх заўсёды быў свежы і малады. Давялося напомніць пра многае, пра што нам, медыкам, не раз выпадае гаварыць.

Колер твару залежыць ад многіх прычын. Мае значэнне тое, высыпаецца чалавек заўсёды ці не, дзе ён бавіць вольны час — дома за кнігай ці на вуліцы, чым і як харчуецца. Напрыклад, так званая «грубая» ежа, паляпшаючы страваванне, садзейнічае свежасці твару, эластычнасці скуры. Вялікую ролю адыгрывае ў гэтай справе штодзённы туалет. Нездарма ж гавораць, што чыстата — залог здароўя. Ва ўсе часы сонца, вада і паветра рабілі скуру чалавека на дзіва гладкай і прыгожай.

— Ну а грым? — здзіўлена спытала мая субяседніца. — Чаму вы так асуджаеце яго?

І зноў прыйшлося даказваць, што грым — гэта перш за ўсё фарбы, цэлая палітра фарбаў, а з фарбамі толькі дзеці могуць абыходзіцца самавольна. Помніце словы вядомай песенькі:

Оранжевое море, оранжевая зелень,
Оранжевая лошадь, оранжевый верблюд...

Дарослым такое не даруецца. Грым — гэта мастацтва, як, скажам, жывапіс. Тут свае строгія законы, спалучэнне формы малюнка і колеру. Іх нельга парушаць. Уявіце: у дзяўчыны прыгожыя круглыя вочы і раптам — шаблонная рыска па верхнім павеку, ад якой вока становіцца падобным на вялікую коску!

Света слухала вельмі ўважліва. На гэты раз усё сказанае, здаецца, падала на спрыяльную глебу.

Прайшло некалькі месяцаў. Мы са Святланай сустрэліся на лыжнай сцяжынцы: яна вярталася са сваімі сябрамі дамоў. Вясёлая, з ружовым, як ранішняя зара, тварам, яна весела, па-сяброўску ўсміхнулася пры сустрэчы. Паглядзеў я на яе і падумаў: «Вось дзе сапраўдная прыгажосць».

2

Гэтае пісьмо прыйшло пасля адной з маіх лекцый. «Паважаны доктар! Я не хачу называць сваё прозвішча, бо не ў ім справа. Слухаў я вас у

клубе. Вы сказалі, што, маўляў, фігура залежыць ад чалавека. Выходзіць, няважна, які ён нарадзіўся. А ўсё ж слушная пагаворка: «Гарбатага толькі магіла выправіць». Мой брат Вася, напрыклад, быў доўгі, як жэрдка, такі ён і застаўся. А суседка па парце Люська — таўстуха, дык яна і да школы была такая. А вы кажаце: усё залежыць ад чалавека. Дзе ж праўда?.. Віктар».

Віктар, вядома, памыляецца. Гарбатымі людзі не нараджаюцца, а становяцца ад захворвання шкілета. А ўсякія хваробы можна вылечыць або папярэдзіць. Такім чынам, нават у гэтым выпадку я не памыліўся: усё залежыць ад чалавека.

А паўната? Жыццё дае шмат пераканаўчых прыкладаў, як з ёю трэба змагацца. Вось адзін з іх.

Школьніца Валя была не па гадах салідная. Гэта, скажам шчыра, не прыносіла дзяўчынцы радасці. Малыя дражнілі яе — «туша», а сяброўкі далёка не добразычліва пасмейваліся з яе нязграбнасці. На ўроках фізкультуры Валя адчувала сябе асабліва няёмка і, як магла, ухілялася ад гэтых урокаў. У мой кабінет яе прывяла надзея раздабыць «таблеткі ад атлусцення». Помню, Валя так і сказала: «Памажыце, доктар, дайце мне што-небудзь, каб я пахудзела». Я ледзь стрымаў сябе, каб не ўсміхнуцца — вельмі ўжо наіўна, па-дзіцячы прагучала яе просьба. Ад паўнаты пакуль што няма яшчэ ні таблетак, ні парашкоў. Але затое ёсць добра правераныя спосабы, каб пахудзець. Іх па сутнасці толькі два: каб «скінуць» лішнюю вагу, трэба, па-першае, абмежаваць ужыванне мучністых і тлушчавых прадуктаў, а па-другое — многа рухацца. Такіх лякарстваў у аптэцы не купіш — яны побач з намі, у нашых руках.

Каб пахудзець, патрэбны воля і нават мужнасць. Так, мужнасць! Уставаць рана — гэта прывычка. А калі яе няма з дзяцінства? Уявіце — раніца... У акно ліецца ружовае зарава. Хочацца спаць. І ўсё ж воля перамагае. Адзін, другі, трэці раз... Тое ж самае і з абмежаваннем сябе ў ежы, і павелічэннем фізічнай нагрузкі. Асабліва цяжка бывае ў першыя дні: баляць мускулы, у галаве — толькі думкі пра тое, каб пад'есці. Але гэта хутка праходзіць. Чалавек становіцца вышэй за свае жаданні, падпарадкоўвае іх сваёй волі. Ды і ў псіхіцы настаюць змены: расце ўсведамленне сваёй годнасці і адначасова — гордасць!

Другі крок ужо лягчэйшы. Хочацца больш рухацца. Мяккая канапа траціць сваю прыцягальную сілу. З радасным здзіўленнем раптам заўважаецца лёгкасць у рухах, а стома, як старая бяспамятная госця, пачынае забываць ваш адрас.

Чалавек стаў гаспадаром свайго цела. Адбылося тое, у што ты, Віктар, якраз і не верыў.

## 3

Існуе вядомая аксіёма: «Пахудзець — памаладзець». У адносінах да людзей сталага веку гэта, можа, і справядліва. А вось калі ў пагоні за модай катуюць сябе голадам маладыя дзяўчаты, якім у сне сніцца «асіная талія», то гэта проста недапушчальная растрата свайго здароўя.

Аднойчы мне давялося быць выпадковым сведкам спрэчкі двух дзяўчынак. Адна з іх — зусім яшчэ маладзенькая, у школьнай форме — гаварыла з апломбам жанчыны, у якой за плячамі немалы жыццёвы вопыт:

— Не, што ні кажы, а галоўнае — гэта фігура. Дабівацца гэтага трэба любой цаной...

— Галадаць з-за гэтай тваёй фігуры, ці што? — запярэчыла яе сяброўка.

— Хіба зразумець гэта такой тумбе, як ты! Тонкая талія — гэта ж модна! Ты адстала ад жыцця!

— Нельга ж сляпа ісці за модай! Глядзі, да чаго Нэла сябе давяла? Ні твару, ні цела — адзін цень! Няўжо гэтае бледнае стварэнне і ёсць узор прыгажосці?..

Я быў цалкам на баку разумнай, разважлівай дзяўчыны. Сапраўды, часам празмерная худзізна ўспрымаецца, як адзнака прыгажосці. Але даецца яна, такая «прыгажосць», дарагой цаной. Недаяданне з дня ў дзень знясільвае арганізм, і не дзіва, што такіх людзей часцей падпільноўваюць хваробы, недамаганне, жыццёвая вяласць. Такая юнацкая нямоглаincome мала чым адрозніваецца ад заўчаснай старасці.

## 4

Любая модніца выглядае непрывабнай, калі побач з ёю бачыш дужую спартыўную постаць юнака ці дзяўчыны. Мы часта чуем словы: «прыго-

— Просім нас прапусціць без чаргі. Выскачылі на хвілінку з урока.






— Бадай, час вярнуцца да жонкі... Толькі не ведаю, да якой?..



— Леан, не забывай, што ты не ўмееш плаваць.



— Цудоўны капялюшык. Шкада, што не бачыце, як ён вам да твару.

жая пастава». З імі звязваецца ўяўленне пра здаровае, моцнае трэніраванае цела. Хто з нас не любаваўся артыстамі балету, майстрамі фігурнага катання на лёдзе, паветранымі гімнастамі — плаўнасцю і сілай іх рухаў, прыгажосцю цела?

Прыгажосць цела... У чым яна? Паспрабуем разабрацца. Складанае заўсёды — сума нейкіх простых элементаў. Гэта ж, думаецца, можна сказаць і аб прыгажосці цела. Пастава, стройнасць, гарманічнае развіццё мускулатуры, плаўнасць рухаў — усё гэта грані аднаго крышталю. І каб яны заззялі — патрэбна праца майстроў.

Хто ж яны, гэтыя майстры?

Няхай гэта вас не здзіўляе, але першы майстар гэта, безумоўна, маці.

Неяк, адпачываючы ля ракі, я назіраў за дзецьмі, што сабраліся на беразе. З усіх іх выдзяляліся двое — хлопчык і дзяўчынка, абое рослыя і стройныя. І міжволі падумалася: як удалося іх выгадаваць, такіх прыгожых? Я пазнаёміўся з бацькамі, і сакрэт раскрыўся адразу. Гэта — праца, фізічная нагрузка. Пачалося яшчэ з пялёнак, калі мама клала двухмесячных дзяцей на стол. Малыя напружвалі мускулы спіны і шыі — вось вам і першая гімнастыка. Цвёрдая роўная пасцелька таксама не дробязь, бо ў ёй нават тады, калі дзіця спіць — спіна застаецца роўная. Гэта не аскетызм, а клопаты пра будучыню.

Калі малыя падраслі, ім знайшлася работа па сіле. Хлопчык любіў вадзіць коней на начлег, насіць ваду, капаць грады, хадзіць з бацькам у лес па дровы, дзяўчынка — мыць падлогу і бялізну, палоць грады. Маці магла ва ўсім спадзявацца на сваіх дзяцей — яны раслі сапраўднымі памочнікамі.

Праца з малых год — самы неабходны элемент у выхаванні здаровага чалавека. І як бывае прыкра слухаць іншую маму, якая прачытае вам цэлую лекцыю наконт «залатога дзяцінства» і ў заключэнне дадасць:

— Няхай гуляе ў лялькі. Паспее яшчэ, напрацуецца...

Такое, мякка кажучы, абераганне дзяцей ад фізічных нагрузак, як паказвае вопыт, прыносіць толькі шкоду. Праца, нават самая лёгкая, патрэбна ў першую чаргу самому дзіцяці. І справа тут не толькі ў правільным развіцці цела. Дзіця, прывучанае да працы, будзе больш падрыхтавана да жыцця з усімі яго цяжкасцямі і радасцямі.

## 5

Неяк да мяне на прыём прыйшоў юнак і паскардзіўся:

— Мне цяжка бегаць, доктар. Нават стометроўку...

Шчыра кажучы, гэтая скарга для мяне не была нечаканай. З яго мамай, Мар'яй Іванаўнай, у мяне былі гутаркі. Яна са слязьмі на вачах прасіла вызваліць свайго Толечку ад заняткаў фізкультурай, бо ён шмат гадоў таму назад хварэў на рэўматызм і яго «трэба берагчы». Вядома, шанаваць трэба кожнага чалавека, але шанаваць можна па-рознаму. Адны ў такіх выпадках прывучаюць сваё дзіця да цяжкасцей і нагрузак, другія, наадварот, ствараюць яму цяплічныя ўмовы. Толіна мама менш за ўсё думала пра нагрузкі, і часам даходзіла нават да смешнага. Пасля ўрокаў яна чакала яго ля школы — паднесці партфель...

Ішлі гады, хлопчык стаў юнаком. І вось у яго ўзнікла натуральнае жаданне паказаць сябе, але... тут атрымаўся канфуз.

«Што сказаць Толю?» — думаў я, лічачы пульс.

Сэрца ў яго здаровае, але аслабленае. Так бывае не толькі з сэрцам. Напрыклад, чалавек зламаў руку. Хірургі наклалі гіпсавую павязку. Прайшоў час, косці зрасліся, знялі гіпс, і чалавек са здзіўленнем заўважыў, што рука яго прыкметна пахудзела і страціла сваю сілу. І спатрэбіцца час, каб шляхам трэніровак і практыкаванняў чалавек вярнуў ёй ранейшы выгляд і сілу. Гэтак жа і з нашым сэрцам. Сардэчная мышца ўмацоўваецца ў рабоце і слабее ад недагрузкі. А моцнае, натрэніраванае сэрца проста неабходна ў жыцці — з ім любую цяжкасць адолееш, і ўсё табе будзе па плячы.



Помню аднаго свайго школьнага таварыша. Ён, як і многія хлапчукі да вайны, марыў стаць лётчыкам. Гэта быў час першых вялікіх пералётаў нашых слаўных сокалаў, час штурму Паўночнага полюса, час подзвігаў Чкалава. Юра цвёрда рашыў стаць лётчыкам. Але здарылася так, што медыцынская камісія аэраклуба забракавала яго.

— Відаць, не суджана табе, Юрка, лятаць у небе!

Юра толькі ўпарта сціскаў зубы:

— Даб'юся!

І з таго часу кабетам у пасёлку, дзе жыў Юра, было пра што гаварыць: такі вялікі хлопец і цэлымі днямі ганяе па вуліцы абруч ад бочкі!.. Мы таксама пасмейваліся з гэтай дзіцячай забавы. А Юра не звяртаў на ўсё гэта ніякай увагі. Ён быў заняты важнай справай — трэніраваў сэрца, лячыў сябе. Вясною ён прыбег да нас з радаснай весткай:

— Прынялі!!!

Так яшчэ адзін чалавек стаў гаспадаром свайго здароўя. Юра Зыкаў лётчык-знішчальнік. Сябры, якія атрымалі з ім баявое хрышчэнне ў часе вайны, з вялікай цеплынёй успаміналі пра яго храбрасць, вытрымку, таварыскасць. Нездарма ж яму было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза.

## 6

Ёсць яшчэ адна грань прыгажосці — прыгажосць паводзін. У скверы, у фае кінатэатра часам можна сустрэць юнакоў, якія сядзяць, разваліўшыся на лаўках, і пагарда да ўсяго свету напісана на іх тварах. Такі і не падумае саступіць месца жанчыне або старому чалавеку. Развязнасць позы, расхлябанасць у рухах псуе нават самую прыгожую фігуру, а грымаса абыякавасці нават прыгожы твар робіць тупым і непрывабным.

На жаль, сярод некаторых маладых людзей пагарда і абыякавасць да ўсяго навакольнага лічацца адзнакай мужнасці, самастойнасці. Але ніякай мужнасці ў гэтым няма, хутчэй гэта бяздумнае заліхвацтва, якое часам перарастае ў звычайнае хуліганства.

Жыў у нашым доме прыгожы хлопчык. Многім ён падабаўся: спрытны, стройны, жвавы. Часта яго ставілі ў прыклад іншым. Але так было нядоўга. Пераацаніў сябе хлопец. Ён не стаў лічыцца ні з чыёй думкай і лічыў сябе адзіным аўтарытэтам. На першым часе ніхто яго не асек, не даў здачы, і вось паступова вырас прыгожы, стройны хам. Ён мог без дай прычыны даць маламу пстрычку па носе, набіць дзяўчынку, нагрубіць даросламу. Паявіліся ў яго лексіконе «салёныя» слоўцы. Але бяда была не столькі ў тым, што сапсаваўся харошы хлопчык, — у яго знайшліся пераймальнікі. Некаторым падабалася гэтая яго задзірыстасць і незалежнасць. Дарослыя, як гэта часта здараецца, вельмі позна заўважылі гэтую перамену, а нецярпімасць да такіх паводзін была б лепшым зеллем ад хуліганства і правапарушэння.

Прыгажосць праяўляецца ва ўменні паводзіць сябе ў грамадскім месцы. Выхаванасць — адзнака кожнага сапраўднага чалавека. Яна заўсёды спалучаецца з сабранасцю, мэтанакіраванасцю, уменнем адчуваць бег часу і эканомна выкарыстоўваць гэты час. Прыгажосць — гэта сумленнасць, нецярпімасць да раўнадушша і подласці. У маладога чалавека нашага часу няма маральнага права праходзіць міма тых, хто парушае нормы асабістых і грамадскіх паводзін. Калі хто-небудзь з тваіх таварышаў збіўся з дарогі, не бойся сказаць пра гэта. Бо мужнасць — гэта таксама грань прыгажосці.

**Георгі КАЛЮЖЫН,**
**кандыдат медыцынскіх навук.**

Без слоў.





1908 г. На пероне Брэст-Літоўскага вакзала.



Брэсцкі вакзал — вароты краіны Саветаў.

# ГОРАД НАД БУГАМ

Рэпартаж



Так выглядаў уезд у Брэст да рэвалюцыі.



Старадаўні горад над Бугам... Ды як ні ўглядайся — не ўбачыш яго даўніны: роўныя вуліцы, шырокія бульвары, правільныя квадраты скавераў. Сённяшні Брэст далёка рассунуў свае межы. На месцы былога гарадзішча ў XIX стагоддзі размясцілася крэпасць — строгае вайсковае збудаванне. Патрэбна ўяўленне гісторыка, каб убачыць на гэтых астравах, абнесеных у зоркавым парадку землянымі валамі, сівую даўніну.

Толькі на пажоўклым пергаменце летапісаў захавалася памяць пра старое Бярэсце. Пад 1017 годам — першы ўпамін пра яго, упамін, як належыць продку, салідны і бясстрасны. Затое 1648 год гамоніць так, што ажно дрыжаць гарадскія сцены, закіпае места бунтам, агонь шыбае да нябёс. Уціснуты люд «веры рускай» адчайна рваўся злучыць долю сваю, па прыкладу Украіны, з Масковіяй.

Зняверыўшыся, што можна вярнуць былую роўнасць усіх веравызнанняў, пісьменнік-палеміст Афанасій Філіповіч таксама стаў на шлях змагання.

Жылыя дамы на бульвары імя Шаўчэнкі.

Фота В. Германа (БЕЛТА).



Брэст дарэвалюцыйны. Як на якое дзіва сабраліся брэстчане ля «Гранд-атэля», ад ганку якога ад'язджае аўтамабіль.

Загінуў у няроўнай барацьбе са шляхтай, пакінуўшы толькі памятку сваіх пакутлівых намаганняў—славуты «Дыярыуш» — дзённік, сагрэты гневам і помстай, набрынялы крывёю, прагорклы праклёнамі: «Не выйдзе з панства вашага меч і агонь той, аж покуль унія шыю не зломіць!»

Ішлі вякі. Нажываў горад уменне і вопыт барацьбы. Служачы ў крэпасці, павучалі яго свабодалюбству і паэт-дзекабрыст Фёдар Глінка, і свавольны афіцэр-вальнадумец Аляксандр Грыбаедаў, і пісьменнік-дэмакрат Фёдар Рашэтнікаў, і кіраўнік паўстання 1863 года ў Польшчы Рамуальд Раўгут. У памятным дзевяцьсот пятым ужо дзейнічала ў Брэсце ленінская група РСДРП, рэвалюцыйныя хваляванні ахапілі гарнізон крэпасці. Потым яны перакінуліся ў горад і гулкім рэхам адазваліся па ўсім Палессі.

Вялікі Кастрычнік звязаў назву го-



Гасцініца «Буг» на вуліцы Арджанікідзе.



Руіны Брэсцкай крэпасці. 1946 год.

Фота З. Чаховіча.



Брэсцкая крэпасць. Холмскія вароты.



Летні тэатр у г. Брэст-Літоўску. 1917 год.

рада з лёсам краіны Саветаў: у Белым палацы на цэнтральным востраве цытадэлі быў падпісаны Брэсцкі мір, які даў перадышку Савецкай рэспубліцы. Летам 1920 года святло свабоды дасягнула Буга, але ненадоўга: пасля Рыжскага міру Брэстчына апынулася пад уладай буржуазнай Польшчы. І зноў змаганне, і зноў ахвяры... Дзесьці глыбока ў нетрах гісторыі выспявала слава Брэста, слава крэпасці-героя.

Чэрвеньская ноч 1941 года. Салдаты новага свету, сыны больш як трыццаці нацыянальнасцей Савецкага Саюза сталі тут насмерць. Сваёю крывёю асвяцілі абаронцы гэтыя астравы. Кожны каземат, кожная цагліна, кожная груда зямлі, адчуўшы гарачыя ўдары салдацкіх сэрцаў, ажылі, набылі дар мовы.

Сёння гэтая зямля гаворыць словамі гераічнай і пакутлівай легенды. Пашчэрбленыя кулямі Холмскія вароты расказваюць пра тое, як загінуў тут палкавы камісар Фамін, расстраляны фашыстамі. Лабірынт казематаў і сёння паўтарае той покліч здзіўлення і жаху, з якім сустрэлі ворагі на трыццаць другім дні абароны знясіленага, параненага, але нязломнага маёра Гаўрылава. А зялёныя насыпы валоў напамінаюць пра генерала Карбышава, які яшчэ царскім афіцэрам будаваў іх. У гады вайны, ужо генералам рабоча-сялянскай арміі, ён паказаў узор вернасці воінскаму абавязку і чэсці. Такіх стойкіх і мужных было нямала ў горадзе і ваколіцах у суровыя гады вайны. Брэсцкія падпольшчыкі памножылі баявую славу горада, а партызаны разнеслі яе па лясах і дарогах Палесся.

І сёння людзі расказваюць легенды пра сакратара Брэсцкага падпольнага абкома партыі Івана Баброва, старшыню антыфашысцкага камітэта Іосіфа Урбановіча, юнага партызана Міколу Гойшыка, што аддалі жыццё ў змаганні з фашыстамі за сённяшні шчаслівы дзень Радзімы і за яе заўтрашні дзень.

Сучасны Брэст — буйны прамысловы горад, культурны і адміністрацыйны цэнтр Заходняга Палесся. Вокнамі дванаццаціпавярховых дамоў здзіўлена ўглядаецца ён у блакітнае люстэрка Мухаўца: «Якім я стаў! А якім яшчэ буду?»

У горадзе жыве больш ста тысяч чалавек. А праз дзесяць гадоў насельніцтва Брэста падвоіцца, узнікнуць новыя жылыя і прамысловыя раёны. Акрамя электралямпавага, аўтарамонтнага заводаў, дывановага камбіната і завода газавай апаратуры, тут паўстане буйнейшая ў краіне панчошна-шкарпэткавая фабрыка на трыццаць два мільёны пар вырабаў у год.

Турысты, якія наведваюць Брэст, могуць пачуць тут беларускае, рускае, украінскае і польскае слова. Зразумелыя ўсім славянам, гэтыя словы зліваюцца ў шматгалосую гамонку. Адценні ў акцэнтах нікога не бянтэжаць, не здзіўляюць. Да іх прывыклі брэстчане. Інакш і нельга ў сацыялістычным горадзе, які стаіць на рубяжы Савецкай дзяржавы, як яе заходнія вароты. Узаемная павага людзей розных народаў — паказчык культуры міжнацыянальных адносін, выпрацаванай у нас, у Савецкай краіне, за пяцьдзесят гадоў яе гісторыі.

Уладзімір КАЛЕСНІК.



Будынак тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі.




# ІДУЧЫ АД ДЭТАЛІ



— Дзядзька Васіль, чые гэта дзеці?

— Калі мурзатыя, то мае.

— Вы іх у твар не ведаеце? Колькі ж іх у Вас?

— А хто яго знае. Як стануць зранку лезці на печ, то да вечара лезуць.

Дыялог гэты, пачуты на Брэстчыне, я пераказаў Аляксею Кулакоўскаму для завязкі размовы пра мастацкую дэталь.

— **Хораша сказана,**— смяецца Аляксей Мікалаевіч.— **Ды дзе ты і пачуеш дасціпнае слова, як не ў народзе... Ён умее сказаць так, што адразу напомніць нейкую карціну жыцця. Прывёз я аднаго разу да сябе сваю маці з вёскі, ёй за восемдзесят гадоў. Выйшла яна на балкон, і першае, што я пачуў: «О, і верабейчыкі тут ёсць». І яна адразу паўстала тут са сваёй вёскай, са сваімі адносінамі да горада, са сваім густам. Вось яе густ — вось вам і чалавек...**

**У кожнай жыццёвай з'яве, у кожным чалавеку ёсць нешта сваё, адметнае. І ніхто так не ўмее заўважаць гэтую адметнасць і сказаць пра яе, як самі ж людзі.**

**Помню, будучы неяк у вёсцы, стаю каля варот. Ідзе чалавек. Відаць, нехта з сельпоўскіх работнікаў. Ідзе з партфелем пад пахаю, паходка дробненькая, і ўсё ў ім неяк сціснута. А бабулька — яна таксама стаяла ля сваіх варот — зірнула яму ўслед і галавой паківала: «Глядзі ты, а сухенькі, як гарохавая лапатка».**

— Мастацкая дэталь, падрабязнасць — гэтыя тэрміны часта можна пачуць у пісьменніцкай аўдыторыі. Што такое, на Ваш погляд, мастацкая дэталь? Чым яна адрозніваецца ад звычайнай падрабязнасці ў творы?

— **Мяне некаторыя літаратары лічаць «бытавіком». Я не тэарэтык, але, на мой погляд, бытавая дэталь, калі яна трапная, ёмістая, заключае ў сабе сацыяльны, агульначалавечы сэнс. Я маю на ўвазе такую рысачку,**

**такую характэрнасць, якая вызначае і абагульняе ці то з'яву, ці то пэўны чалавечы характар. Я сказаў бы, што мастацкая дэталь — гэта тая кропля свежай вады, у якой месціцца ледзь не цэлы свет. Падрабязнасць — нешта зусім іншае. Можна ў творы расказаць, напрыклад, як начлежнікі секлі дровы, распальвалі вогнішча, як ставілі і здымалі скавараду з вуголляў, і ўсё гэта не будзе мець ніякага дачынення да іх характараў. Мы ўявім сабе толькі больш ці менш выразна абставіны, у якіх адбываецца дзеянне. Падрабязнасці, на маю думку, складаюць толькі атмасферу, у якой дзейнічаюць героі твора. А дэталь — гэта тое, калі мастак у двух словах можа сказаць вельмі многае. У той жа час залішняя дэталізацыя — амаль што пераход у падрабязнасці. Адна мастацкая дэталь павінна дапаўняць другую, а не надакучліва прыкладвацца або паўтараць яе.**

— Інакш кажучы, дэталь у творы — гэта такі сродак, які памагае чытачу ўбачыць і зразумець сутнасць характару, вобраза, малюнка, з'явы ў адпаведнасці з аўтарскай задумай. Прызнацца, мне гэта і хацелася пачуць, бо ў свой час я цікавіўся праблемай майстэрства мастацкай дэталі і чытаў па гэтаму пытанню спецыяльныя работы, але ў тэарэтыкаў літаратуры меркаванні на гэты конт болей расплывістыя. А скажыце, Аляксей Мікалаевіч, як усё сказанае праяўляецца ў Вашай творчай практыцы?

**— Калі гаварыць па шчырасці, то сам не ведаю. Добра гэта ці не, але ў мяне амаль усе творы нараджаліся з дэталі. Спачатку кране душу нейкая жыццёвая дэталь, яна будзе помніцца, непакоіць, свідраваць нутро, пакуль пра яе не напішаш. Нават аповесць «Нявестка» паявілася з адной, на першы погляд малазначнай, дэталі. Прыйшоў аднаго разу стары чалавек у нашу хату і пачаў расказваць маёй маці: «Нагрэла яна (нявестка.— А. Г.) вады, у начоўкі наліла і сказала: «Тата, папарце ногі». Гэта — элементарная чалавечая дабрата. Але тое, як пра яе было сказана, вельмі кранула мяне. Пачаў я думаць пра гэтага дзеда. Відаць, ён быў вельмі адзінокі... І паступова стаў вырысоўвацца вобраз самотнага, але сумленнага і працавітага чалавека, які ў аповесці займеў імя — Даніла. Пасля з'явіліся і іншыя героі, падказаныя творчай фантазіяй. Спачатку ж я ішоў ад адной дэталі і думаў толькі пра Данілу.**

**Калі гаварыць пра апавяданні, то я мог бы прыгадаць адну з самых ранніх сваіх навел «Стары млын». Быў некалі я з Васілём Віткам у Еўлічах. Гэта яго радзіма. Пайшоў дождж. Дзецца не было куды, і мы — пад млын. Наляцеў вецер — заскрыпеў стаяк, загулі, засвісцелі крылы. Мне падумалася: «Рамантыка для дзяцей. Яны могуць уявіць, што ляцяць у самалёце, плывуць на караблі... А ці відзён з гэтага ветрака Слуцак?»**

**Прайшоў час, я напісаў апавяданне і словы пра Слуцак уклаў у вусны аднаго з герояў, які разам са сваім сябрам Петрыкам сачыў, ці не ідуць з-пад Слуцка фашысты. Ён і цяпер узлез на вятрак, убачыў Слуцак цяперашні, а паблізу — магілку Петрыка...**

**Або ўзяць «Нямка». Гэта ўсё з ранейшых апавяданняў, але я ім сімпатызую, бо цяпер такіх, мабыць, не напішу: раней пісалася з большай непасрэднасцю, з меншай аглядкай на крытыку, на рэдактараў. Мне ўспомніўся мой аднакашнік — нямы хлопец, якога ўсе баяліся. Пабойваўся яго і я: здавалася, што ён і ўдарыць чалавека можа. І вось аднойчы гэты хлопец знайшоў птушанятка, што вывалілася з гняздзечка. Я ўбачыў, як ён любоўна ўзяў гэтае птушанятка ў рукі. З гэтай дэталі і вырасла аснова апавядання «Нямко». Потым, пры далейшым роздуме, паявіўся сацыяльны матыў, звязаны з вайной — гэта я ўжо дамысліў; паступова з'яўляліся і дабаўляліся іншыя дэталі, і нарэшце апавяданне стала такім, якім яго можна пачытаць у першым зборніку «Сад» і ў кнізе «Хораша ўзыходзіць сонца».**



Аляксея Кулакоўскага часта называюць майстрам бытавой дэталі. Але ўвага да побыту ніколі не ператворыцца ў бытавізм, калі твор будзе прасякнуты глыбокай думкай аб жыцці, аб чалавеку, аб яго душы. У лепшых апавяданнях пісьменніка гэтая думка праводзіцца ненадакучліва і тонка. Герой апавядання «Кватаранты» любіць запрасіць сваіх пастаяльцаў пасядзець у цыратавым крэсле. Спачатку на гэтым «урачыстым» месцы сядзеў камбайнер. Гаспадар не скупіўся на пачастунак, на ласку. Але прайшло нямнога часу і ў крэсле сядзіць ужо ветэрынарны фельчар, бо камбайнер, як сказаў гаспадар: «Вельмі ж ужо за зерне дрыжыць, дурань». Праз гэтую, на першы погляд, нязначную бытавую дробязь — крэсла — мы бачым нейкія рысы ў характары людзей, настройваемся на пэўныя адносіны да іх. Сама бытавая дэталь нясе пэўную сацыяльную нагрузку.

Пра апавяданне «Дванаццаты, жорсткі» пісьменнік расказвае:

**— Яно з'явілася не з адной, а з сукупнасці дэталей. Сапраўды, я ехаў у такім вагоне. Было гэта недзе на пачатку 50-х гадоў. Побач ехалі лейтэнант, жанчына з дзіцем. З аднаго боку, афіцэр — быццам і бравы, быццам і харошы. І раптам — яго бесклапотны нахабны свіст... Жанчына ж нечым прываблівала, хоць яна і не такая прыгожая знешне. Кантраст: у аднаго надзвычайная душэўнасць, схільнасць да мастацтва (сапраўды, яна з хору Цітовіча), у другога — прыгажосць, але нікчэмнасць, як чалавека. Мне хацелася вырашыць пэўную сацыяльную праблему. З-за нейкай прычыны, памылкі ці недарэчнасці чалавек трапляе ў вельмі складанае, супярэчлівае становішча Знешне жанчына адчувае сябе быццам бы і не кепска: муж прыгожы, афіцэр. Усім з выгляду падабаецца. І тут жа — надзвычайны трагізм. Яна зразумела ўжо гэта, але нічога не можа зрабіць. Мне хацелася паставіць задачу перад чытачом: як тут быць? За словамі «будзе яна спяваць ці не будзе» хаваецца сімвалічны сэнс.**

— Аляксей Мікалаевіч, некаторыя Вашы творы вельмі «прывязаны» да Вашых родных мясцін. Што Вы скажаце наконт гэтага?

**— Мне ўспамінаецца Кузьма Чорны, які гаварыў, што толькі пра Цімкавічы і цімкаўцаў ён мог бы расказваць усё жыццё. Я не хачу сцвярджаць, што павінен пісаць толькі пра вёску Кулакі ці Салігорск. Трэба ведаць і Кулакі, і Цімкавічы, і Салігорск, і Бабруйск, і Парыж. Дрэнна, калі толькі Парыж. Я па Вас заўважыў, што для Вас вельмі блізкая Брэстчына, той жа дзядзька Васіль. Для мяне — мае родныя мясціны. Відаць, тут важна, каб за імі бачыўся і шырокі свет. Найбольш блізка да сваіх родных мясцін я падышоў у аповесцях «Нявестка», «Тут я жыву», «Тры зоркі», «Расце мята пад акном» і ў цыкле апавяданняў «Салігорскія эцюды». Такі выпадак, пра які расказана ў апавяданні «Рускі цуд», сапраўды быў у Салігорску. Электразваршчык неяк сабраўся ў кіно. І раптам трубу прарвала. Ён бяжыць на месца аварыі і працуе ўсю ноч. Я напісаў, што фільм, на які ішоў з жонкаю гэты чалавек, называўся «Рускі цуд». Гэта дае ўсяму іншы паварот.**

**Дарэчы, пра назвы. У самой назве твора павінна быць пэўная сімволіка і глыбіня. Часам мастацкая дэталь як бы ўкладваецца ў самую назву або ў першы радок твора. Дубаватая, шаблонная назва амаль заўсёды псуе, а то і зусім прыніжае твор. Перш за ўсё, як мне здаецца, чытач не павінен па назве ўгадваць усю задуму апавядання і яго канцоўку.**

Аляксей Мікалаевіч бярэ з паліцы кніжку апавяданняў і чытае назвы: «Добрае слова», «Камсамольскі білет», «З вайны», па якіх адразу відаць, пра што будзе ісці гаворка ў творы.

**— Я прыхільнік таго,**— працягвае ён,— **што навела — не «лабавы» твор. Яна і будуецца своеасабліва. Яна — з намёкамі, і ў ёй павінен быць абагульняючы, нават нечаканы канец.**

— Аляксей Мікалаевіч, а што Вас цяпер займае, трывожыць?

**— Працую над новым цыклам навел, які мяркую назваць «Крымскія апавяданні». Пастараюся будаваць іх на эмацыянальных, абагульняючых дэталях. Адно з апавяданняў называецца «Пакарміце рыбак». Не ведаю, наколькі яно мне ўдалося, але па задуме тут павінна прайсці такая, як цяпер модна гаварыць, асацыяцыя: тыя людзі, якія не пройдуць міма галодных рыбак у акварыуме, не пройдуць раўнадушна і міма чалавечага гора. Сама асацыяцыя з'явілася з такоганазірання: як правіла, кожная мяшчанка корміць катоў, але ёй абсалютна нічога не значыць растаптаць, скажам, кветкі і нават чалавечую душу.**

**Ёсць апавяданне «Кроквы». Знаеце, што гэта такое?**

— Калі будуюць хату, то...

**— Гарадскі не кожны ведае, што гэта такое... Дык вось... Сюжэт такі: чалавеку адвялі дзялянку лесу на хату. Ён прыйшоў туды і ўбачыў акопы. Успомнілася, што ён тут ваяваў. У акопах ужо выраслі сосны. Сосек іх на кроквы. Седзячы на зрубе, міжвольна ўспомніў пра мінулую вайну... Забалелі, зашчымелі старыя раны... І вось гэтыя самыя «кроквы», а таксама іншыя дэталі памагаюць мне стварыць пэўную вобразную карціну жыцця.**

На гэтым наша размова скончылася. Я выйшаў з гасціннай кватэры гаспадара. Мяне доўга не пакідала пачуццё нейкай прыўзнятай радасці ад таго, што ўдалося «дакрануцца» яшчэ да аднаго з момантаў пераўтварэння жыцця ў мастацтва.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

● ● ●

# ДЫХАННЕ ПАЭЗІІ




**Генадзь БУРАЎКІН. Дыханне. Паэзія. Мінск, выдавецтва «БЕЛАРУСЬ», 1966.**

У кароценькай прадмове да новай кніжкі Генадзь Бураўкін зазначае пра свае вершы: «У іх — мой роздум, мае трывогі і пошукі, мая радасць, мой гнеў. Я хацеў перадаць дыханне часу, дыханне свайго сэрца, сэрца грамадзяніна дваццатага стагоддзя...»

Паэт гаворыць слушна. У творах новага зборніка сапраўды гулка б'ецца сэрца сучасніка, выразна праслухоўваецца напружаны пульс чалавека, заклапочанага ўсімі трывогамі нашага вялікага і грознага стагоддзя з яго практычнасцю, суровай цвярозасцю і складамі вадародных бомб.

Усё як ёсць табе вiдаць адразу—
I кроў,
і здрада,
і падлог,
і гнеў.
Ад войнаў,
ад палітыкі
і джазу
Ты агрубеў
і рана ачарсцвеў.
I ўсё ж
ты хочаш да вякоў данесці,
Ад ненажэрнай смерці ўберагчы
Паэтаў выпакутаваныя песні,
Касмічных трас цяжкія абручы.
Баішся,
каб ад атамных бяссонніц
Навек наш свет зялёны не зачах...
Таму і цягнем мы цябе да сонца
На потных і скрываўленых
плячах,—

так акрэслівае паэт агульны дыяпазон складанай супярэчлівасці нашага часу ў вершы «Дваццаты век», што адкрывае кніжку і з'яўляецца яе своеасаблівым запевам. Верш гэты, вытрыманы ў стылі ўзвышанай і маштабнай публіцыстыкі, вельмі характэрны не толькі для новага зборніка Генадзя Бураўкіна, але і для ўсёй яго творчасці. Страснасць і напружанасць публіцыстычных інтанацый, падкрэсленая грамадзянскасць і актыўная наступальнасць, знарочыста адкрытае і нават палемічна рэзкае выяўленне аўтарскай пазіцыі — усе гэтыя асаблівасці індывідуальнай мастацкай манеры Генадзя Бураўкіна натуральна нараджаюць яго непрыманне «вячэрняй асцярожнасці» і «ранішняй туманнасці» ў людскіх узаемаадносінах і грамадскіх справах («Поўдзень»), выклікаюць вельмі сугучную нашаму часу нянавісць да паказной сціпласці палахліўцаў і раўнадушных, якія ўмеюць акуратненька і салідна маўчаць тады, калі вырашаецца чалавечы лёс («Пра сціпласць»).

Паэт згаджаецца лепш ужо «саграшыць», пайсці на рызыку памылкі, магчыма, упасці ніцма, лезучы «пад вецер штармавы» ў змаганні за праўду і справядлівасць, чым паддацца спакусе такой сціпласці, за якою хаваецца звычайная подласць («Зусім бязгрэшным»).

Зрэшты, прыхільнікі гэтай подленькай або палахлівай сціпласці не заўсёды аказваюцца ў выйгрышы нават з пункту гледжання ненавісных паэту мяшчанскіх стандартаў, бо, усяго баючыся, яны фактычна праходзяць міма жыцця. Так узнікае звязаная з грамадскімі ўмовамі не вельмі далёкіх, але ўжо мінулых часоў трагедыя страху, спалоханай аглядкі, празмернай абачлівасці і ўрэшце грамадзянскай нематы, якая бывае асабліва страшнай, калі яна становіцца звыклай і нават добраахвотнай. Такі сэнс невялікай паэмы Генадзя Бураўкіна «Чужая споведзь», у якой перад намі паўстае чалавек трагічнага лёсу.

Як баяцца турмы,
дзе стражнік
За дзвярыма сыта сапе!
Толькі ёсць турма болей
страшная—
Калі сам сцеражэш сябе.
Ні амністыі,
ні адвакаты
Не памогуць,
як ні крычы.
Сам сябе пасадзіў за краты,
I замкнуў. I закінуў ключы.
I здаецца, усё так цудоўна,
I на ўсім—
спакою пячаць.
Добра ведаю ў людзях і дома,
Дзе крычаць,
а дзе прамаўчаць.
Каб не вырваўся,
днём і ноччу
Сам трымаю сябе за рукаў.
Па палічках,
як па адзіночках,
Думкі ўсе свае распіхаў,—

прызнаецца персанаж, выведзены ў паэме. Успамінаючы пражытыя ў немаце гады, перабіраючы «нудных дзён сваіх мякіну», «задум нявдзейсненых руду», ён сам сабе выносіць бязлітасны прысуд, зразумеўшы, хоць і занадта позна, сваю вялікую памылку.

Лірычны герой паэмы бескампрамісна судзіць гэтага чалавека трагічнай памылкі, судзіць імем дваццатага стагоддзя, імем грамадзянскай мужнасці, праўды і той непадкупнай сумленнасці, якая дае «на смеласць чалавечую правы».

Усхвалявана, з сапраўдным публіцыстычным напалам піша Генадзь Бураўкін у сваёй новай кнізе пра велічныя і трагічныя старонкі Айчыннай вайны, пра вялікі

подзвіг нашага народа ў гэтыя гады.

Жахлівую карціну дзікага самавольства фашыстаў на шматпакутнай беларускай зямлі асобнымі выразнымі штрыхамі-пункцірамі малюе паэт у вершы «Асвейская балада»:

Карнікі.
Карнікі.
Карнікі.
Чорныя,
нібы вораны.
Карнікі.
Карнікі.
Рукі ў сажы пажараў.
Карнікі. Страшнейшыя з ворагаў.
На мундзіры—чэрап і косці,
Пад мундзірам—ні сэрца,
ні жалю.

Мужная стрыманасць мускулістых, пружынячых інтанацый, разлічаная на адпаведнае ўспрыняцце і падкрэсленая самой арганізацыяй паэтычнага радка перарывістасць рытму, шматлікія паўторы ключавога слова-вобраза, выразны гукапіс (карнікі, закаркалі, чорныя вораны, ворагі, сажа пажараў і г. д.), працяглая ў сваім гучанні рыфма (вобзем—возера, асверы—Асвеі, вораны—ворагаў, хаты—трыбухатаму)—усё гэта гаворыць аб добрай тэхнічнай аснашчанасці паэта, аб яго ўменні інструментаваць верш. «Асвейская балада» гучыць, як рэквіем у памяць тых ахвяр фашысцкага варварства, ад крыві якіх некалі здавалася салёнай вада ў возеры.

Усім пафасам свайго твора паэт сцвярджае, што ахвяры гэтыя ніколі не могуць быць забыты. І таму зноў жа вельмі натуральна і зразумела, што ён і сёння не даруе здраду былому паліцаю, з трывогай і занепакоенасцю ўспрымае залішнюю паблажлівасць, з якою ставяцца ў цяперашняй Заходняй Германіі да былых нацыстаў. У гэтай небяспечнай паблажлівасці паэт бачыць прамую абразу для свайго суседа, у якога яшчэ з ваенных часоў «рыпіць пратэз і кашаль разрывае грудзі» («Паліцай», «Ідзе працэс»).

Адлюстраванне вайны ў Генадзя Бураўкіна, зрэшты, як і ў іншых паэтаў, скажам, у таго ж Анатоля Вярцінскага, звязваецца з хвалюючымі праблемамі сучаснасці. Гэтая сувязь адчуваецца і ў вершах «Балада пра мінёраў», «Неба і зямля», «Безымянныя вышыні», «Калі зямля спакойна засынае». Апошні з названых вершаў асабліва ўдаўся паэту. Ён уражвае скандэнсаванасцю паэтычнай фразы, маштабнасцю асацыяцый і велічнасцю вобразаў былых воінаў, якія добра ведаюць цану вайны і здабытай перамогі. Яны ўсё яшчэ не могуць спакойна спаць не толькі таму, што начамі па-ранейшаму «смыляць незарубцованыя раны», але і з той прычыны, што іх не пакідаюць трывожныя думы пра лёс чалавецтва:

Бяссонніцу праносяць інваліды
Па вуліцах дваццатага стагоддзя,
І ў іх вачах гарыць, не патухае
Ці то чырвонае густое сонца,
Ці бітваў незакончаных агонь.

Згадкі пра вайну ў некаторых вершах Генадзя Бураўкіна пераходзяць у роздум аб пераемнасці пакаленняў, аб тым, што нашы сучаснікі з'яўляюцца законнымі нашчадкамі баявой славы бацькоў, якая шмат да чаго абавязвае.

У кнізе «Дыханне» шмат вершаў прысвечана Беларусі, яе прыродзе, яе гісторыі, роднаму бацькоўскаму кутку—азёрнай Полаччыне. Пра гэты край з яго слаўнымі гістарычнымі традыцыямі і багатымі сучаснымі здзяйсненнямі Генадзь Бураўкін піша часта. Дастаткова прыгадаць хоць бы яго «Полацкую баладу» з «Майскай просіні» або вершаваны цыкл «Полацк. Нафтабуд» у кнізе «З любоўю і нянавісцю зямною».

Але Полаччына для паэта—гэта разам з тым і сінонім усёй нашай рэспублікі, роднага краю ў шырокім значэнні слова. У вершах «Край мой...», «Рэкі Беларусі», «Мінску», «Успамін пра начлег» таксама выразна адчуваецца павышаная цікавасць паэта да нацыянальнай гісторыі свайго народа, да народных традыцый і наогул да ўсяго роднага, савецкага. Нездарма ж аўтар у вершы «Словы жудасна паміраюць» усхвалявана ўсклікае:

Людзі! Людзі!..
Ну што ж вы, людзі,
Не ратуеце, родных, іх!..



Большасць з вершаў, дзе паэтызуюцца юнацкія сцежкі, знаёмыя з дзяцінства мясціны, блізкія людзі, вызначаецца добрай маляўнічасцю, засяроджаным роздумам і тым мяккім, задушэўным лірызмам, які раней, здаецца, не вельмі выразна праяўляўся ў трохі рэзкаватай, падкрэслена публіцыстычнай манеры Генадзя Бураўкіна. Гэтая публіцыстычнасць і цяпер засталася ў аўтара, як характэрная адзнака яго паэтычнага стылю, але ў кнізе «Дыханне» мастацкая палітра паэта істотна ўзбагацілася за кошт вельмі натуральнай у вершах пра родны кут маляўнічасці, задушэўнага лірызму. Як хораша, інтымна-сардэчна загучаў тут «ціхі», сціплы, але змястоўны, багаты пачуццямі верш «Я ўваходжу ў лес, нібыта ў хату».

Тут недзе маці сабірае думы
У кошык,
поўны выспелых суніц.
І лес
сівым вясковым тугадумам
Над кожнаю сцяжынкаю стаіць.

Я перад ім
схіляю галаў нізка—
І чую,
як у мудрай цішыні
То ліпа раптам зарыпіць калыскай,
То скрыпкаю яліна зазвініць.
Я чую,
як на ўзлеску верасовым
Зязюля лічыць і мае гады.
І ціха ў сэрцы прарастаюць словы,
Цяжкія, як рудыя жалуды.

Прачулы і каларытны малюнак роднай прыроды, сагрэты мяккім аўтарскім лірызмам, натуральна завяршаецца думкай паэта пра сваю творчасць. І трэба сказаць, што роздум аб высокім прызначэнні паэзіі і мастацтва наогул усё часцей і часцей бярэ ў палон паэта, які сцвярджае шчырасць, гранічную сумленнасць перад сабой і часам, грамадзянскую адказнасць за ўсё, што робіцца на свеце, падкрэслівае сваё жаданне несці людзям важкае слова праўды. Роздум гэты—таксама адна з прыкмет сталасці сённяшняй паэзіі Генадзя Бураўкіна.

**Дзмітры БУГАЁЎ.**

# ГОЛАС ГІСТОРЫІ

**ХРОНІКА БЫХАЎЦА. Выдавецтва «Навука», Масква, 1966.**



Старажытныя народы ўвекавечылі сваю гісторыю ў гераічных песнях, сагах, паэмах, хроніках, летапісах. Раскрываючы багацце і разнастайнасць гістарычнага жыцця народаў свету, гэтыя творы з'яўляюцца такім чынам і сведкамі іх духоўнай актыўнасці ў далёкім мінулым.

Памяць пра сваё багатае мінулае захаваў і беларускі народ. І самымі яркімі і значнымі помнікамі, якія непасрэдна прысвечаны гісторыі даўняй Беларусі, з'яўляюцца беларускія летапісы і хронікі.

Першыя гістарычныя запісы аб падзеях свайго часу былі зроблены на тэрыторыі сучаснай Беларусі звыш васьмісот гадоў таму назад (XII ст.) у слаўным горадзе Полацку, сталіцы вялікага і моцнага княства. Аднак найбольшага развіцця, сапраўднага свайго ўздыму, беларускае летапісанне дасягнула ў XV, XVI і першай палове XVII стагоддзя. Яго вяршыняй па праву лічыцца «Хроніка Быхаўца», напісаная безназоўным аўтарам дзесьці ў 50-х гг. XVI стагоддзя *.

«Хроніка Быхаўца»—цікавы і па свайму зместу, і па сваіх ідэях, і па сваёй мастацкай форме твор.

* Сваю ўмоўную назву гэтая хроніка атрымала па імені ўладальніка адзінага вядомага навуцы яе рукапісу, што належаў у першай палове мінулага стагоддзя пану з-пад Ваўкавыска Быхаўцу.

Літаратурнымі крыніцамі для аўтара гэтай хронікі былі Беларускі I, Беларускі II і Галіцка-Валынскі летапісы. Аднак многія значныя перыяды гісторыі Вялікага княства Літоўскага асветлены непасрэдна ім самім. Такім чынам беларускі храніст уклаў у твор самую поўную для свайго часу гісторыю сваёй Радзімы, свядома надаўшы ёй выгляд белетрызаванай гістарычнай аповесці.

«Хроніка Быхаўца» сведчыць аб высокім майстэрстве яе аўтара як пісьменніка і гістарыёграфа. Паглыбляючыся ў гераічнае мінулае беларускага і літоўскага народаў, беларускі храніст спыняўся на такіх значных і яркіх момантах іх гісторыі, паказ якіх меў для чытачоў найбольшую цікавасць. На аснове кароткіх, сухіх летапісных звестак ён стварае разгорнутыя і займальныя апавяданні, месцамі свядома прыхарошваў і ўзвялічваў мінулае Вялікага княства Літоўскага — і ўсё для таго, каб дамагчыся максімальнага ўздзеяння на патрыятычныя пачуцці сваіх суайчыннікаў. І ён з поспехам выканаў сваю задачу. Багаццем зместу, жывасцю выкладання, вобразнасцю мовы апавяданні аўтара «Хронікі Быхаўца» ярка вылучаюцца на фоне летапісных матэрыялаў папярэдніх аўтараў. Некаторыя ж з гэтых апавяданняў (пра паход князя Альгерда на Маскву, пра Грунвальдскую бітву, пра забойства князя Сігізмунда і іншыя) з'яўляюцца сапраўды паэтычнымі і смела могуць быць пастаўлены ў шэраг самых значных здабыткаў беларускай прозы XVI стагоддзя.

Бясспрэчнае значэнне мае гэты твор і як помнік грамадскай думкі і гістарыяграфіі Беларусі і Літвы XVI стагоддзя. «Хроніка Быхаўца» памагае нам сёння добра адчуць бурную грамадска-палітычную атмасферу Беларусі і Літвы напярэдадні Люблінскай уніі (1569 год), а гэта значыць, лепш спазнаць і зразумець наша мінулае.

Беларускі храніст быў гарачым патрыётам сваёй Радзімы, і таму ён надзвычай добра перадаў трывогу за яе далейшы лёс. Абарона дзяржаўнай самастойнасці вялікага княства Літоўскага — яго галоўная ідэя. Ён звяртаецца да далёкага мінулага, каб прыкладам продкаў натхніць сваіх суайчыннікаў на ратныя подзвігі ў імя захавання магутнасці і незалежнасці гэтай дзяржавы.

Ва ўмовах, калі экспансія польскіх паноў на беларускія, украінскія і літоўскія землі дасягнула свайго апагею, гэтая ідэя была гістарычна прагрэсіўнаю, бо яна аб'ектыўна азначала абарону палітычнай і нацыянальнай незалежнасці народаў, якія жылі на тэрыторыі Літоўскага княства. Станоўча ацэньваючы палітычную дальнабачнасць аўтара «Хронікі Быхаўца», не варта закрываць вочы і на класавую абмежаванасць яго пазіцыі, што выявілася, напрыклад, у пераацэнцы ролі пануючага класа ў абароне дзяржаўнай незалежнасці гэтага княства.

«Хроніка Быхаўца» з'яўляецца важнай крыніцай для вывучэння гісторыі народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, асабліва Беларусі і Літвы. Пачынаючы ад Мацея Стрыйкоўскага, польскага гісторыка другой паловы XIV стагоддзя, ёю і іншымі беларускімі *летапісамі* багата *карысталіся* польскія, рускія, беларускія, украінскія даследчыкі, ствараючы гісторыі сваіх народаў. Беларускія летапісы і хронікі давалі і даюць многім пісьменнікам тэмы, вобразы, сюжэты, натхнялі і натхняюць іх на стварэнне гістарычных раманаў, аповесцей, паэм, драм (А. Міцкевіча, Ю. Крашэўскага, І. Майроніса, Б. Сруога, У. Караткевіча і іншых). Усё гэта сведчыць аб вялікім культурна-гістарычным значэнні беларускіх летапісаў і хронік.

Аднак, на жаль, гэтыя летапісы і хронікі мала вядомы альбо і зусім невядомы сёння шырокім колам аматараў гісторыі і літаратуры нашага краю, студэнтам, настаўнікам, выкладчыкам і нават даследчыкам-гуманітарнікам. Прычына ў тым, што беларускія летапісы яшчэ недастаткова вывучаны, доўгі час амаль зусім не даследаваліся (апошняя значная праца аб іх надрукавана ў 1929 годзе) і не выдаваліся (публікацыя іх была зроблена апошні раз ажно ў 1907 годзе). Вось чаму не можа застацца незаўважаным выхад у свет «Хронікі Быхаўца», выдадзенай летась у Маскве ў навукова-папулярнай серыі «Помнікі сярэдневяковай гісторыі народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы».

Хроніку пераклаў з старабеларускай на рускую мову вядомы даследчык беларускай гісторыі і тэкстолаг, доктар гістарычных навук Мікола Улашчык. Ён жа напісаў грунтоўную прадмову, склаў да тэксту хронікі падрабязны каментарый, а таксама паказчыкі імён і геаграфічных назваў, і ўсё гэта зроблена з вялікай навуковай добрасумленнасцю, акуратна, з любоўю.

У прадмове да хронікі пададзена ўсебаковая характарыстыка гісторыі адкрыцця і вывучэння помніка. Праведзены дэталёвы аналіз папярэдніх выданняў «Хронікі Быхаўца» (1846 год і 1907 год) і зроблены сціслы, але глыбокі разгляд асноўных навуковых прац, прысвечаных ёй. Больш таго, Мікола Улашчык выказвае шэраг сваіх надзвычай цікавых меркаванняў пра хроніку, якія несумненна заслугоўваюць увагі.



Зусім праўдападобным трэба лічыць вывад даследчыка аб веравызнанні аўтара «Хронікі»: ён лічыць, што яе аўтарам быў праваслаўны беларус, талерантны па сваім светапоглядзе, бо рэлігійная прыналежнасць не была для яго асноўнай мерай грамадскай каштоўнасці чалавека.

Сцверджанне вучонага, што «Хроніка Быхаўца» напісана ў Навагрудку альбо Слуцку, падмацавана сур'ёзнымі і важкімі аргументамі. Прымаючы ў цэлым гэты вывад, усё ж не можна пагадзіцца з некаторымі дэталямі яго аргументацыі.

Даследчык бачыць у хроніцы жаданне яе аўтара вывесці радаслоўе вялікіх князёў літоўскіх ад навагрудскай лініі. «Храніст,— кажа ён,— ставіць Навагрудак так высока, што калі (паводле яго апавядання) князь Нарымунт перанёс сталіцу з Навагрудка ў Кернаў, г. зн. у Літву, то ён стаў тытулавацца князем Навагрудскім, Літоўскім і Жамойцкім, г. зн, тытул князя Навагрудскага быў пастаўлены вышэй князя Літвы... Зусім натуральна меркаванне, што такая версія магла быць створана толькі ў Навагрудку».

Аднак уся справа ў тым, што легендарная гісторыя Літвы, у якой апавядаецца пра князя Нарымунта, не напісана аўтарам «Хронікі Быхаўца», а цалкам запазычана ім з папярэдняга Беларускага II летапісу. Таму змест гэтай запазычанай часткі, створанай раней і іншым аўтарам, не можа служыць асновай для розных вывадаў пра час і месца ўзнікнення самой «Хронікі Быхаўца». Гэтая акалічнасць паказвае, што «Хроніку» нельга вывучаць ізалявана ад папярэдніх беларускіх летапісаў і нельга рабіць якія-небудзь сур'ёзныя навуковыя вывады без добрага ведання яе складу, без дакладнага ўстанаўлення, што ў гэтай хроніцы належыць і што не належыць яе аўтару.

Думаецца, што ёсць больш падстаў лічыць месцам узнікнення «Хронікі Быхаўца» менавіта горад Слуцк, а не Навагрудак, што няблага абгрунтавана і самім М. Улашчыкам. У дадатак варта ўказаць на яшчэ адзін важкі аргумент у карысць гэтага меркавання. Супастаўленне «Хронікі Быхаўца» з адпаведнымі мясцінамі Беларускага I летапісу па ўсіх вядомых спісах паказвае, што яе ўкладальнік карыстаўся спісам гэтага летапісу, надзвычай блізкім менавіта да Слуцкага рукапісу, а магчыма і непасрэдна ім самім. Слуцкі ж рукапіс, як вядома, належаў у XVI стагоддзі князям Слуцкім. Такім чынам, нягледзячы на асобныя недакладнасці ў сваёй аргументацыі, Мікола Улашчык у цэлым уносіць значны ўклад у вывучэнне «Хронікі Быхаўца».

9*

Вялікай працы патрабавала ад даследчыка і складанне падрабязнага каментарыя да тэксту помніка. Дастаткова прыгадаць, што хроніка вядома толькі ў адным спісе, да таго ж — адзіны яе рукапіс прапаў бясследна яшчэ ў мінулым стагоддзі. Тэкст захаваўся надзвычай дрэнна: няма ні пачатку ні канца, значныя пропускі мае хроніка і ў сярэдзіне. Справа ўскладняецца яшчэ і тым, што яе легендарная частка змяшчае нямала імён князёў, назваў, паселішчаў, апавяданняў аб падзеях, гістарычную рэальнасць якіх немагчыма пацвердзіць іншымі дакладнымі крыніцамі.

Зразумела, што пры складанні ўпершыню разгорнутага каментарыя да гэтага помніка, вучонаму нярэдка прыходзілася асвойваць цаліну. І, улічваючы навукова-папулярны характар выдання, каментарый да тэксту хронікі складзены ўвогуле добры: тлумачэнне большасці тэрмінаў, імён, назваў, асабліва геаграфічных, зроблена амаль вычарпальна. Праўда, каментарый толькі выйграў бы, калі б даследчык звяртаўся пры тлумачэнні асобных мясцін хронікі да папярэдніх беларускіх летапісаў, як першапачатковых па свайму тэксту. Да прыкладу, сярод забойцаў князя Кейстута «Хроніка Быхаўца» называе нейкага «брата Мостера», аднак ва ўсіх спісах Беларускага I летапісу чытаем: «Мостев брат». Дакладней кажучы, ранейшыя беларускія летапісы памагаюць выявіць у «Хроніцы Быхаўца» яўна памылковыя чытанні.

Некалькі слоў аб перакладзе самой хронікі. Вельмі беражліва паставіўся М. Улашчык да перадачы на рускай мове яе зместу і формы. Перакладчык амаль літаральна следаваў тэксту арыгінала, дзякуючы чаму ўсе асноўныя стылістычныя асаблівасці «Хронікі» захаваліся і ў перакладзе. Усё гэта лішні раз сведчыць аб высокай навуковай якасці выдання.

Разам з тым, асобныя мясціны перакладу ўсё ж здаюцца спрэчнымі. Так слова «прыгодылося», аднакарэннае са словамі прыгода (выпадак, здарэнне), перакладзена як «приходилось» (стар. 56) замест «случилось». Імя князя Віцені (Віцень) перададзена ў літуанізаванай, г. зн. мадэрнізаванай форме «Вітенес» нават у тых мясцінах (стар. 49), дзе яно не чытаецца так і ў арыгінале. Мэтазгодна было б таксама на месцы відочных пропускаў (стар. 40, 43, 45) уставіць у хроніку, узяўшы ў дужкі, адпаведныя часткі тэксту з Беларускага II і Галіцка-Валынскага летапісаў, як гэта зроблена перакладчыкам у самым пачатку «Хронікі».

Першае выданне «Хронікі Быхаўца» ў перакладзе на рускую мову, несу-

мненна, будзе садзейнічаць больш шырокаму ўключэнню яе ў навуковае карыстанне і адыграе станоўчую ролю для азнаямлення ўсесаюзнага чытача з гэтым выдатным помнікам старажытнай беларускай літаратуры, хоць пра шырокае азнаямленне з ёю не можа быць і гутаркі, бо хроніка выдадзена зусім мізэрным тыражом — 2 000 экземпляраў. Паколькі ж «Хроніка Быхаўца» ў перакладзе, практычна, непрыгодна для спецыялістаў філолагаў, становіцца зразумелым, што гэтае выданне не здымае неабходнасці выдаць яе нанава ў арыгінале, на старабеларускай мове.

**Вячаслаў ЧАМЯРЫЦКІ.**

# СЛОЎНІК РОДНАЙ ГАВОРКІ




**Георгі ЮРЧАНКА. ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК. Выдавецтва «Навука», 1966.**

Збіранне і вывучэнне лексічнага багацця народнай мовы — праца вельмі карпатлівая. Яна патрабуе не толькі адпаведнай навуковай падрыхтоўкі, але і настойлівасці, а галоўнае — любві да роднага слова. Пакуль што мы не можам пахваліцца вялікімі дасягненнямі ў гэтай справе: апрача двух выпускаў «Дыялектнага слоўніка» Ф. М. Янкоўскага і «Матэрыялаў для слоўніка народна-дыялектнай мовы», апублікаваных кафедрай роднай мовы мінскага педінстытута імя А. М. Горкага, іншых работ у гэтай галіне мы не назавём.

І вось на прылаўках кнігарань паявіўся «Дыялектны слоўнік» (З гаворак Мсціслаўшчыны) Г. Юрчанкі. Гэта слоўнік роднай гаворкі аўтара, слоўнік матчынай мовы. Георгі Юрчанка паставіў перад сабой пачэсную задачу — сабраць і апісаць моўнае багацце гаворак Мсціслаўскага раёна. У слоўнік трапіла толькі невялікая частка сабранага матэрыялу, усяго 2 170 слоў. Безумоўна, не ўсе яны аднолькавай вартасці, не ўсе маюць права на месца ў літаратурнай мове. Але многае з таго, што прапанаваў аўтар чытачу, заслугоўвае самай пільнай увагі.

Перш за ўсё кідаецца ў вочы багацце і разнастайнасць народнай лексікі. На Мсціслаўшчыне, як і ў іншых раёнах Беларусі, нямала слоў, якія так і просяцца ў літаратурную мову. Гэта назоўнікі: *рўпата, мóрась, налéцце, панарóўка, растарóп, патвóра, кóрмнік;* прыметнікі: *лісáвы, дасўжы, нехуцáвы;* прыслоўі: *прыскакам, разбóрчыста, нáглядкам, нáпята, спанарáву, цéперся* і шмат іншых.

Справа не ў тым, што тое ці іншае слова з якой-небудзь прычыны не трапіла ў слоўнікі літаратурнай мовы (як яно магло трапіць, калі яго не ведалі?). Справа хутчэй у тым, што пісьменнікі вельмі нясмела ўводзяць у твор слова або выраз з народнай мовы. А можа гэта ад няведання, ад нежадання слухаць жывое слова? Няўжо, скажам, дзеясловы: *выбуркнуцца, кабызіцца, пéтавацца, распасáдзіць, вычхацца, злéціцца* (пра ваду), *убўхацца* не будуць зразумелыя ў кантэксце? Варта толькі звярнуць на іх увагу, умела скарыстаць. Добры прыклад у гэтых адносінах паказаў М. Лужанін. Неяк, выступаючы на паседжанні «Клуба жывога слова» у мінскім педінстытуце імя А. М. Горкага, пісьменнік прыпомніў, што нядаўна яму давялося пачуць два мсціслаўскія словы — *пярвўсцінка* і *падурóстак.* З'явілася ў друку апавяданне «Субота», і мы ўбачылі, што аўтар увёў у яго абодва гэтыя словы. Яны там — на сваім месцы, кожнаму зразумелыя.

Многія словы могуць быць выкарыстаны ў мастацкіх творах як стылістычныя сінонімы: *дукавáць* (настаўляць, павучаць), *зашчўчыць* (злавіць, застаць), *бунтавáць* (перашкаджаць), *урóіцца* (прыйсці ў галаву) і г. д. Вобразнасць, экспрэсіўнасць, што нясуць у сабе гэтыя словы, дае ім права быць у арсенале мастацкіх сродкаў беларускай мовы.

У народнай мове вельмі дакладна абазначаецца кожная з'ява, кожны прадмет або дзеянне. Узяць хоць бы мсціслаўскія словы *хляба* — мокры снег, *хáлепа* — снег з дажджом, *мóрась* — імжа, *пўльга* — завіруха. Словаўтваральныя магчымасці народнай мовы велізарныя. Толькі адзін прыклад: *мальгвá* (малеча) — *мальгáвачка, мальгáўка, мальгáвінка.* І ў кожным слове — сваё адценне.

Народ не церпіць пустаслоўя, няўмельства, гультайства. З неадабрэннем і зняважай гавораць мсціслаўцы, напрыклад, пра балбатуноў: *балабóн, верзяя, жвянькала, ляха, лескатўн, махалéй, лапатўн, тарахцéлка, трапышка, трылюда;* пра гультаёў: *апушчэнец, атóрва, біндзюгáйла, бязўла, бязрўпатны, гламаздá* і г. д.

Аўтар слоўніка добра ведае фанетычныя і граматычныя асаблівасці мсціслаўскіх гаворак, вуха яго вельмі чуйнае да слова. Ілюстрацыйны матэрыял у слоўніку падабраны ўмела.

Ёсць у рабоце Г. Юрчанкі і асобныя недахопы. Гэта — недакладнасць у тлумачэнні некаторых слоў. Так, *абгалагáніць* ужываецца толькі ў значэнні абстрыгчы нагала, прычым, няўмела, абы-як; *атлáндзер* — хутчэй баламут, прайдзісвет, чым бестурботны, лежабок, гультай; *растарóпа* — вясенняе бездарожжа, а не разводдзе; *перашарсціць* — не абавязкова знішчыць, хутчэй — перабраць; *самапáсам* — значыць, самастойна, без нагляду. Незразумела, як козлы для распілоўкі дроў трапілі ў адзін артыкул з казлом.

Прыставачныя дзеясловы *амягнуць, азызнуць, смурыжыць* і да іх падобныя ўжываюцца часцей, чым адпаведныя дзеясловы незакончанага трывання, аднак яны не зафіксаваны слоўнікам.

Трапляюцца памылкі ў арфаграфічным запісе слоў,— часткова пад уплывам дысімілятыўнага акання: *казавóк* замест кузавок (параўн.: кузаў), *пáціпнік* (відаць, ад дзеяслова *цяпаць;* параўн.: «Пайду ныцяпыю якога паціпніку»), *прóлабка (пролыбка)* — *пролубка* — *прорубка,* дзе пад уплывам *р* прыставачнага дысімілявалася *р* карэннае (гл.: П. Я. Юргелевіч. «Нарыс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі». Мінск. 1961, стар. 78). Першапачатковае і асноўнае значэнне гэтага слова — *палонка,* дыялект. *панаўка.* Параўн.: «Хоць у пролубку галавой».

Запіс слоў *драватóнне, драватóннік* трэба лічыць памылковым. У беларускай мове, як вядома, мае месца чаргаванне складоў *ро* — *ры* і тут: *дрывóтня, дрыватóнне* (гэтак і ў гаворцы!). Замест *дзунуцца* трэба было *дзугнуцца, адкаіць* — *адхаіць, кропна* — *акропна.*

Гэтых недахопаў магло б не быць, тым больш, што рэдактар слоўніка, кандыдат філалагічных навук А. А. Крывіцкі лепш, чым хто-небудзь іншы, ведае мсціслаўскія гаворкі і іх асаблівасці.

Увогуле слоўнік Г. Юрчанкі—карыснае выданне. Аўтару будзе ўдзячны філолаг, пісьменнік, настаўнік, студэнт — кожны, каму трапіць пад руку дыялектны слоўнік Мсціслаўшчыны.

**Леанід ПАДГАЙСКІ.**



# ШТО НАГАДАЎ ФОТАЗДЫМАК

**Гэты здымак зроблены ў 1923 годзе. На ім вы бачыце сям'ю вядомага пісьменніка і гісторыка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага.**

**Сфатаграфавалася сям'я ў шчаслівы момант: Гарэцкім было дазволена выехаць з Вільні, акупіраванай у той час буржуазнай Польшчай, вярнуцца на радзіму ў Бела-**



русь. У Вільні не раз Максіма Іванавіча арыштоўвалі за тое, што ён быў адным з адказных работнікаў камуністычнай газеты «Звезда», што, выкладаючы літаратуру ў Віленскай беларускай гімназіі, расказваў праўду аб сваёй Радзіме.

Пасля вяртання ў Мінск Максім Гарэцкі займаўся навуковай работай у Інстытуце беларускай культуры, а пазней — у Акадэміі навук БССР. Разам з тым, ён не пакідаў і літаратурную творчасць у галіне прозы і драматургіі.

Жонка Максіма Гарэцкага Леаніла Чарняўская, якую вы бачыце на гэтым здымку, нарадзілася ў 1893 годзе. Яна таксама вядомая як літаратар і навуковы работнік. У 1919 годзе яна выдала ў Вільні зборнік «Дзіцячыя гімкі», а пазней у Вільні і Мінску некалькі падручнікаў для пачатковай школы. Яна часта змяшчала свае апавяданні і нарысы ў часопісе «Іскры Ільіча», якія потым выходзілі асобнымі кніжкамі. Пісала Леаніла Чарняўская і для дарослых, а таксама рабіла пераклады мастацкіх твораў з рускай, французскай, англійскай і польскай моваў. Цяпер яна жыве ў горадзе Ленінградзе.

А які ж лёс напаткаў дзяцей Гарэцкіх? Сын Лёня (сядзіць на руках у маці) і дачка Галя жылі, працавалі і вучыліся з канца трыццатых гадоў у Ленінградзе. Тут Лёня скончыў архітэктурны тэхнікум. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, малодшы лейтэнант Леанід Гарэцкі мужна абараняў Ленінград і загінуў 18 лютага 1944 года на рацэ Шалонь, каля Ноўгарада.

Галіна Гарэцкая перад вайной працавала выкладчыцай мовы і літаратуры. У вайну яна, як і брат, стала ў шэрагі абаронцаў Ленінграда, працавала на абаранільных умацаваннях. Голад і холад далі сябе знаць. Яна моцна прастудзілася і перанесла аперацыю горла. Пасля хваробы не магла вярнуцца да сваёй прафесіі і працуе цяпер у адной з ленінградскіх бальніц.

Многа чаго нагадала фотакартка, знойдзеная на Магілёўшчыне ў сваякоў Гарэцкіх...

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.**




**Выйшлі з друку ў выдавецтве «Беларусь».**




Кожнаму вядома руская песня «Когда я на почте служил ямщиком». Але, відаць, не кожны ведае, што словы яе напісаў у 1844 годзе вядомы польскі паэт-дэмакрат Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч). Верш яго быў перакладзены на рускую мову Л. Трэфалевым, шырока пайшоў у народ і, пакладзены на музыку, стаў народнай песняй.

Нарадзіўшыся на Міншчыне ў 1823 годзе, Людвік Кандратовіч пранёс праз усё сваё жыццё і творчасць шчырую любоў да Беларусі, яе людзей. Яго вершы перакладалі на беларускую мову А. Абуховіч, Я. Лучына, Я. Купала, М. Лужанін і У. Дубоўка.

Да гэтага часу пераклады вершаў У. Сыракомлі не былі сабраны ў адным выданні. Цяпер, на вялікую радасць беларускім чытачам, яны ўвайшлі ў кнігу **Уладзіслава СЫРАКОМЛІ «ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ»**, якая нядаўна ўбачыла свет. У кнізе змешчаны артыкул Сцяпана Александровіча, прысвечаны жыццю і творчасці польскага паэта.




Чалавек — гэта цэлы свет. Гэтыя словы прыгадваеш, калі знаёмішся з малюнкамі дзяцей, што змешчаны ў альбоме **«УСІМІ КОЛЕРАМІ ВЯСЁЛКІ»**, які з'явіўся нядаўна на паліцах кнігарняў. Малюнкі беларускіх дзяцей пабывалі ў Бельгіі, Італіі, Чэхаславакіі, Польшчы, Югаславіі, Індыі, ЗША, многія з іх адзначаны ўзнагародамі і дыпломамі аўтарытэтных журы. І вось яны ўсімі колерамі жыцця засвяціліся на старонках альбома.

Самым старэйшым з аўтараў малюнкаў — 12 год, самаму юнаму — Алёнцы Карагодзінай — тры гады. Цёплае, добрае слова пра творчасць юных мастакоў сказаў на пачатку альбома пісьменнік Васіль Вітка. Тэкст надрукаваны на чатырох мовах — беларускай, рускай, англійскай, нямецкай.

Альбом дзіцячых малюнкаў — добры падарунак беларускай дзетвары да 50-годдзя Вялікага Кастрычніка.





**Віталь ЛУЦЭНКА**

Фота аўтара.

# ГАНСКІЯ СШЫТКІ

Ужо некалькі дзён гартаю тры тоўстыя сшыткі, якія прывёз з Ганы. Тут некалькі соцень старонак беглых запісаў, якія я вёў штодзень больш пяці месяцаў. Шамацяць лісты, а ў памяці чарадой плывуць успаміны, нанава перажываю мінулыя падзеі, сустрэчы, якія трывожаць душу, выклікаюць раснае хваляванне сэрца.

...Калі мая маці пачула, што я еду ў Афрыку, яна заплакала, бяссільна апусціўшыся ў крэсла, і пачала прасіць, каб не ехаў.

— Ты ведаеш, — гаварыла яна, — зусім нядаўна афрыканцы з'елі аднаго французскага карэспандэнта. Ты хочаш, каб і цябе з'елі.

І дарэмнымі былі мае тлумачэнні, што працаваць я буду на суднах, што ўмовы работы ніштаватыя, што ў Гане людаедства не заўважалася. Мае словы не пераконвалі яе.

А некаторыя мае сябры глядзелі на мой намер неўразумення:

— Ну навошта табе ехаць у Гану? Там жа гарачыня, кракадзілы, муха цэцэ і іншыя напасці. Няўжо табе ў нас не хапае работы?

Я ж радаваўся, што мяне пасылаюць у старажытную Гану. А хіба можна з чым-небудзь параўнаць пачуццё, якое ахоплівае цябе пры думцы, што хутка ўбачыш новыя гарады, новых людзей, нацешышся экзотыкай, будзеш абпалены промнямі тропікаў і аглушаны трэскам цыкад, зведаеш прагу і радасць працы, што цябе будуць зноў сцябаць ураганныя вятры і штормы!



Кожнае новае падарожжа прыносіць веды, пашырае кругагляд, абнаўляе думку. Для мяне гэта — сапраўдная крыніца радасці.

**У ГОРАДЗЕ КАРАБЕЛАЎ.** Як заўсёды, ад'езд быў нечаканы, зборы хуткія. Мы павінны тэрмінова з'явіцца на завод, каб атрымаць новае судна, якое толькі што сышло са стапеляў.

На другія суткі ў тры гадзіны ночы мы прыбылі ў Нікалаеў. Ні ў адной



**«Аджыасі Манка» на рэйдзе.**

гасцініцы месц не было, і нас пасялілі ў філіяле ўпраўлення «Мортрансфлоту». Спалі на чыста вымытай падлозе, цесна прытуліўшыся адзін да аднаго. Ноччу хтосьці адбіваўся ад гарачых абдымкаў і пацалункаў суседа, нехта лаяўся за тое, што яму наступілі на вуха, хтосьці соладка прычмокваў вуснамі, нехта моцна хроп...

Раніцай паехалі на суднабудаўнічы завод. Судна сустрэла нас гоманам людскіх галасоў, свістам пнеўматычных свердзелаў, пахам свежай фарбы. Праз некалькі дзён вытворчы рэфрыжэратар № 46 «Аджыасі Манка» выйдзе на дзяржаўныя ходавыя выпрабаванні, дзе будуць правяраць усё яго абсталяванне і машыны, дзе ён будзе здаваць свой самы сур'ёзны экзамен.

Пасля змены мы з матросам Ванем Сядухавым ходзім па музеях, парках і вуліцах горада карабелаў, знаёмімся з ім і яго гісторыяй. Днём нараджэння Нікалаева лічыцца 27 жніўня 1789 года. У 1790 годзе на Нікалаеўскай верфі быў пабудаваны першы 44-гарматны фрэгат «Святы Нікалай». З таго часу Нікалаеўскія верфі славяцца сваімі караблямі. Да 60-х гадоў XIX стагоддзя ўсё жыццё горада толькі і было звязана з будаўніцтвам флоту. Рускія караблі, пабудаваныя тут, мелі пад той час выдатныя баявыя якасці. Чарнаморская эскадра, якая пад камандаваннем адмірала Нахімава разграміла 18 лістапада 1853 года турэцкі флот у Сінопскай бухце, поўнасцю складалася з караблёў, пабудаваных Нікалаеўскім адміралцействам.

Ацэньваючы велізарнае стратэгічнае значэнне Нікалаева для Расіі, Карл Маркс пісаў пасля заканчэння Крымскай вайны: «Расія трымае ў Нікалаеве напагатове 200 караблёў для адпраўкі войск у Турцыю».

У 1873 годзе ў Нікалаеве быў спушчаны на ваду першы браняносец, а ў 1900 годзе адбыўся спуск легендарнага браняносца «Пацёмкін», экіпаж якога таксама камплектаваўся ў Нікалаеве.

Тут, па вуліцы Адміральскай, 4, стаіць аднапавярховы дом з калонамі, у якім з 1796 па 1856 год знаходзіўся штаб Чарнаморскага ваеннага флоту. У штабе працавалі праслаўленыя рускія флатаводцы Ф. Ушакоў, М. Лазараў, У. Карнілаў, А. Грэйч, М. Аркас.

Па вуліцы Малая Марская, 6, у маленькім доміку нарадзіўся выдатны дзеяч марскога флоту адмірал С. Макараў. Тут жыў да 1821 года У. Даль. Вуліцы Нікалаева бачылі М. Рымскага-Корсакава, М. Мусаргскага, Ф. Шаляпіна, Г. Пятроўскага, саратнікаў Леніна Арцёма і Фрунзе, не раз наведваўся ў Нікалаеў А. Пушкін, былі тут і В. Бялінскі і Л. Талстой.

Цяпер Нікалаеў расце, будуецца, прыгажэе з кожным днём. Мы бачылі план генеральнай забудовы горада. Большасць вуліц будзе пабудавана нанава.

**НАСУСТРАЧ ШТОРМУ.** Хутка здымаем мерную агароджу, вымаем стойкі з гнёздаў і завальваем на месца парадны трап.

Прадстаўнікі партовых улад і пагранічнікі, якія праверылі судна, пажадалі нам спадарожнага ветру і далі «дабро» на выхад у мора. Пранізліва грымяць па ўсім судне доўгія трывожныя званкі з кароткімі паўзамі. Аўрал! Бягуць матросы і штурманы да месцаў швартовых раскладаў.

— Аддаць усе швартовы! Якар віра!— раздаецца па спікеру каманда з ходавага мосціка.

Хутка выбіраем канцы—апошнія ніткі, што звязваюць нас з берагам.

Гудуць развітальныя гудкі нашага рэфрыжэратара. Выйшлі ў Чорнае мора. І адразу ж ударыў у твар свежы вецер, судна пачало адбіваць на гарбатых хвалях дзіўны танец.

— Да ўвагі ўсяго экіпажу!—раздаецца па спікеру.—Атрымана штармавое папярэджанне. Замацаваць усё па-паходнаму!

З кожнай мінутай мацнее вецер, вышэюць хвалі, павялічваецца гайданка. Працаваць і нават знаходзіцца на палубе ўсё цяжэй: яна нагадвае цяпер гіганцкія арэлі, якія вырываюцца з-пад ног. На палубе і ў ходавой рубцы цёмна. Толькі гараць зялёныя агеньчыкі прыбораў ды ходавыя агні: злева па борце—чырвоны, справа—зялёны, на мачтах і карме—белыя.

На другі дзень надвор'е не палепшылася. Штармуе. Вецер, шалеючы, ірве пену з крутых вадзяных валоў, шкуматае парусіну чахлоў. То рэзкім свістам флейт, то пяшчотнымі гукамі арф спяваюць снасці пад яго напорам...

Мора злосна плюе ў ілюмінатары пенай і пырскамі. Судна кідае з боку ў бок, бязлітасна пляскаюць па яго скулах аплявухі хваляў. Наш рэфрыжэратар, нібы неаб'езджаны конь, то рэзка становіцца на дыбкі, узнімаючыся пад самыя хмары, то з усяго маху бясстрашна ўразаецца носам у бурлівыя валы.

У часе сняданку сталы паслалі мокрымі прасцінамі, каб не слізгалі міскі і кубкі. І ўсё ж посуд трэба прытрымліваць рукамі, бо бывае, што міскі падлятаюць да столі і потым са звонам разлятаюцца на падлозе. У штармавыя дні кок гатуе ў два разы менш ежы, бо многія нават бывалыя маракі пакутуюць ад марской хваробы, і ім не да яды.

...У гэты дзень сабралася ў салоне суднавая рэдкалегія. Да новага года засталося пяць дзён, і за гэты час павінны паявіцца новая насценная і фотагазета. Ніякіх скідак на шторм няма і не будзе. Мне з матросам Ясінавым трэба зрабіць фотагазету і сабраць допісы. Другі памочнік капітана Толя Панцеляймонаў і матрос Коля Ігнацьеў аформяць яе. Мастакам крыху прасцей, чым нам, фатографам. У іх фарбы, алоўкі хоць і бегаюць па стале і па палубе, але іх усё ж можна злавіць. А паспрабуйце злавіць хімікаты, якія выплюхнуліся з ванначак!

Вы прабавалі калі-небудзь рабіць фатаграфіі ў шторм? Вось рэзка падскочыў уверх павелічальнік і, прызямліўшыся на стале, забрынчаў. Ванначкі шлёпнуліся ўслед за ім, абдаючы ўсё навокал пырскамі. Толькі паставіў усё на месца, працёр ліхтар, стол, павелічальнік і паспеў нават аддрукаваць пару кадраў, як нечаканы рывок судна нібыта катапультай зноў кідае на палубу адну з ванначак. Нагінаешся падняць яе, а зверху на цябе валіцца павелічальнік і перакульваецца другая ванначка...

Непрыемная вільгаць раз'ядае цела, і, кінуўшы ўсё, бяжыш у душавую. Але вось ты прыняў душ, астыў, пераапрануў вопратку, прыходзіш у каюту і ахаеш. На падлозе ў каламутнай жыжы з кутка ў куток качаюцца разбіты ліхтар, забруджаны павелічальнік, пачкі фотапаперы. І якраз у гэты час у каюту заглядвае нампаліт.

— Ну як, зрабіў здымкі?—пытае ён.

— Зробіш тут! Во, паглядзіце...— паказваю на пагром.

Ён заходзіць у каюту і, паслізнуўшыся на мокрай падлозе, падае, збіваючы мяне з ног. Ён жартуе, падняўшыся, збірае параскіданыя рэчы. А мне не да смеху. Змяніўшы яшчэ адны штаны, пачынаю памагаць яму. Навялі парадак у каюце, уставілі запаснае шкло ў электрычны ліхтар і працёрлі павелічальнік.



— Ну што, пачнем?—пытаецца ён.

Нікуды не дзенешся, фотагазета на Новы год павінна вісець у салоне. Я наліваю ў ванначкі растворы хімікатаў, і ўсё пачынаецца спачатку...

У гэты час у пакоі медпункта ідзе рэпетыцыя мастацкай самадзейнасці. Суднавы ўрач Бора Фірсаў і матрос Валя Кільмановіч спяваюць песні. Ім падпяваюць і акампануюць: на мандаліне—машыніст Тофік Мамедаў, а на гітарах—матарыст Саша Вінтаненка і Ваня Філіпенка. Я таксама ўдзельнік самадзейнасці. Буду спяваць у секстэце і весці праграму канцэрта, але мяне некалькі дзён не чапаюць—я валаводжуся з фотапрыладамі.

Толя Панцеляймонаў, адстаяўшы



**Міжземнае мора штарміць.**

вахту на хадавым мосціку, бярэцца за афармленне насценнай газеты. Чарнавалосы, рослы хлопец з вуглаватымі рысамі твару, ён рэдка ўсміхаецца, яго твар заўсёды выдае заклапочанасць і нейкі смутак. Ён вельмі строгі і патрабавальны да сябе. Штодзень займаецца, рыхтуецца да паступлення ў інстытут. Хоць з выгляду Толя няветлівы і хмуры, на самай справе ён чулы і спагадлівы таварыш і добры сябар. Хлопцы цягнуцца да яго. Ён выдатны штурман. Добра размаўляе па-англійску. Толя ўжо другі раз ідзе экспертам у Гану. Першы раз ён прабыў там дзесяць месяцаў і ўспамінае пра гэта, як пра свае самыя светлыя дні. Яшчэ з трэцяга курса мастацкага вучылішча Толя ўцёк у мора і з таго часу не расстаецца з ім. За час плавання ён пабываў у 23 краінах свету, наведаў 56 замежных портаў.

Выбіраючы зручныя моманты, ён наносіць удалыя штрыхі на паперу. Працуе хутка, упэўнена. Літаральна на вачах узнікае задуманае.

— А няблага...—кідае задаволены нампаліт, гледзячы на яго работу.

Толя не рэагуе на заўвагі. Ён заняты толькі справай і часам спыняецца, каб злавіць зляцеўшы са стала аловак ці гумку.

У сталовай, нягледзячы на шторм, ідзе звычайная марская «траўля». І аб чым толькі там не гавораць! Шторм—не перашкода для аматараў паразмаўляць.

**БАСФОР, ДАРДАНЕЛЫ...** Некалькі разоў за ноч я падымаўся з ложка і выходзіў на палубу, ці не паявяцца агеньчыкі Басфора, да якога, па нашых разліках, мы павінны падысці ўжо. Але ні агнёў, ні маякоў не відаць. Ноччу мора чорнае, як смутак.

Неба ўсыпана зоркамі. Яны ззяюць на сінім трохкутніку касога ветразя ночы. Выразна відаць усе сузор'і. Яны нізка, над самай галавой. Здаецца, працягні руку і рві тыя зоркі, як спелыя вішні. Вастраносы месяц зусім не свеціць...

Толькі пасля снедання мы ўбачылі з левага борта ў смузе лёгкага туману берагі, якія ўзнімаліся ўсё вышэй і больш крута. Набліжаемся да праходу паміж даволі крутымі скаламі. На іх схілах і вяршынях — жоралы батарэй замаскаваных і зусім адкрытых гармат, антэны лакатараў і радыёстанцый, старажытныя валы і крэпасныя вежы. Гэта адно з самых вузкіх месц праліва Басфор, уваход у яго.

З двух бакоў нешырокую паласу сціскаюць узгоркі, на схілах якіх у буйнай зеляніне патанаюць прыгожыя белыя домікі і велізарныя сучасныя дамы, мноства беласнежных мінарэтаў. Яны нацэлены ўвышыню, як ракеты. Невялікі паварот Басфора, і Стамбул адкрываецца нашаму позірку ва ўсёй сваёй прыгажосці. Мноства велічных мячэцяў, якія раскіданы ў кожным квадратным кіламетры горада, надаючы яго абліччу сапраўды ўсходні каларыт. Тэрасамі з узгоркаў збягаюць да вады дамы—ад старажытных да сучасных шыкоўных вышынных будынкаў. І ўсюды—на дамах, платах, на суднах, аўтобусах—рэкламныя шчыты.

Як толькі наш дызель-электраход увайшоў у праліў, да нас падышлі катэры з уладамі і лоцманамі. Мы павінны заплаціць 400 лір за праход па тэрыторыі Турцыі. Пошліну мы заплацілі, а ад лоцмана, паслугі якога каштуюць даражэй за пошліну, наш капітан адмовіўся, бо ён выдатна ведае фарватэр Басфора і многа разоў праводзіў тут розныя судны.

Судна шпарка ідзе па праліву. А побач з яго бартом у промнях узыходзячага сонца снуюць лодкі, катэры, караблі. Мы, прыапускаючы флаг, вітаем савецкія судны, якія праходзяць адно за адным.

Да самага Дакара мы павінны суправаджаць сярэднія чарнаморскія сейнеры—СЧС, якія Савецкі Саюз прадаў Гане. Цераз некалькі соцень міль мы павінны папоўніць ім запасы вады і паліва. Шторм здорава пашкуматаў іх у Чорным моры. Наш радыст Саша Канаўцаў з цяжкасцю наладжваў з імі сувязь. Чорнае мора было для сейнераў вялікім выпрабаваннем. Хвалі поўнасцю накрывалі іх, але непакорныя судны напорыста прасоўваліся наперад.

К вечару выйшлі ў Мармуровае мора. Яно ціхае, цёплае, ласкавае. Люстраная паверхня вады чымсьці нагадвае добра адпаліраваны мармур, мажліва, праз гэта яно і атрымала сваю назву.

У нас здарылася няшчасце: захварэў машыніст, патрэбна хірургічнае ўмяшанне. Запрасілі Стамбул. Ён адказаў «дабром» на нашу просьбу. Развярнуліся на 180° і пайшлі да ззяючага агнямі начнога горада. Недалёка ад яго сустрэлі нашы сейнеры. Доктара і хворага перасадзілі на адзін з іх, і ён даставіў усіх у порт, дзе ўжо чакала карэта хуткай дапамогі і прадстаўнік савецкага пасольства. Турэцкія спецыялісты пацвердзілі меркаванне нашага ўрача Барыса Фірсава: патрэбна аперацыя.

Днём увайшлі ў праліў Дарданелы. Справа і злева цягнецца голая гарыстая мясцовасць. Берагі плаўна апускаюцца да вады. Белыя домікі маленькіх вёсак выбягаюць да прыбою або ўзбіраюцца да самых вяршалін гор. Крывыя латкі палёў раскіданы па схілах як папала...

Пры выхадзе з праліва нас сустрэў рэзкі, моцны вецер. Судна наша пачало гайдаць з боку ў бок, з кармы на нос. Хвалі хрыпяць, фыркаюць побач з бартом, як наравістыя коні. Сустрэўшы належны адпор, яны крыху адступаюць, але з якой лютасцю абрушваюць сваю дзікую сілу на малых сейнераў. Прабыўшы трохі на грэбені, тыя правальваюцца ўсім корпусам у вялізную вадзяную яму, і над морам тырчаць толькі хадавая рубка і мачты. Я не магу ўявіць, як сябе адчуваюць на іх людзі? На сейнеры каманда—адзінаццаць чалавек. Вось дзе сапраўдная мужнасць, смеласць і вытрымка!..

Барометр працягвае падаць. Шквальны вецер нібы падаграе мора, і яно пачынае кіпець і ўзнімацца, як малако на газавай пліце. Сівое неба, сівыя хмары, сівое мора—усё зліваецца ў адно. Грукоча, бурліць стыхія. Асіплы вецер дзіка скуголіць у снасцях, храпе ў трубах...

...І ўсё ж, нягледзячы на шторм, Новы год мы будзем сустракаць, як і ўсе людзі на зямлі. З вялізнага халадзільніка—правізійнай камеры дасталі сапраўдныя зялёныя ёлкі, якія яшчэ не так даўно красаваліся на лясных палянах. Адну ўстанавілі ў каюткампаніі, другую—у салоне. Усе матросы, вольныя ад вахты, з радасцю прыбіраюць ёлкі. Тут—матарыст Юра, самы малады з каманды, і старшы электрамеханік Аляксандр Дзмітравіч, самы старэйшы з членаў экіпажа...

У медпункце ідзе генеральная рэпетыцыя мастацкай самадзейнасці. А на камбузе—генеральная падрыхтоўка да вячэры. Ва ўсіх каютах голяцца, прасуюць, прыбіраюць...

**НАВАГОДНЯЯ ЎРАЧЫСТАСЦЬ.** У салоне пачалі збірацца вольныя ад вахты маракі. Адна група стоўпілася ля насценнай газеты, другая—ля фотагазеты, трэцяя—ля ёлкі. Пачалі ўспамінаць, як весела праводзілі Новы год у сям'і, сярод сяброў. Але кожны марак амаль усе святы сустракае ў моры.

Канцэрт пачалі роўна а 22 гадзіне па маскоўскаму часу. Адкрылі яго песняй «Пяць мінут» з кінафільма «Карнавальная ноч». Я, як вядучы, прадстаўляю ўдзельнікаў канцэрта.

Выдатна выступіла з сольнымі нумарамі інструментальнае трыо, у якім асабліва задушэўна і пяшчотна іграў на мандаліне Тофік Мамедаў. У яго сёння дзень нараджэння, і хлопцы па рускаму звычаю нацягалі яго за вушы.

Старшы памочнік капітана Голубеў зачытаў віншавальныя тэлеграмы ў адрас нашага судна ад начальніка, сакратара парткома, старшыні мясцкома нашага ўпраўлення і «Суднаімпарта», ад райкома і абкома партыі Калінінграда, ад суднаў, на якіх працуюць маракі нашага ўпраўлення. Ён тут жа раздаў маракам радыёграмы ад іх сваякоў і блізкіх.

Хоць і не вельмі моцна, але мора штармуе. Ад штуршкоў хваль пазвоньваюць цацкі на ёлках, брынчыць і звініць посуд на сталах. Сервіроўцы нашай пазайздросцілі б лепшыя рэстараны. На сталах красаваліся каньякі ўсіх сузор'яў, віны, шампанскае. Апетытна выглядалі салаты мясныя, грыбныя, агароднінныя, з крабамі і рыбай; рыба смажаная, вэнджаная, салёная, вяленая; ікра чорная, чырвоная. А гарачыя закускі!.. Повары Леанід Мацвеевіч Канавалаў і Іван Сцяпанавіч Шаўчук цэлыя суткі рыхтаваліся да гэтага вечара.

Усе расселіся. Зайшоў Дзед Мароз, павіншаваў з Новым годам, вываліў са свайго мяшка навагоднія падарункі. Капітан Гладзілін сказаў навагодні тост. Выпілі, закусілі. У гэты час прыйшлі з вахты людзі. Па іх просьбе зноў у скарочаным выглядзе паўтарылі канцэрт. Асаблівы поспех выпаў на долю шэф-повара Канавалава за цудоўнае выкананне гумарыстычнай сцэнкі. Ён завязаў хустку і, як бабулька, расказаў, як у глухую вёску



Любяць маракі слухаць цікавыя гісторыі.



ўпершыню прывезлі кіно. Міміка Леаніда Мацвеевіча была настолькі выразная і камічная, што ўсе клаліся ад смеху...

У тры гадзіны ночы ўдарыў новы шквал. Як туга нацягнуты вялікі барабан армейскага аркестра, гуло судна ад udараў гмахаў-хваль. Талеркі і бакалы паляцелі са стала. Давялося ўсё хутка прыбраць, але весяліліся да самага світання.

**УЦЁКІ АД ДАПАМОГІ.** У восем раніцы зачырванелася зара. Але фарбы хутка пабляклі, і вялізны вогненны шар, як калабок, выкаціўся з-за гарызонта. Ідзём уздоўж берагу. Дзівосныя крутыя горы Іспаніі...

Вечарам, калі заходзіць сонца, сінявату снег у аправе блакітнай заслоны неба на вяршынях гор пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі, як дыямент.

Неба—зорны шацёр. Коўш Вялікай Мядзведзіцы зачапіўся за снежныя горы. Нязвыкла для нас размешчаны і іншыя сузор'і і зоркі. Тут яны надзвычай буйныя і яркія. Месяц свеціць так ярка, што можна чытаць на палубе. Мора цёмна-фіялетавае, як чарніла ў бутэльцы.

Да Гібралтара засталося менш сутак ходу. Барометр пачаў рэзка падаць. Позна ўвечары ў Міжземным моры сабраліся ўсе чэрці свету і так пачалі куляцца і сваволіць, што аж зоркі пагаслі на небасхіле і ў бездань праваліўся месяц. Вецер завыў. У страшэнным прыпадку забілася мора. Наш дызель-электраход пачаў тыркацца носам то ў адну, то ў другую хвалю і трэсціся. З паліц, са стала валяцца ўсе рэчы. З ложкаў выкідваюцца людзі.

І раптам нечакана сярод гэтага хаосу грыміць грамавы голас па суднавай радыётрансляцыі:

— Урачу Фірсаву падняцца на мосцік. Матросу Луцэнку тэрмінова зайсці ў медпункт. Палубнай камандзе хутка падрыхтаваць да спуску на ваду матабот!..

Людзі забегалі па палубах. Усе пыталіся адзін у аднаго, што здарылася. Але ніхто не мог адказаць. Апранаючыся на хаду, балансуючы па палубе, я выскачыў па крутым трапе ў цемрыва ночы. Мяне адразу ж абдало хваляй з ног да галавы. Хапаючыся на палубе, за што можна ўхапіцца, прыбег у медпункт.

— Чаму так доўга?—сустрэў мяне папрокам бледны Барыс.

— Што здарылася?—у сваю чаргу запытаў я.

— Нейкае судна, што ідзе побач з намі, запрасіла медыцынскай дапамогі, але не сказала, што здарылася. Збяры ў чамаданчык усё неабходнае для аказання першай дапамогі. Я пабягу ў рубку.

Мы з Борам сябрамі сталі, магчыма, таму, што ў яго не было хворых, і я ў першы час даваў яму такую-сякую практыку. Старшы памочнік пасля гэтага афіцыйна прызначыў мяне санітарам. Многаму Барыс мяне яшчэ не паспеў навучыць, але што трэба ўзяць у чамаданчык па трывозе, я ўжо ведаў. Надзейна прымацаваўшы чамаданчык, каб яго не кінула на падлогу, пачаў класці ў яго ўсё, што спатрэбіцца.

«А калі ў хворага апендыцыт ці якая-небудзь траўма?»—падумалася мне.

На ўсякі выпадак пачаў рыхтаваць скальпелі, зацiскі, іголкі для зашывання ран, шаўковыя ніткі, шпрыцы, навакаін, спірт і іншыя медыкаменты і інструменты.

Прыбег задыханы і мокры Барыс.

— Хутчэй! Магчыма, апендыцыт!.. Ён нерваваўся, не ведаючы, які сюрпрыз чакае яго на чужым судне. У падобнай сітуацыі яму не даводзілася бываць. Але гэта яшчэ паўбяды. А вось як пераправіцца на той карабель, калі такі шторм навокал?

Матабот ужо гатовы да спуску. Прыхапіўшы чамаданчык, падушку з кіслародам і апрануўшы выратавальныя камізэлькі, мы ныраем у цемру. З цяжкасцю забіраемся ў матабот, прышпільваем сябе рамянямі да банкі (лаўкі), як у самалёце. Бот разам з суднам то імкліва ляціць уніз, то снарадам узлятае ўверх. Наш электраход ужо развярнуўся і на самай вялікай хуткасці ідзе да незнаёмага судна. Адлегласць паміж намі скарачаецца. Бот гатовы да спуску, штурман удакладніў курс, старшы матарыст запусціў для пробы рухавік. Наш рэфрыжэратар разварочваецца бортам да хвалі, каб даць магчымасць спусціць матабот, прыкрыўшы яго ад хваляў.

Але дзіўная рэч: як толькі на судне з пацярпеўшым даведаліся, што ідзе на дапамогу карабель з савецкім экіпажам і савецкім урачом, яно пачало ад нас уцякаць. Яго радыст, які толькі што прасіў дапамогі, у адказ на нашы запытанні маўчаў. Яркія агні велізарнага судна хутка пачалі аддаляцца.

Чыё гэта судна і што за людзі на ім? Чаму яны так зрабілі? Штурманы гавораць, што, мяркуючы па контурах корпуса, гэта іспанскі карабель. Эмблемы на трубе і назвы не было відаць. Такіх суднаў многа ў іспанскіх фірмаў. У іх рэдка бывае ўрач нават на вялікіх суднах, бо яму трэба плаціць з заработку экіпажа. Цяжка сказаць, што адбылося на гэтым незнаёмым судне, але ніхто з нас ужо не заснуў у тую ноч.





**КРЫЛАТЫЯ ВАНДРОЎНІКІ.** Цемра вакол. Зоркі свецяць, як з глыбокага падзямелля. Чорны, як смала, акіян кругом. Толькі гарыць зялёным і блакітным агнём пеністая вада ля бартоў, ля фарштэўня, шырокай ракой разліваецца за кармой. Акіян, як крэмень, з якога карабель-крэсіва высякае мільярды іскрынак, зорак, сузор'яў. Яны загадкавыя і недасягальныя, як дарагія камені; яны зачароўваюць, вабяць да сябе, як магніты. Хочацца прыцягнуць і пагладзіць гэтыя жывыя, трапяткія каменьчыкі. Гадзінамі можнаназіраць за гэтай цікавай з'явай. І якія толькі фантазіі не авалодваюць табою! Думаеш, што не дарма выдуманы казкі, добрыя і злыя чараўнікі, гномы, калі глядзіш на вогненны хвост вады за кармой. Мы запальваем мора, а кажуць, што яго нельга запаліць!..

Яшчэ ўчора было халаднавата спаць пад шарсцянымі коўдрамі, а сёння горача і пад прасцінай. Ідзём да экватара. Ідзём хутка, як па добра наезджанай дарозе.

Сёння, як і ўсе наступныя дні, нас суправаджае ганаровы эскорт Нептуна—цэлы статак вялікіх дэльфінаў. Спачатку яны чынна ішлі ў шарэнгах абапал бартоў, потым, як па камандзе, перастроіліся ў калоны. Калі ўрачыстая цырымонія была закончана, яны наладзілі нам канцэрт. Усе захапляемся іх віртуозным майстэрствам. Такіх скачкоў і разваротаў ці даб'ецца хоць адна жывая істота, калькі б яе не трэніравалі. Гэта сапраўдныя «цыркачы».

Увага ўсяго экіпажа цяпер звернута да нашага новага госця. Некалькі дзён на судне жыве вялізны сівы прыгажун-голуб. У яго на абедзвюх лапках кольцы. Значыць, не простая птушка, і яе мы абавязаны ахоўваць і вылечыць. Сеў ён на борт вельмі стомлены. Крылы распасцерліся, і ў яго няма сілы, каб іх падабраць. Галава апусцілася, пабляклі прыгожыя пацеркі-вочы. Здавалася, што ён памірае. Калі да яго падышлі людзі, ён нават не паварухнуўся. Яго ўзялі ў рукі, і ён, здрыгануўшыся, сціснуўся. Ён зусім выбіўся з сіл і, напэўна, гатовы быў на ўсё. Яго сэрца ліхаманкава білася. Голуб супакоіўся адразу, як толькі адчуў цяпло і ласку. Сам ён піць не мог, хаця і паміраў ад смагі. Яго паіў чалавек са свайго рота.

Куды ён ляцеў, гэты неўгамонны, смелы падарожнік? Што прымусіла яго адправіцца ў далёкую дарогу праз акіян, без харчу і вады?

Вада зрабіла сваё. Праз некаторы час голуб злёгку паварушыўся і надоўга заціх. Усёй камандай даглядалі яго, радаваліся яго папраўцы. Ён пачаў ужо хадзіць, цягнучы крылы па палубе. Потым пачаў прабаваць сілы, пералятаючы з адной надбудовы на другую, з носа на карму. Напэўна, ён рыхтуе сябе да далёкай дарогі, трэніруецца штодзённа.

Як радуюцца людзі ў моры кожнай жывой істоце, тым больш птушкам! Зусім нядаўна Бора важдаўся з марской ластаўкай. Калі яна ачуняла, ён адпусціў яе на волю. І вось новы кліент...

Дзіўныя тут усходы і заходы сонца. А днём любуешся касякамі рыбы, на якую палююць дэльфіны, альбатросы. Каля борта вада бурліць, як у катле. Вось узлятае ў паветра тлусты тунец, шлёпаецца аб ваду, а за ім другі, трэці... Альбатросы, гэтыя горддыя, дужыя птушкі, палююць удосталь. Яны набіраюць вышыню і падаюць у ваду—у гэты момант яны як наканечнік стралы. Жывыя наканечнікі ўваходзяць у ваду непрыкметна, без усплёску. Яны апускаюцца на глыбіню двух-трох метраў, а ў вадзе знізу хапаюць здабычу. Альбатросы бываюць рознай афарбоўкі, рознай велічыні і пароды. У некаторых размах крылаў дасягае чатырох метраў. Такія не садзяцца на ваду, бо не змогуць узляцець з яе і памруць з голаду.

Цяпер каля судна пралятаюць альбатросы, размах крылаў якіх не

больш за метр. Гэта светла-карычневыя птушкі, «адзенне» іх даволі паношанае і выглядае надта непрывабна. Іншая справа — беласнежныя прыгажуны, ад якіх цяжка адарваць позірк. Прыгожа, горда лятаюць яны, то рэзка ўзнімаючыся ўгару, то кранаючыся крылом хвалі. Ім не страшны ні буры, ні штормы. Яны ніколі не жабруюць, лётаючы каля суднаў, і ніколі не б'юцца з-за кавалка пажывы, як сварлівыя, прагныя чайкі, ніколі не лятаюць чародамі — яны гордыя. Але яны — мілыя і добрыя спадарожнікі, адважныя, сумленныя бадзягі-паляўнічыя.

**ПЕРШЫЯ СУСТРЭЧЫ З ГАНЦАМІ.** За кармой акіян ціха спявае курну, як рахманы шэры дакот. Падыходзім да Дакара. У гэтых шыротах рэдка бываюць штормы. Вада навокал судна — застылае зялёнае шкло.

З левага борта паказалася палоска зямлі. Яна, нібы гіганцкая марская змяя, віецца паміж гарызонтам і небам. На галаве змяі карона — белакаменны шматпавярховы будынак; на тулаве і хвасце раскіданы будынкі. Нават і без бінокля добра відаць сучасныя добраўпарадкаваныя дамы. Гэта Дакар — сталіца Сенегала. Праходзім міма яго.



Ганскія маракі.

А семнаццатай гадзіне падышлі да месца промыслу. Аддалі якары. Глыбіня 24 метры. І гэта ў акіяне! Праводзім бункяроўку сейнераў. Яны бяруць у нас паліва і ваду. Заўтра СЧС пойдуць на Гану, да якой яшчэ ісці восем-дзевяць сутак.

На банцы сабраліся дзесяткі розных рыбалавецкіх суднаў. Гэта цэлы плывучы горад. Побач з намі вялікая плыўбаза «Савецкая Латвія». Без канца да нашага трапа падыходзяць шлюпкі і матаботы з розных суднаў. Ідзе абмен кінафільмамі, сувенірамі, прадуктамі харчавання.

Тут мы будзем некаторы час прымаць грузы ў СРТ (сярэдніх рыбалоўных траўлераў), СРТМ (сярэдніх рыбалоўных маразільных траўлераў), а з сярэдніх сейнераў свежую рыбу для замарозкі на сваім судне. У нас усё гатова для прыёму прадукцыі і свежай рыбы.

Перад абедам да нашага левага борта швартаваўся СРТМ. Я быў у каюце. Моцны шум і гаворка на незразумелай мове прымусілі мяне выглянуць у ілюмінатар. Што робіцца на карме! Чалавек пятнаццаць амаль голых цёмнаскурых людзей — стройныя, мускулістыя... Яны гаварылі на нейкай сваёй мове, выбіраючы швартовыя канцы. Нашы матросы тую ж работу выконваюць удваіх-утраіх. Я ўпершыню бачу неграў за работай. Працуюць яны добра. Але колькі шуму! Гэта ганскія рыбакі! Яны ўсміхаліся нам, ветліва махалі рукамі, з захапленнем глядзелі на вялізнае судна, на трубе якога была такая ж эмблема, як і ў іх.

Я заўважыў, што большасць ганцаў трымае нешта ў роце. Спачатку падумаў — цыгарэты, але, падышоўшы бліжэй, убачыў, што гэта сухія кавалачкі цукровага трыснягу. Відаць, у іх няма чаго курыць? Так і ёсць. Вось адзін з іх сказаў:

— Таварышы, дайце закурыць, паміраем без курыва!

Пачкі рускіх і замежных цыгарэт паляцелі на палубу. Ганцы з прагнасцю зацягваюцца водарным дымком.

— Дзякуй! Дзякуй! Добрыя цыгарэты, але мо-о-о-цныя!

Наш повар Іван Сцяпанавіч выйшаў на палубу падыхаць свежым паветрам, паглядзець на швартоўку ганскага судна.

— Ваня! Ваня! Тата! Добры дзень! — пачулася адначасова некалькі галасоў.

— Добры дзень, Джон! Дзень добры, Лісон! Як вы сюды трапілі? Вы ж на другім судне былі? — здзіўлена пытае наш повар.

— Час, баця, ідзе — усё мяняецца, — гаворыць Лісон Акран: — Расказвай, як твае справы, як жонка, дзеці?

Іван Сцяпанавіч ужо быў у Гане. У яго там засталося шмат сяброў. Ды і як можна забыць рухавага, вясёлага повара, які любіць жарты і смех, любіць людзей — чорных, белых, жоўтых. Для яго ўсе аднолькавыя, абы ў іх былі добрыя сэрцы. Яму ўжо ідзе шосты дзесятак, вось і называюць яго «бацькам». Матрос Джон Назаў і механік Лісон Акран добра разумеюць і гаворадь па-руску. Іван Сцяпанавіч расказвае ім, як ён гуляў, калі адпачываў на радзіме, як некаторыя маладзіцы прызнаваліся яму ў каханні, якая прырода і сады на яго дарагой сэрцу Украіне.

Акран перапытвае Івана Сцяпанавіча незразумелыя ўкраінскія словы, смяецца. Ён вучыўся ў Адэсе ў мараходным вучылішчы. Там і навучыўся чытаць, пісаць і размаўляць па-руску. Ён вывучыўся на матарыста, цяпер — трэці механік і лічыцца добрым ганскім спецыялістам. У ганцаў сваіх спецыялістаў амаль няма. Многа ганскай моладзі вучыцца цяпер у Савецкім Саюзе, Англіі, Германіі, Японіі.

А кім Лісон Акран быў раней? Бедным рыбаком, які штодзень выходзіў у мора на трухлявых лодках разам са сваімі таварышамі.

— Цяпер які ў нас флот! Паглядзіце! — з гордасцю гаворыць Лісон. — І ўсё гэта ваша краіна і вы нам памаглі.

Вочы Лісона ўсміхаюцца ўвесь час. Ён сімпатычны хлопец. Высокі, шырокі ў плячах. Ён курыць папяросу і гаворыць, гаворыць. Рады, што сустрэў сябра, шчырага, добрага. Іван Сцяпанавіч таксама ўсхваляваны сустрэчай са старымі сябрамі.

...Мы прымаем рыбу з «Канкерама», які стаяў ля левага борта. У труме разам з ганцамі працавалі і мы з Ванем Мядзвецкім. Праз горла трума падаюць строп за стропам скрынкі з рыбай. Мы разбіраем іх, кладзём на транспарцёры, укладваем у рады клеткамі, здымаючы са стужак транспарцёраў, паказваем гэту работу ганцам. Калі няправільна ўкласці скрынкі, дык у шторм іх раскідае па ўсім труме. Атрымаецца вінегрэт з розных гатункаў рыбы і кардону.

Гудуць транспарцёры, ляскаюць, кладучыся на месца, скрынкі. Валіць пара ад людзей, асядае інеем на вейкі, валасы, бровы, вусы. У труме цяпер мінус дваццаць градусаў па Цэльсію. Ганцы мерзнуць на такім марозе. Яны часта бегаюць грэцца на палубу, дзе гарачыня тропікаў прабірае наскрозь нават ватнюю вопратку, а тым больш іх лёгкія брызентавыя адзежыны.



Лятучыя рыбкі, або, як іх завуць, «стракозы мора».

Ганцы апрануты вельмі лёгка, і, працуючы са скрынкамі, яны крыху саграваюцца. У перапынку паміж падачай стропаў Вялікі Джон, хударлявы, мускулісты мужчына, і Маленькі Джон, тоўсты здаравяк, пачынаюць баксіраваць адзін аднаго. Разагрэўшыся, яны падыходзяць да нас з Ванем. Завязваецца размова, больш блізкае знаёмства. Абодва яны жанатыя, хоць з выгляду маладыя. Вельмі цяжка вызначыць узрост ганца. У Вялікага Джона адна жонка, а Маленькі Джон мае ўжо тры жонкі і ганарыцца гэтым вельмі. Яшчэ б! Ён лічыцца багатым чалавекам.

— Ён багацейшы за мяне, — гаворыць Вялікі Джон. — Яму дзядзька пакінуў невялікую спадчыну, на якую ён і купіў сабе адразу тры жонкі.

Старыя традыцыі яшчэ вельмі моцныя. За нявесту жаніх павінен даць яе сям'і 350—400 фунтаў стэрлінгаў. Для яго гэта вялізная сума, якую ён назапасіць за 3—5 гадоў, бо цяжка знайсці работу ў гэтай краіне, каб зарабіць больш. Добра, калі дзядзька пакіне спадчыну. Роднага дзядзьку пляменнікі паважаюць больш, як бацьку. З бацькі карысці мала, яму яны абавязаны толькі нараджэннем. Фактычна выхоўвае дзяцей і корміць



маці. Бацьку гэтыя пытанні зусім не хвалююць. Калі ж ён памірае, то завяшчае ўсю сваю маёмасць і спадчыну не дзецям, не жонцы, а свайму любімаму пляменніку, сыну роднай сястры. Пляменнік гатовы падараваць дзядзькавай сям'і дом, сад, жывёлу, а можа і выгнаць усіх з роднага дома і прадаць яго і ўсё астатняе. Закон будзе на яго баку. Гэтыя законы жывуць і цяпер. Таму культ дзядзькі шануецца ў кожнай сям'і.

**РУЛЯВЫ КАФІ.** Цёмна. З трума відаць кавалачак неба і зоркі, якія гайдаюцца ў розныя бакі. Гэта ад таго, што гуляе на хвалях судна. Ідзе поўным ходам пагрузка рыбы ў нашы трумы. На гэты раз з намі ў труме працуюць на дзіва вясёлыя хлопцы. Гэта: Кафі, круглатвары, з правільнымі рысамі твару атлет; Ата, маленькі, рухавы, хударлявы; Коблі, высокі асілак у малюсенькай шапцы-аблавушцы, якая цудам трымаецца на яго галаве. Ён крыху згорблены і непаваротлівы, але яго вялікія чорныя вочы бегаюць, як звяркі.

Кафі заспяваў у перапынку ганскую песню. Яму пачаў памагаць Ата. Коблі паважна маўчаў, слухаючы іх. Добра праспявалі ганцы, але песня не сагрэла іх. Яны ўзялі па дзве невялікія рыбіны і пачалі выстукваць імі, б'ючы адну аб адну, цудоўныя афрыканскія рытмы. Марожаныя рыбіны гучалі, як кастаньеты, але крыху мякчэй, цяплей. Кафі, у перакладзе з ганскага—пятніца (імёны ў многіх ганцаў—назвы дзён тыдня), пачаў свой танец. Ён павёў па-цыганску плячыма, потым нешта заспяваў, і вось ужо ходзіць увесь ходарам. Ён выкручваецца, як добрая арабская танцоўшчыца, якая выконвае танец жывата. Але вось і ногі пачалі вырабляць мудрагелістыя каленцы.

Бачачы, што мы з Ванем не падтрымліваем іх у танцы, Кафі спыніўся, штосьці абдумваючы. Потым сказаў:

— Рускія так танцы,—і пайшоў у скокі.

І хоць камічна ён выглядаў у гэтыя мінуты, і танец яго быў хутчэй падобны на шарж, чым на рускую «барыню», але нам было прыемна бачыць, як ён стараецца. Ён ляпаў далонямі па халявах гумавых ботаў, скакаў, прысядаў, круціўся па палубе. Жэстамі ён запрашае нас памагчы яму. І я, як мог, пайшоў танцаваць разам з ім. Ганцы пагойдваліся нам у такт і стукалі кастаньетамі-рыбінамі. Ад Кафі валіла пара, яго рэдкія вусы і чорныя бровы сталі белыя ад інею, лоб блішчаў пацеркамі поту. Ён усміхаўся ўсім ротам, і было ў гэтай усмешцы столькі дабраты: ён быў задаволены, што яму ўдалося ўсіх разварушыць.

— Сцеражыся!—крыкнуў зверху матрос Гарланаў.

Ішоў строп з рыбай.

— Кафі, уключай транспарцёры!..

Раней Кафі ўяўлення не меў, што такое транспарцёр, як і куды яго падключаць. Ён глядзеў на мяне з цікаўнасцю, калі я падключаў да размеркавальнага шчыта транспарцёры, расстаўляў іх у патрэбным месцы, правяраў уключэнне. Па выразу яго твару бачыў, што яму вельмі хочацца ўсё гэта паспрабаваць зрабіць самому.

— Давай цяпер ты,—сказаў я Кафі, адключыўшы абодва транспарцёры.

І хоць гэта была прасцейшая работа, ён не асмельваўся адразу брацца за яе.

— Баюся, механік, яшчэ што-небудзь не так...



Ганцы ўсіх матарыстаў, машыністаў, і наогул людзей, якія маюць некаторае дачыненне да тэхнікі, называюць механікамі. Варта ганцу ўзяць у рукі ключ і адкруціць пару гаек, і ён ужо лічыць сябе механікам. Любы ганскі матарыст называе сябе механікам. Да механікаў і наогул спецыялістаў у ганцаў вялікая павага, можна сказаць, нават пакланенне перад імі. Цяпер працуе на суднах многа ганскай моладзі, якая ніколі не плавала ў моры і з тэхнікай раней не сутыкалася зусім.

Жаданне Кафі сваімі рукамі наладзіць транспарцёры было такое вялікае, што яму не трэба было гаварыць другі раз. Злучыўшы муфты, ён праверыў работу транспарцёраў уперад і назад. Яны адразу ж запрацавалі дружна і весела. І трэба было бачыць у гэтую хвіліну Кафі! Ён быў шчаслівы і адчуваў сябе імяніннікам.

Кафі расказаў мне, што ён баяўся датыкацца да транспарцёраў, бо думаў, што я хачу з яго пажартаваць. Ён плаваў на японскім рыбалоўным судне. Там з такімі, як ён, не цырымоніліся. Амаль кожны лічыў за ганьбу размаўляць з афрыканцамі. Часта без прычыны ім давалі аплявухі. Каму будзеш скардзіцца? За скаргу яшчэ паб'юць і спішуць з судна.

Калі ў Гане паявіліся рускія рыбалоўныя траўлеры, чуткі пра сардэчнасць і дабрату рускіх і пра тое, што яны вучаць розным прафесіям, хутка разнесліся па ўсім узбярэжжы. Шмат ганскіх рыбакоў і проста партовых рабочых павалілі на судны, якія набыла фірма «Манкаадзе» ў Савецкім Саюзе. Але не ўсім пашанцавала: людзей патрабавалася мала. Не раз чуў Кафі, як высока адзываліся і японцы аб савецкіх марскіх спецыялістах. Але яны і лаялі іх за тое, што рускія «няньчацца» з афрыканцамі, перадаючы ім вопыт і веды. У адну са стаянак у порце і Кафі хадзіў цішком





у кантору ганскай фірмы «Манкаадзе», але яму не пашанцавала, як і многім іншым. Сказалі, каб зайшоў яшчэ раз: хутка закупяць новыя судны ў Савецкім Саюзе. Прозвішча і адрас Кафі запісалі і абяцалі выклікаць, як толькі ён спатрэбіцца. І выклікалі зусім нечакана роўна праз тры месяцы. Ён якраз рыхтаваўся пайсці ў мора з японцамі. Той дзень ён запомніць на ўсё жыццё.

Сабраўшы ўсіх ганцаў у салоне, з імі гутарыў савецкі капітан, расказваў аб судне і савецкіх спецыялістах, з якімі яны будуць працаваць.

Тады Кафі і асмеліўся задаць пытанне: ці можна стаць калі-небудзь на гэтым судне матросам-рулявым?

— Усё залежыць ад вашых здольнасцей і старання. Мы абяцаем вам сваю дапамогу ў любы час,—сказаў капітан.

І памаглі. Кнігі далі на англійскай мове, расказвалі і паказвалі ўсё, што трэба, і капітан, і штурманы, і боцман.

Кафі займаўся днём і ноччу, не шкадуючы сябе. Не шкадавалі сябе і савецкія маракі, яны былі для яго, як родныя. Ён стаў спачатку матросам другога класа, а праз некаторы час здаў тэхнічны мінімум на матроса першага класа. І яшчэ некалькі яго таварышаў сталі першакласнымі матросамі і матарыстамі. Хіба такое калі-небудзь забываецца?

Цяпер Кафі добраахвотна прыйшоў перагружаць рыбу са свайго судна. На масціку застаўся толькі вахценны штурман.

...Плывуць па шырокай стужцы скрынкі з рыбай. Коблі, Кафі, Ваня ўкладваюць іх клеткамі па дзесяцьадзінаццаць радоў. Я адзін разбіраю

строп, падаю на транспарцёры скрынкі. Астатнія ганцы вылезлі пагрэцца на палубу. Ваня працуе хутка, упэўнена. Ён паглядвае на работу ганцаў, падказвае ім, як правільна трэба класці кожную скрынку. Ён адзін абслугоўвае транспарцёр, а Кафі і Коблі ўдваіх не спраўляюцца каля другога: яны не паспяваюць здымаць скрынкі са стужкі. Затор. Ваня, выключыўшы свой транспарцёр, спяшаецца на дапамогу. Ён хутка і спрытна кідае скрынкі на патрэбнае месца.

Зноў чакаем строп. З трумаў траўлера нязручна выгружаць рыбу: вельмі маленькія гарлавіны і кран-бэлькай шмат не выцягнеш. Каб крыху пагрэцца, мы падняліся ў твіндэк. Закурылі. Мне вельмі захацелася есці, і я рашыў заглянуць у сталовую: там заўсёды на сталах ляжала смажаная рыба. Але на гэты раз я спазніўся. Талеркі былі пустыя. Я адрэзаў шэсць лустачак свежага хлеба, пасаліў солю і спусціўся ў трум. Ваня, як мог, размаўляў з ганцамі. Я прапанаваў усім па кавалку хлеба.

— Што гэта? — запыталі ганцы.

— Хлеб. Пакаштуйце. Смачна...

Яны падазрона касіліся на ржаныя скібкі. У Гане хлеба няма, а калі і ёсць у гарадах, дык толькі белы. Хлеб замяняе маніяк, або, як яго называюць мясцовыя жыхары, касава.

Бачачы, што мы з апетытам уплятаем хлеб, і ганцы пачалі смялей адкусваць ад сваіх кавалкаў. Жавалі асцярожна, смакуючы.

— О-о-о! Гэта вельмі смачна! — нарэшце загаварылі ўсе разам.

Пачалі разгружаць новы строп з велізарнай, у рост чалавека, рыбай-капітанам. Штабялямі складвалі гэтых рыб з разяўленымі пашчамі. Калі закончылася змена, мы развіталіся з ганцамі, як са старымі знаёмымі, і пайшлі ў сваю каюту.

(Далей будзе)



Сурёзнае — Курёзнае

# ЗВЫЧАЙНАЕ ЧАРАДЗЕЙСТВА

Наведваючы музей або карцінную галерэю, мы ніколі не задумваемся над тым, з якой бязлітаснай няўмольнасцю час разбурае рэчы. Яны псуюцца не толькі ў глебе і пячорах, адкуль іх здабываюць археолагі, але і ў архівах старадаўніх храмаў і нават у самых багатых музеях. Вось чаму чалавек вымушаны быў навучыцца змагацца з разбуральнай сілай часу. Ён навучыўся не толькі паспяхова знаходзіць сляды старадаўніх цывілізацый і гістарычных падзей, але і аднаўляць тыя сляды з вялікім майстэрствам. І калі аднаўленнем факта займаюцца археолагі, гісторыкі, палеантолагі, дык аднаўленне рэчаў — спецыяльнасць рэстаўратара.

У Беларусі рэстаўратараў не многа. Адзін з іх, Уладзімір Аляксандравіч Маслыка, працуе ў Дзяржаўным музеі БССР. Майстэрня, дзе ён і яшчэ некалькі супрацоўнікаў праводзяць усе асноўныя работы,— вялікая, разнастайная гаспадарка. Здзіўляе мноства абсталявання: на шафе прымасціўся фотапавелічальнік і рэпрадукцыйная ўстаноўка; у куце — «гальванічны ўчастак» — банка з медным купарасам і выпрамляльнік; побач — свідравальны і такарныя станкі, слясарны варштат, банкі з фарбай, пэндзлі, хімічныя рэактывы, безліч даведачнай і тэхнічнай літаратуры, рулоны паперы і нават швейная машына. Здаецца, што вы трапілі на камбінат бытавога абслугоўвання.

Уладзімір Аляксандравіч адклаў у бок скальпель, якім ён апрацоўваў нейкі струхлелы дакумент, і сказаў:

— Вы пытаецеся, што такое рэстаўратар і ў чым асаблівасць гэтай прафесіі?.. Ну, бадай, у разнастайнасці. Так, іменна ў разнастайнасці. Кожны раз, як я бяруся за новую справу, усё пачынаю спачатку, як у першы дзень, калі мне даручылі зрабіць муляж кнігі «Лексикон словяно-русский Кутейского монастыря» 1653 года выдання.



Уладзімір Аляксандравіч паказвае старадаўні фаліянт.

— Гэтая кніга знойдзена ў манастырскай келлі?

— Не,— кажа рэстаўратар,— кніга зроблена вось тут, у нашай майстэрні пяць гадоў назад. Гэты муляж,— дакладная, з поўнай дэталізацыяй копія кнігі,— мая першая работа. Такіх кніг я зрабіў з дзесятак. І ўсё ж такі я не лічу, што гэта ювелірная праца. Вось глядзіце,— Уладзімір Аляксандравіч дастае з папкі два дакументы, напісаныя на зеленаватай паперы чорным чарнілам, з выгляду яны нічым не адрозніваюцца адзін ад аднаго.— Перш чым трапіць да нас, гэты дакумент, датаваны 1814 годам, шмат падарожнічаў, памяняў многа гаспада-

роў. Бо гэта даравальная грамата, па якой адзін пан прадаў другому пяцігадовую сялянскую дзяўчынку. У музеі нельга захоўваць такі дакумент: пад дзеяннем святла чарніла выгарае. І таму вырашана было зрабіць муляж, які заменіў бы арыгінал. Перш-наперш прыйшлося адшукаць паперу, выраблену ў 1814 годзе. Паперу мы знайшлі хутка, затое «чарнільная праблема» далася нам у знакі. Мы спрабавалі пісаць і тушшу, і чорным чарнілам, але ніяк не маглі дабіцца эфекту старадаўнасці. Тады я высветляю, што ў 1814 годзе пісалі асаблівым, галавым чарнілам. Галы — утварэнні на дубе. Здабыць іх не цяжка. А вось як прыгатаваць з іх чарніла?! Кіруюся ў падарожжа па кнігах і даведніках. Нарэшце, рэцэпт знайшоўся.

— Рэстаўратар,— кажа далей Уладзімір Аляксандравіч,— *павінен быць мастаком*, але з асаблівымі схільнасцямі. Часцей за ўсё мы параўноўваем прафесію рэстаўратара з хірургіяй. Як хірург ведае анатомію чалавечага цела, так і рэстаўратар павінен глыбока вывучаць самыя запаветныя таямніцы матэрыялаў, з якімі яму прыходзіцца працаваць. І мэты ў нас падобныя: хірург лечыць людзей, а мы — рэчы. Ад майстэрства першага залежыць здароўе чалавека, а майстэрства другога захоўвае плён чалавечай працы. Дарэчы, муляж — толькі адзін бок прафесіі рэстаўратара. Аднавіць струхлелыя, іржавыя рэчы — галоўны наш абавязак. Але бывае і так, што археолагі не могуць дакладна вызначыць, для якой мэты ўжывалася знойдзеная імі рэч. Неяк да нас прынеслі камяк зямлі ў выглядзе нажніц. Археолагі былі ўпэўнены, што гэта і ёсць старадаўнія нажніцы. Пасля вельмі складанай работы, мы выявілі, што таямнічая знаходка не нажніцы, а абцугі, пры дапамозе якіх адлівалі кулі. Нам нават удалося адліць імі некалькі свінцовых куль.

...Рабочы дзень скончыўся. Але Уладзімір Аляксандравіч не спяшаецца дахаты. Ён ставіць на стол старадаўняй работы гадзіннік. Наўрад ці знайшоўся б майстар гадзіннікаў, які ўзяўся б яго адрамантаваць. Але такая ўжо прафесія рэстаўратара — усё трэба ўмець рабіць.

Сцямнела. Уключылі электрычнае святло. Настольная лямпа асвятляла вялікія вузлаватыя рукі рэстаўратара, у якіх вялікі гадзіннік здаваўся маленькім. Ніхто не ведае, калі гэты гадзіннік спыніўся, але ўмелыя рукі ўпэўнена ажыўляюць механізм. На нашых вачах адбываецца штодзённае чарадзейства — музейныя рэчы пачынаюць жыць другім жыццём.

**Уладзімір МАРГОЛІН.**

● ● ●

## ТРЭЦЯЯ СТАДЫЯ АРГАНІЗМА

Групе вучоных удалося вызначыць тую частку галаўнога мозгу, якая рэгулюе працэсы супраціўлення арганізма ўвядзенню ў яго іншароднай тканкі. Калі спыніць дзейнасць гэтай часткі мозгу на некаторы час, уведзеная ў арганізм іншародная тканка можа прыжыцца. Даследчыкі лічаць, што новы метад знойдзе шырокае скарыстанне ў барацьбе з несумяшчальнасцю тканак.



Вучоныя прыйшлі да вываду: тое, што бачыць чалавек у сне, таксама, як сон і абуджэнне, з'яўляецца асобнай, трэцяй стадыяй, праз якую праходзіць арганізм. Лічаць, што сны — гэта не выпадковая функцыя арганізма, а асобны яго стан, які, як дыханне і кровазварот, неабходны для нармальнага жыцця чалавека і некаторых жывёл.

## ТРЫТОН АСУДЖАНЫ



Томас Мак-Корд зрабіў сваё адкрыццё, зацікавіўшыся дзіўнымі паводзінамі Трытона і Нерэіды — двух спадарожнікаў Нептуна. Ён зрабіў матэматычны аналіз іх незвычайных арбіт і паведаміў, што даследаванні, зробленыя з дапамогай вылічальных машын, даюць магчымасць не толькі ацаніць цяперашні стан спадарожнікаў Нептуна, але і заглянуць у іх будучыню: Трытон, большы з двух спадарожнікаў, асуджаны на сутыкненне з Нептунам!

## МАЛПЫ ВЫРАТАВАЛІ ГІБРАЛТАР



Гібралтар — адзінае месца ў Еўропе, дзе ёсць запаведнік, у якім малпы жывуць у натуральных умовах. Цяпер там усяго дваццаць малпаў. Жыхары Гібралтара з даўніх пор любяць гэтых жывёл.

Аднойчы абаронцы крэпасці заўважылі, што малпы надзвычай узбуджаны: яны прыкладвалі вушы да зямлі і чагосьці ўважліва прыслухоўваліся. Салдаты таксама пачалі прыслухоўвацца, што там адбываецца пад зямлёй, але нічога не пачулі. Тады, ахопленыя трывогай, афіцэры вырашылі: «Давайце кінем жменю пяску на барабан і паставім яго на тое месца, дзе малпы прыслухоўваюцца асабліва старанна!» Схіліўшыся над барабанам, афіцэры заўважылі, што пясчынкі ледзь прыкметна дрыжаць.

«Капаюць падземны ход! Да зброі!!» І — Гібралтар быў выратаваны.

## СУЧАСНЫЯ РАБІНЗОНЫ



Шасцёра юнакоў выйшлі з Індыі на вельбоце ў адкрытае мора лавіць рыбу. Плынь аднесла іх у паўночную частку Ціхага акіяна, да бязлюднага вострава Ата, размешчанага за 1800 міляў ад Аўстраліі. Пятнаццаць месяцаў юнакі харчаваліся сырым мясам чаек і пілі іх кроў.

Пітэр Ворнер, капітан аўстралійскай яхты «Джаст Дэвід», які выратаваў хлопцаў з бязлюднага вострава, расказаў:

«Вельбот пацярпеў крушэнне каля берагоў Аты ў чэрвені 1965 года. «Джаст Дэвід» быў пятым суднам, што прайшло міма вострава за пятнаццаць месяцаў гэтай «рабінзанады». Наша ўвага спынілася на тым, што на востраве, які лічыцца бязлюдным, гарэлі вялікія зараснікі хмызняку. Хлопцы растлумачылі, што на гэты раз ім з вялікімі цяжкасцямі ўдалося здабыць агонь, каб падпаліць зараснікі. Калі мы высадзіліся на бераг, хлопцы паказалі нам сваю трысняговую хаціну ў кратэры вулкана, які не дзейнічаў, гітару з абломкаў какосавых арэхаў і струны з дроту, знятага з разбуранага вельбота. Юнакі самі складалі песні, у якіх спявалі пра сваё невясёлае жыццё. Яны спрабавалі пакінуць востраў, зрабіўшы плыт з вялікіх бярвенняў, але ён разбіўся за мілю ад вострава, і ім давялося прыстаць самім да берагу».

## РАСІСТЫ Ў СУДЗЕЙСКІХ МАНТЫЯХ



Перагорнута яшчэ адна старонка расісцкай дзейнасці суда ў Мічыгане пад старшынствам суддзі Халфорда Стрытэра. Вось як праходзіла пасяджэнне акруговага суда:

**Суддзя:** Я пазнаёміўся са справай і перадаю яе на суд прысяжных.

**Містэр Бэрымор:** Выслухайце паказанні сведак. У мяне ёсць пярэчанні да парадку вядзення справы.

**Суддзя:** Я не жадаю іх слухаць. Вы можаце, калі жадаеце, звярнуцца ў суд наступнай інстанцыі. Калі ён дакажа, што дзіця белае, тады можаце пярэчыць, калі не, дык нічога ў вас не выйдзе.

**Містэр Бэрымор:** Дзіця тут, у зале суда. Ці не жадаеце агледзець яго?

**Суддзя:** Я і адсюль бачу, што яно чарнамазае.

**Містэр Бэрымор:** Ці лічыце вы, што ніхто не абавязаны даваць грошы на ўтрыманне дзіцяці?

**Суддзя:** Я лічу так. Перадаю справу на суд прысяжных.

...А вось факты, якія былі перад гэтым пасяджэннем.

У Фрэнка Дамашке і яго жонкі Клары (абодва белыя) былі дзве дачкі. Клара трапіла ў аўтамабільную катастрофу, пасля якой зрабілася разумова непаўнацэнная. Фрэнк развёўся з ёю ў 1965 годзе, а пазней ажаніўся з другой белай жанчынай.

У лютым 1966 года Клара нарадзіла дзіця, бацькам якога быў негр. З пачуцця спагады і жалю да Клары, Дамашке вырашыў усынавіць дзіця. Суд першай ін-

**станцыі дазволіў усынаўленне, дзіця стала жыць у Дамашке. Аднак акруговы суд адмяніў гэтае рашэнне, нягледзячы на паказанні, якія сведчылі, што сям'я Фрэнка добра ставіцца і клапоціцца пра дзіця. Суд абгрунтаваў сваё рашэнне тым, што чорнае дзіця ў сям'і белых будзе адмоўна ўплываць на жыццё іншых дзяцей. Пасля няўдалых спроб аднавіць свае правы ў камісіі па грамадзянскіх правах, Дамашке звярнуліся ў апеляцыйны суд, дзе справа цяпер і разглядаецца.**

# ЭЛЬДАРАДА СМЕРЦІ

Некалькі год назад у прэсе прамільгнула паведамленне аб тым, што балівійскія знішчальнікі прымусілі зрабіць вымушаную пасадку самалёта «Канстэлэйшн», які пралятаў над Балівіяй без апазнавальных знакаў. Пілот, раззлаваны «бесцырымоннасцю» балівійцаў, упарта паўтараў, што на борце ягонай машыны знаходзяцца тэлевізары і антэны—заказ нейкай гандлёвай фірмы. Вынікі таможнага агляду таксама сцвярджалі службовы характар рэйсу. З той, аднак, розніцай, што самалёт быў набіты не тэлевізарамі, а... зусім новенькімі карабінамі.

Прыблізна ў той жа час на Канарскіх астравах быў прымушаны пайсці на пасадку другі самалёт з двума англічанамі на борце. На гэты раз, замест лівійскіх фінікаў, аб якіх гаварылася ў суправаджальных дакументах, таможнікі знайшлі бомбы і мінамёты.

Пастаўшчыкі, як і адрасаты смертаносных грузаў, палічылі за лепшае застацца «панамі Х» у абодвух выпадках.

Гандаль зброяй праз другія рукі, быццам зараза, распаўсюджваецца па кантынентах. Выдатным рынкам збыту шмат гадоў застаецца Лацінская Амерыка. Ананімныя пастаўшчыкі адсылаюць вялікія транспарты зброі ў Радэзію і Паўднёва-Афрыканскую рэспубліку. Як лічыць Роберт Маргрэйв, адзін з экспертаў дэпартамента гандлю ЗША, гандаль на чорным рынку дае перакупшчыкам зброі звыш двух мільярдаў долараў чыстага прыбытку. Гэта ў наш час!

А чорнае Эльдарада смерці мае сваю даўнюю гісторыю. Удасканаліліся метады гандлю зброяй, і маштабы яго ўжо не тыя, што былі раней. А сутнасць, драпежная сутнасць камівяжораў імперыялізму, засталася тая ж.

Самуэль Кольт свой першы рэвальвер апатэнтаваў у 1835 годзе. На думку афіцэрскай камісіі, якая сабралася, каб выпрабаваць новую зброю, «рэвальвер Кольта быў абсалютна непрыдатны для ўжывання». Магчыма, іншы на месцы вынаходцы заняўся б развядзеннем сабак ці вырошчваннем новых гатункаў руж. Але не такі быў Кольт. Энергічны вынаходца едзе ў Фларыду, дзе «цывілізаваныя» янкі расправуляліся з «бунтарамі»—індыйскім племем семінолаў. А калі з семіноламі было скончана, ён спяшаецца ў Тэхас, а пасля на Сярэдні і Дальні Захад—пачыналася захопніцтва прэрыяў у «бязглуздых тубыльцаў». Рэвальверы Кольта карысталіся вялікім попытам, і дзялок нажыў вялікія грошы. Яны паступалі да яго нават з-за мяжы.

Аднак Кольту не пашанцавала ў іншым сэнсе—ён так і не стаў заснавальнікам дынастыі гандляроў зброяй. Занадта прасталінейныя былі ў той час метады куплі-продажу. У гэтым сэнсе Рэмінгтон быў больш паваротлівы.

У 1816 годзе хлапчук папрасіў бацьку купіць яму ружжо. Але Рэмінгтон-старэйшы не спяшаўся выконваць капрызы сына. Тады сын сам змайстраваў сабе ружжо, якое спецыялісты назвалі «самым дасканалым на зямлі».

Для гэтага спатрэбілася не шмат часу. Вайна паміж буржуазнай Поўначчу і паўднёвымі рабаўладальніцкімі штатамі (1861—1865) выклікала вялікі попыт на зброю. Фабрыка Рэмінгтона працавала дваццаць чатыры гадзіны ў суткі і без выхадных. Але калі вайна скончылася, фабрыцы пачала пагражаць катастрофа. Тым больш, што пасля смерці вынаходцы фірма перайшла да братоў, якія мала разумелі ў гандлі зброяй. Але дапамог выпадак. Адзін з братоў даўмеўся: калі фірма выраблае больш карабінаў, чым патрабуецца свайму ўраду, дык ці не папрабаваць прадаць іх на замежных рынках?

Тэрмінова пачалі збірацца ў дарогу «місіянеры» смерці. І з Францыі, Італіі, Расіі да фабрыкі лінулі ракой заяўкі. Прычым часта здаралася, што абодва ваюючыя бакі прысылалі ў Брыджпорт, дзе знаходзілася фабрыка Рэмінгтона, сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў.

Так здарылася, напрыклад, у час руска-турэцкай вайны ў 1878 годзе. Вось як апісвае падзеі афіцыйны гісторык фірмы:

«І Турцыя і Расія імкнуліся размясціць свае заказы на фабрыцы. Стварылася двухсэнсоўная сітуацыя. Фабрыка кожны дзень выраблялa тысячы карабінаў для ваюючых дзяржаў. З гэтых карабінаў працаўнікі забівалі адзін аднаго. А ў той самы час урады моцна трымалі тут сваіх людзей, да якіх служачыя фабрыкі адносіліся вельмі ветліва».

Адначасова фірма Рэмінгтона апанавала рынкі збыту ў Лацінскай Амерыцы. Добрыя ўраджаі збірала яна з Эльдарада смерці, аказваючы падтрымку зброяй то ўрадавым войскам, то апазіцыям. І аднойчы ход падзей склаўся асабліва спрыяльна. Калумбія ваявала з Венесуэлай, а ў кожнай з гэтых краін адбывалася рэвалюцыя. Усе чатыры бакі карысталіся паслугамі фірмы. Аднак аказваць значны ўплыў на ход міжнародных падзей фірме не ўдавалася. Гандляры Рэмінгтона трымаліся далей ад палітыкі, іх цікавілі толькі грошы.

У гісторыю міжнародных адносін пашанцавала ўвайсці Базілю Захараву, якога нават блізкія празвалі «аптавіком смерці». Не было ніводнага палітычнага скандалу ці міжнароднай аферы, у якой не называлася б яго імя, імя авантурыста, які ўхітрыўся набыць англійскі тытул і французскі ордэн «Ганаровага легіёну». Пачатак яго кар'еры нікому не вядомы. Нарадзіўся ён у Анатоліі (Турцыя), у сям'і грэкаў, якая мела балгарскае прозвішча. Маючы незвычайныя здольнасці да інтрыг, з дзесяткамі рэкамендацый, ён паступае на службу да шведска-англійскай фірмы Нордэнфельд, у яе балканскі філіял.

Магнаты, якія выпускалі зброю—Шнэйдэр, Круп, Вікерс—у той час дрэнна разбіраліся ў падзеях на Балканах, дзе ўрады мяняліся з такой жа хуткасцю, як і палітычныя сімпатыі. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што спрытны гандляр зброяй знайшоў тут сваё казачнае Эльдарада. Толькі на працягу аднаго года ён распрадае зброі на дзесяць мільёнаў фунтаў стэрлінгаў.

Добры «бізнес» зрабіў Захараў, калі Хірам Максім вынайшаў свой кулямёт. Ён распусціў плётку, што кожная кулямётная дэталь павінна вырабляцца з надзвычай вялікай дакладнасцю, дастаткова маленькай памылкі ў разліках, і кулямёт выйдзе са строю. Чуткі былі настолькі пераканальныя, што Максіму з вялікай цяжкасцю ўдалося прадаць 150 кулямётаў. Усё, як у казцы, змянілася толькі тады, калі Максім заключыў пагадненне з Захаравым, і абодва яны ўвайшлі паўнапраўнымі пайшчыкамі ў гіганцкі канцэрн Вікерса.

Геній чорнага рынку, Захараў не меў роўных сабе канкурэнтаў аж да другой сусветнай вайны. А потым з'явіўся Самуэль Камінгс.

Дэмабілізаванага з арміі Камінгса бярэ да сябе ЦРУ ў якасці эксперта па зброі. Аднак ён не хоча быць радавым служачым. Пазычыўшы значную суму грошай у знаёмага банкіра, ён заснаваў сваю фірму. З дапамогай пасрэдніка Камінгс купляе ў Англіі дзесяткі тон зброі па цане металалому і збывае яе ў Паўднёвай Амерыцы.

У адрозненне ад Захарава, Камінгс дзейнічае вельмі асцярожна, уважліва сочыць за палітычнай хронікай. Ён не рызыкуе прапаноўваць свае паслугі тым, каму не давярае Вашынгтон. Ён адсылае 1 500 вінтовак у Коста-Рыку і памагае ўраду задушыць народнае паўстанне. З жалем сустракае вестку аб тым, што дыктатар Дамініканскай рэспублікі Трухільё забіты патрыётамі радзімы. «Гэта адзіны глава экзатычнай дзяржавы,—гаварыў ён,—які заўсёды выконваў у тэрмін прынятыя на сябе абавязкі. Паміж намі ніколі не было спрэчак».

Камінгс становіцца асноўным пастаўшчыком зброі на Захадзе. У яго складах налічваецца звыш 400 тысяч карабінаў, 35 тысяч кулямётаў, сто мільёнаў патронаў, шмат іншых баявых сродкаў.

Толькі каб перавезці з Іспаніі ў Злучаныя Штаты зброю, якая засталася ў Франка пасля другой сусветнай вайны, яму спатрэбілася 22 судны.

Пра свае прыбыткі Камінгс маўчыць. Некаторыя, аднак, ацэньваюць іх у 100 мільёнаў долараў штогод. Калі разабрацца, дык Камінгс узначальвае ўжо не фірму, а вялікі канцэрн, філіялы якога раскіданы па ўсіх кантынентах. Наступнай мэтай Камінгса з'яўляецца манапалізацыя сусветнага чорнага рынку.

Ці пашанцуе яму здзейсніць сваю мару? У «вольным свеце», дзе, як вядома, усё дазволена, гандлёвыя спрэчкі вырашаюцца стрэлам падасланага забойцы ці выбухам міны, незнарок падсунутай пад сядзенне аўтамабіля. І яшчэ з адным трэба лічыцца гандляру смерці. Наўрад ці дазволяць Камінгсу заакіянскія акулы выплываць за сферы бачнасці.

**Уладзімір ЕЛІСЕЕЎ.**

# АПТЫМІСТЫЧНЫЯ ЗГАДКІ,

## АБО ДВА ІНТЭРВ'Ю З АЛЯКСАНДРАМ СЯВІДАВЫМ — ФУТБОЛЬНЫМ СТРАТЭГАМ

Трэба быць аптымістам, каб, ідучы да футбольнага трэнера ў першыя дні падрыхтоўкі да новага сезону, спадзявацца на ўдалую гутарку. Трэба быць стопрацэнтным аптымістам, каб у канцы падрыхтоўчага перыяду, на парозе чарговага чэмпіянату, спрабаваць выявіць настрой таго ж трэнера, а праз гэты настрой вызначыць магчымасці каманды.

Але трэба, урэшце, добра ведаць таго, з кім маеш справу. Настаўнік мінскіх дынамаўцаў Аляксандр Аляксандравіч Сявідаў па натуры аптыміст. Ён іншы раз сам хоча навязаць гутарку, паспрачацца, каб праверыць свае меркаванні. Быць футбольным трэнерам нялёгка ў любым выпадку: залішне шумна навокал, калі каманда перамагае, і нясцерпна цяжка пасля паражэнняў. Таму так дынамічна мяняюцца трэнеры ў першай лізе. Толькі ў трох гарадах краіны — Кіеве, Данецку і Мінску — камандамі на працягу многіх год кіруюць адны і тыя ж людзі. Аляксандр Аляксандравіч Сявідаў — адзін з траіх. Заслужаны трэнер БССР, майстар спорту, ён шосты сезон запар сустракае ў мінскім «Дынама». За гэтыя гады каманда звярнула на сябе ўвагу спартыўнай грамадскасці, ці, больш дакладна, заінтрыгавала масу футбольных балельшчыкаў. Было ўсё — бронза і адзінаццатае месца, бліскучыя перамогі над лідэрамі і паражэнні ад аўтсайдараў. І кожную вясну беларускія аматары футбола сустракалі адным і тым жа пытаннем: «Як там яны?» Яны — гэта футбалісты мінскага «Дынама».

На самай справе, як там яны?

Звярніце ўвагу — пытанне сціслае. Але паспрабуйце адказаць балельшчыкам гэтак жа каротка: «Усё ў парадку», або: «У іх справы дрэнь...»

Ідучы насустрач пажаданням чытачоў



**Аляксандр Сявідаў** (справа) **гутарыць з членам зборнай маладзёжнай каманды СССР Васілём Курылавым.**
Фота **Д. Церахава.**

«Маладосці», я і ўзяў гэтыя два інтэрв'ю ў начальніка і старшага трэнера каманды «Дынама» **А. Сявідава.**

**Інтэрв'ю першае** (да пачатку чэмпіянату СССР яшчэ тры месяцы).

— *Загадзя ведаючы, што вы скажаце, хачу, Аляксандр Аляксандравіч, пачуць ацэнку выступлення вашай каманды ў сезоне 1966 года.*

— **Нездавальняюча!**

— *У чым прычына?*

— **Іх многа. Назаву толькі асноўныя. Доўгі час адсутнічаў Малафееў, які гуляў за зборную. З іншымі партнёрамі па нападзенню не ўдалося цалкам скантактаваць Мустыгіну. Каберскі і Васільеў, якія ўліліся ў лінію атакі, не вытрымалі напружання. Дала трэшчыну і абарона. Выбыў з каманды Усаторэ. На пяць матчаў быў дыскваліфікаваны Зарэмба. Моладзь, якая замяніла іх, не заўсёды дзейнічала на ўзроўні. Адным словам, механізм не быў адрэгуляваны. На жаль, мы не мелі дастаткова паўнацэннага рэзерву. Кожная замена або перастаноўка пагражала стратай ачкоў.**

— *Не заўсёды ачкі вызначаюць ступень сталасці каманды.*

— **Гэта так. Але страта ачкоў з'яўляецца ўжо вынікам. А прычына заключалася ў страце свайго стылю. Добра, калі каманда мае свой стыль, почырк, што бачаць не адны спецыялісты, а нават недасведчаныя ў футболе людзі. Тым больш сумна, калі свае ж якасці аказваюцца недаступнымі самім сабе. І ўсё ж трэба падкрэсліць, што ў шэрагу гульняў (з «Тарпеда» ў Маскве, з маскоўскімі аднаклубнікамі ў Мінску і іншых) хлопцы былі малайцы. Гэта дае права спадзявацца на аднаўленне прэстыжу, вяртанне да ранейшай манеры ў будучым.**

— *Будучае не за гарамі. Праз тры месяцы пачнецца чарговае першынство СССР. Якія «страты» панесла каманда? Якія вашы здабыткі?*

— **Я заўсёды быў праціўнікам вялікіх «перакрояў» складу каманды. Але без гэтага, на жаль, не абысціся. (Футбаліст мае права перайсці ў другую каманду, каманда зацікаўлена, каб здольная моладзь з футбольных школ, перыферыйных каманд і каманд ніжэйшай лігі ўзнімалася ў наступны клас). У гэтым годзе беларускія прыхільнікі футбола зноў убачаць ужо знаёмых ім варатароў Глухотку і Прохарава, абаронцаў Калтунова, Роміна, Зарэмбу, Савосцікава, Яўгена Кузняцова, Шпілеўскага, Гірко, Трыфанава; паўабаронцаў Арзамасцава, Талейку, Курылава, Пагальнікава; нападаючых Малафеева, Мустыгіна, Адамава, Васільева, Каберскага, Нагорнага, Шыманскага, Яромку, Леановіча. Хто з іх будзе гуляць у асноўным складзе, хто ў дублі — пакажа будучае. Я здолею назваць адзінаццаць мацнейшых толькі пасля заканчэння падрыхтоўчага збору. Акрамя названых футбалістаў, прэтэндуюць на «вакансіі» нашы навічкі: дваццацішасцігадовы галкіпер з яраслаўскага «Шынніка» Андрас, яго таварыш па клубу абаронца Кануннікаў, выхаванцы брэсцкага «Спартака» і мінскай футбольнай школы моладзі абаронцы Словак і Караткевіч, дваццацігадовы паўабаронца з бакінскага «Нафтавіка» Фядорцаў (дарэчы, ураджэнец Мінска), зусім маладыя форварды з мінскай футбольнай школы Мартынаў і Лук'яненка. Бачыце: колькі прэтэндэнтаў, а месц...**

— *Як вы «спраўляецеся» з такім штатам? Да кожнага ж футбаліста патрэбны індывідуальны падыход?*

— **Па-першае, з камандай мы працуем утраіх. Мае памочнікі — майстар спорту Альберт Дзенісенка, былы варатар нашай каманды, і Віталь Касянюк, заслужаны трэнер БССР. Па-другое, усе ігракі размеркаваны па групах. Групы невялікія, і мы паспяваем пазаймацца з кожным. Але многае ў футболе (і не толькі ў футболе, у спорце наогул) залежыць ад самога футбаліста. Ад яго працавітасці і жадання. Заданне трэнера можна выканаць па-рознаму. Ідучы ў адпачынак, кожны атрымаў індывідуальны план. Вярнуўшыся, далажыў аб выкананні. Хочаш быць майстрам — працуй, працуй і працуй.**

— *Ці праўда, што мяч гэтак надакучае, што выклікае ў футбаліста агіду?*

— **Вядомая доля праўды ў гэтым ёсць. Але голад, туга па мячу, прыходзіць у тысячу разоў хутчэй, чым непрыязнасць да яго. А непрыязнасць ідзе ад стомленасці. А каб не стамляцца, трэба добра фізічна падрыхтавацца да сезону. Чэмпіянат доўжыцца больш паўгода, ды плюс гульні на кубак СССР, міжнародныя сустрэчы. Фізічнай падрыхтоўцы мы аддаем вялікую ўвагу. Хлопцы займаюцца лёгкай атлетыкай, штангай, баскетболам, плаваннем. А як дарвуцца да мяча, не адцягнеш!..**

**Падрыхтоўка да сезону дзеліцца на тры этапы: да 20 студзеня, у асноўным, агульнафізічнае ўмацаванне арганізма, потым працяг фізічнага ўдасканалення, якое сумяшчаецца са спецыяльнымі трэніроўкамі па тэхніцы і тактыцы. А далей — турнір на прыз газеты «Советский спорт».**

— *Вашы адносіны да гэтай навіны?*

— **Яна карысная. Раней, бывала, пачнуцца веснавыя трэніроўкі — і бегаеш у пошуках спарынг-партнёра. Цяпер жа кантрольныя гульні, без якіх не абысціся, набылі стройную сістэму. Мы загадзя маем каляндар гульняў. Паўзы паміж імі дазваляюць без перашкоды выконваць вучэбны план.**

— *Дзякуй, Аляксандр Аляксандравіч, за гутарку. І пакідаю за сабой права вярнуцца да размовы аб камандзе недзе бліжэй да старту.*

— **Не пярэчу.**

**Інтэрв'ю другое** (да пачатку чэмпіянату СССР менш за месяц).

— *Ало, ало! Добры дзень, Аляксандр Аляксандравіч! Прывітанне вам ад шматлікіх беларускіх балельшчыкаў.*

— **Дзякуй. Узаемна.**

— *Якія вашы ўражанні ад гульняў веснавога турніру?*

— **У цэлым — камандай задаволены.**

— *Ці вызначылі асноўны склад?*

— **Пакуль не поўнасцю. Яшчэ ёсць час падумаць.**

— *У друку апублікавана рашэнне Усесаюзнай федэрацыі аб правядзенні гульняў без «зборнікаў». Ваша рэакцыя?*

— **Так, нам прадстаіць у дзесяці матчах чэмпіянату гуляць без члена зборнай СССР Малафеева і пяць без алімпійца Савосцікава. Ведаючы загадзя каляндар, мы можам ужо цяпер рыхтаваць змену адсутным.**

— *Якую тактычную схему вы будзеце прымяняць?*

**— Будзем працягваць удасканаленне сістэмы 4+3+3. Такая расстаноўка дае большыя магчымасці ігракам пярэдніх ліній для манеўру. Праўда, гэта патрабуе ад футбалістаў шпаркіх дзеянняў. Але паколькі хуткасць была і застаецца галоўнай нашай зброяй, гульня з трыма нападаючымі павінна сябе апраўдаць.**

— *У мінулым сезоне каманда моцна здавала пад канец матчаў. Што зроблена, каб такое не паўтарылася?*

**— Усё, што трэба. Вы здолееце ў гэтым пераканацца.**

— *Калі мы ўбачым вас у Мінску?*

**— Чэмпіянат стартуе 2 красавіка. Мы праводзім гульні ў Растове, Данецку, Ташкенце і Алма-Аце, а потым вяртаемся ў Мінск. 23 красавіка ў нас матч з ленінградскім «Зенітам». Прыходзьце. I запрашайце ўсіх балельшчыкаў.**

Зразумела: у важака дынамаўцаў — добры настрой. Не, не ўсё ідзе гладка, сёе-тое хвалюе, змушае на роздум, заклапочвае. Ён ведае, што яму будзе турботна і ў выпадку выйгрышу, і тым больш пасля пройгрышу. I ўсё ж Сявідаў настроены аптымістычна.

Мне здаецца, што гэта ў яго характары...

**Аляксандр МАЙСКІ.**




**раздзел вядзе міжнародны гросмайстар Аляксей СУЭЦІН**

# ЗАНАЛЬНЫ ФІНІШ У ТБІЛІСІ

Доўгачаканы занальны фінал першынства СССР у Тбілісі завершаны. Ён закончыўся трыумфам львоўскага гросмайстра Леаніда Штэйна, які трэці раз за апошнія чатыры гады заваяваў званне чэмпіёна краіны. Аматараў шахмат цікавіла іншае пытанне: хто трапіць у запаветную чацвёрку?

У Маскве карэспандэнт Усесаюзнага радыё на хаду бярэ ў мяне інтэрв'ю. Пасля традыцыйных пытанняў пра значэнне чэмпіянату і пра дэбютантаў, ідзе «пытанне ў лоб»: «Назавіце чацвёрку...» Амаль не задумваючыся адказваю: «Штэйн, Карчной, Гелер, Смыслоў». I вось цяпер высветлілася, што больш чым на пяцьдзесят працэнтаў я ўгадаў. Штэйн і Гелер ужо «там», з пуцёўкамі ў Туніс. Адносна Смыслова прагноз быў памылковы. А вось Карчной толькі на дзве трэція ў Тунісе, таму што атрымаўся падзел 3—5 месцаў. Два месцы з гэтага ліку занялі ленінградскія гросмайстры В. Карчной і М. Тайманаў, трэці быў адзін з самых маладых удзельнікаў турніру трыццацігадовы чэмпіён Латвіі міжнародны майстар Айвар Гіпсліс. Гэтым тром удзельнікам занальнага фіналу ў пачатку красавіка прыйдзецца зноў сустрэцца ў дадатковым матчы-турніры. Атрымалася вельмі цікавае становішча, калі ёсць адзін няўдачнік, якому і пасля паўторнай барацьбы не прыйдзецца замкнуць вельмі кароткі спіс пераможцаў.

Гаворачы пра гульню пераможцаў, нельга не адзначыць заслужанай перамогі Леаніда Штэйна. Рознабаковасць, трываласць яго гульні і здзіўляючая лёгкасць пры вырашэнні складаных практычных задач — вось што вызначае стыль чэмпіёна СССР. Леанід Штэйн за апошнія гады дамогся выключнага поспеху ў чэмпіянатах нашай краіны. Прыгадаем, што тройчы гэтае высокае званне ўдавалася выйграваць толькі тром гросмайстрам. Перш за ўсё М. Батвінніку, які мае пакуль што рэкордную колькасць такіх перамог—шэсць! Гэта таксама П. Керас і В. Карчной.

Штэйна цяжка назваць тэарэтыкам, але ён у межах сваіх практычных задач дасканала валодае дэбютнай зброяй, высокай тэхнікай рэалізацыі атрыманай перавагі. Практыцызм—важнейшая якасць новага чэмпіёна.

Ён цудоўна вядзе гульню ў сябе «дома», у міжзанальных жа турнірах да гэтага часу яго праследавалі адносныя няўдачы. Праўда, прычынай іх была абмежаваная колькасць пераможцаў, якія вылучаліся ад кожнай краіны. Цяпер гэтага абмежавання няма, і на міжзанальным турніры савецкім шахматыстам дастаткова трапіць у запаветную сямёрку (восьмае месца атрымлівае прэтэндэнт на званне чэмпіёна свету 1966 года гросмайстар Б. Спаскі). Усё гэта робіць зусім магчымым удзел Штэйна ў матчах прэтэндэнтаў. Нарэшце! Таму што Штэйн—цікавы і паважаны прэтэндэнт!



**Леанід Штэйн — чэмпіён Савецкага Саюза.**
Фота **А. Кляймёнавай.**

У наш час модна даваць прагнозы. I калі б мяне спыталі, хто можа ўвайсці ў тройку найбольш верагодных прэтэндэнтаў на матч з Ц. Петрасянам у 1969 годзе, я размясціў бы фаварытаў так: 1. Б. Спаскі, 2. Р. Фішар (толькі ці будзе ён гуляць?) і 3. Л. Штэйн.

Шахматны шлях гросмайстра Я. Гелера не надта роўны. Феерычны ўзлёт у 1949 годзе закончыўся заваяваннем звання гросмайстра і дэбютам у турніры прэтэндэнтаў 1953 года. Праз два гады Гелер заваёўвае званне чэмпіёна СССР і атрымлівае права зноў прымаць удзел у турніры прэтэндэнтаў 1956 года, хоць за гэты час у яго было не адно параўнаўча няўдалае выступленне на турнірах. Наступныя гады—перыяд спаду. Але вось у 1961—1962 гадах—новы поспех, спачатку ў чэмпіянаце краіны, потым у міжзанальным і нарэшце на турніры ў Кюрасао 1962 года падзел 2—3 месцаў.

Аднак неўзабаве Гелер прайграе матч Керасу і тым адлучаецца ад барацьбы за сусветную карону, страчваючы права прымаць удзел у матчах прэтэндэнтаў. Таксама трэба ўспомніць пра сур'ёзную няўдачу ў занальным турніры СССР 1964 года, дзе Гелеру, амаль што ўпершыню ў жыцці, выпаў сумны лёс замкнуць турнірную табліцу. I ў гэты цяжкі момант у шахматным жыцці Гелеру раптам пашанцавала: нечакана адмовіўся ад удзелу ў матчы прэтэндэнтаў М. Батвіннік. Акрылёны такімі шчаслівымі для сябе абставінамі, Гелер з вялікім уздымам вядзе партыю і атрымлівае перамогу над В. Смысловым. Але літаральна праз месяц ён прайграе Б. Спаскаму... I яшчэ адна няўдача—пройгрыш вясною мінулага года датчаніну Б. Ларсену ў матчы, які вёўся за права прымаць удзел у міжзанальным турніры 1967 года. Але Гелер—прыроджаны баец. Няўдачы толькі загартоўваюць яго, падвойваюць яго энергію. Пра гэта сведчыць поспех Гелера на міжнародным турніры летась у Кіславодску і асабліва поспех—другое месца!—у чэмпіянаце СССР.

Прыемна бывае глядзець на гульню Я. Гелера. Гэта—цудоўны стратэг, акадэмік шахмат. Цяпер у Гелера новы ўздым. I пытанне толькі ў тым—ці надоўга.

Не будзем выказваць меркаванні наконт «трэцяга лішняга». Я пераканаи ў адным толькі, што меншы па званню не будзе тут апошнім, а зойме месца паміж двух гросмайстраў. А вось хто з ленінградскіх «матадораў» будзе «на шчыце», а хто «са шчытом»—сказаць вельмі і вельмі цяжка. Як быццам у Карчнога больш аб'ектыўных дадзеных. Але—форма! Каму невядомы сюрпрызы, якія залежаць ад спартыўнай формы шахматыста!

Некалькі слоў пра няўдачнікаў. Іх многа. І большасць настолькі вядомыя, што напрошваецца перш за ўсё вельмі просты вывад: усё-такі не хапае ў такіх турнірах шчаслівых месц на ўсіх добрых ігракоў!

У некага не вытрымалі нервы... Нехта не змог прымусіць сябе «выкласці ўсё» ў крытычны момант... Нехта, магчыма, занадта рана махнуў на ўсё рукою, не хапіла сілы волі на старанную і такую неабходную барацьбу за кожныя паўачка, і пачаў гуляць «ва-банк», што, вядома, пры такім роўным і на дзіва моцным складзе ігракоў асуджана на няўдачу.

Упершыню ў сваёй шахматнай кар'еры Д. Бранштэйн, напрыклад, даў адбой, набраўшы ў сярэдзіне турніру 0,5 ачка з 5! Мне ж можна было на цэлы тыдзень хоць дахаты ехаць: з 12-га да 15-га туру я не прасунуўся наперад ні на крок, набраўшы ўпершыню ў жыцці 0 з 4. «Жалезны» Смыслоў быў зусім непазнавальны на фінішы, а непрабіўны Холмаў неяк страціў сілы ўжо задоўга да фінішу. Палугаеўскі стараўся як мог, але нервы нязменна падводзілі яго, і гульня ішла на ўзроўні вельмі пасрэднага іграка. Неяк лёгка атрымліваў ачкі Крогіус. Але вось засталося зрабіць, здаецца, адзін крок, і тут Крогіус (магчыма ўпершыню за ўвесь турнір) занерваваўся. У апошніх двух турах ён прайграў, далёка адсунуўшыся ад шчаслівых вакансій.

Партыі турніру не вызначаюцца цэльнасцю, але насычаны адменнай барацьбою. Прывяду прыклады.

**Д. Бранштэйн—Ю. Нікалаеўскі.** Абарона Уфімцава: 1. e4 d6, 2. d4 g6, 3. c3 Cg7,4. f4 Kf6, 5. e5de, 6. fe Kd5, 7. Kf3 0—0, 8. Cc4 Cg4, 9. 0—0 e6, 10. Фb3 C : f3, 11. Л : f3 Kb6, 12. Ce2 Фd5, 13. Ce3 Ф : b3, 14. ab c5, 15. dc Kd5, 16. cb5! C : e5, 17. Kd2 Kc7, 18. Ca4 Cg7, 19. Kc4 Kba6, 20. Kd6! Лab8, 21. b4 b6, 22. Cc6 Лbd8, 23. Kb7 Лc8, 24. Kd6 Лd8, 25. Cb7 bc, 26. bc Kb8, 27. Л : a7 Лd7, 28. Cc8 Лe7, 29. Cg5 f6, 30. Ce3 Kc6, 31. Лb7 h6, 32. b4 f5, 33. b5 Kd8, 34. c6 e5, 35. Cb6 e4, 36. Л : c7 Л : c7, 37. C : c7 ef, 38. C : d8 C : c3, 39. Ce7 Cd4+, 40. Kpf1, і чорныя здаліся.

Наступная пазіцыя стварылася пасля 65 хадоў у партыі Тайманаў—Смыслоў.

Белыя: Kpc4, Ce7, g4; пп: a2, f6 h6 (6).

Чорныя: Kpe8, Ce4, Ke6; пп: b6, c5, f7 (6).

Белыя эфектна заканчваюць барацьбу: 66. Cf3! b5+ (Апошні шанс. Нельга цяпер 67. Kp : b5 з-за 67. ...Kd4+. Гэтак жа будзе і на 67. Kpb3.) Але было зроблена: 67. Kpc3 Kg5, 68. h7!, і чорныя здаліся.

# МАЙСТАР З ГОМЕЛЯ

Адной з цікавых і значных старонак гісторыі шахмат нашай рэспублікі, бясспрэчна, з'яўляецца шлях гомельскага майстра А. Маневіча. Наступная партыя сыграна ім у турніры, дзе А. Маневіч паспяхова выканаў норму майстра.

**А. Маневіч—В. Паноў.** Венская партыя (Растоў-на-Доне, 1939 год).

1. e4, e5, 2. Kc3 Kc6, 3. Cc4 d6, 4. d3 Ka5 (?)

Лепш было 4. ... Kf6. Імкнучыся размяняць аднаго з сланоў белых, чорныя трацяць каштоўнейшыя тэмпы развіцця.

5. Cb3 K:b3, 6. ab Kf6, 7. f4! c6, 8. Kf3 Фc7, 9. 0—0 Ce7, 10. Kph! 0—0, 11. Фe2 Cg4, 12. Фf2.



Вызначылася перавага белых на каралеўскім фланзе. Атака белых няспынна расце.

12. ...C : f3, 13. Ф : f3 Kd7, 14. Фg3! f5?

Лепш было 14. ...f6, будуючы абарону на каралеўскім фланзе. Цяпер гульня ясна вызначаецца як вельмі выгадная для белых.

15. fe fe, 16. Ch6 Л : f1+, 17. Л : f1 g6.

Белыя: Kph1, Фg3, Лf1, Ch6, Kc3; пп.: b2, b3, c2, e5, g2, h2 (11).

Чорныя: Kpg8, Фc7, Лa8, Ce7, Kd7; пп.: a7, b7, c6, d6, e4, g6, h7 (12).

18. Фf4.



Рашаючы манеўр. Белыя наладжваюць масавую атаку.

18. ... K : e5, 19. d4 g5, 20. Фf5 Фd7, 21. de Ф : f5, 22. Л:d5 d5, 23. Ke2 a5, 24. e6 a4, 25. ba Л : a4, 26. g4!, і чорныя здаліся.

# «ЗВЫЧАЙНАЯ» ПАРТЫЯ

У друку часцей за ўсё прынята публікаваць тыя шахматныя партыі, дзе задумы партнёраў развіваюцца ў вострых сітуацыях. Гэта зразумела. Такія партыі гуляюцца з велізарным творчым напалам, і пераможца і пераможаны ўкладваюць у іх увесь запас сіл. І ўсё ж такі на практыцы такія партыі калі не складаюць выключэння, дык сустракаюцца значна радзей, чым звычайныя, знешне зусім не эфектныя паядынкі. І гэта зусім не азначае, што неэфектныя партыі не маюць ніякага вучэбнага значэння. Наадварот, за звычайнасцю часцей за ўсё хаваецца дасканалая тэхніка, якая і складае майстэрства шахматыста. Далёка ж не заўсёды можна і трэба выкладваць усе сілы: часам партыя гуляецца сама сабою, і ў ёй дае сябе адчуць і вопыт шахматнага майстра, і яго прыроджаныя схільнасці да адпаведнага тыпу пазіцый, да пэўных стратэгічных рашэнняў (у такім выпадку гавораць, што «шахматыст у сваёй стыхіі»); часам дае сябе адчуць і недастатковая абарона партнёра. Гэта значыць, што існуюць так званыя «лёгкія» партыі. Але ў кожнага майстра яны — СВАЕ. Возьмем, напрыклад, такіх камбінацыйных шахматыстаў, як М. Таль або Р. Нежметдзінаў. Лягчэй за ўсё яны гуляюць у партыях з вельмі і вельмі вострымі пазіцыямі камбінацыйнага характару. Не выпадкова, рыхтуючыся да матча-рэваншу з М. Талем, М. Батвіннік спецыяльна «праграміраваў» сваю гульню, зводзячы да мінімуму камбінацыйныя матывы барацьбы. Яшчэ больш адрозніваецца гульня Р. Нежметдзінава. Гора таму, хто трапіць пад ягоную камбінацыйную атаку,— нават такому «камбінатару», як Міхаіл Таль! Але варта толькі Нежметдзінаву трапіць у «сумную» сітуацыю пазіцыйнага манеўравання, як ён тут жа губляе сваю сілу, накшталт Антэя, што адарваўся ад Зямлі. А такі пазіцыянер, як С. Фурман (дарэчы, ветэрану савецкіх шахмат у 1966 годзе прысвоена званне міжнароднага гросмайстра), лягчэй за ўсё гуляе партыі са спакойнай манеўранай барацьбой.

Вельмі паказальны наступны прыклад з яго багатай практыкі.

**ЧОКЫЛЦЯ — ФУРМАН.** Сіцыліянская абарона, Тарахаў, 1966 год: 1. e4 c5, 2. Kf3 c6, 3. d4 cd, 4. K : d4 g6, 5. Ce3 Kf6, 6. Kc3 Cg7, 7. Cc4 0—0, 8. Cb3 Фa5, 9. 0—0 d6, 10. h3 Cd7, 11. f4 K : d4, 12. C : d4 Cc6, 13. Фf3? Фb4!, 14. C : f6 C : f6, 15. Лfe1 Фc5+, 16. Kph1 C : c3!, 17. Ф : c3 Ф : c3, 18. bc Лac8.

Стварылася павучальная пазіцыя, дзе слон белых абмежаваны ў руху, а іх пешкі на ферзевым фланзе няўмольна слабыя. Фурман паслядоўна павялічвае перавагу.

19. Лe3 Лc7, 20. Лd1 Лfc8, 21. Лd4 Cd7, 22. e5 de, 23. Л : e5 Kpf8, 24. Лed5 Cc6, 25. Лd8+ Л : d8, 26. Л : d8 Kpg7, 27. Лd4 Ce8, 28. Лd3 Лc5, 29. Kpg1 Cc6, 30. g3 g5, 31. fg Л : g5, 32. Kpf2 e6, 33. Kpe1 Kpf6, 34. h4 Лe5+, 35. Kpd2 Лe4, 36. Лf3+ Kpe7, 37. Лd3 f5, 38. Лd4 e5, 39. Л : e4 C : e4, 40. Cc4 Kpf6, 41. Cd3 Cd5, 42. a3 h6, 43. Kpe3 Cc6, 44. c4 b6, 45. Ce2 Kpe6, 46. Ch5 Kpd6, 47. Cf7 Cd7!, і белыя здаліся.

Цяжка, вядома, меркаваць самому аб сваёй гульні, але хочацца прывесці партыю са сваёй практыкі, якая гулялася «сама сабою». Прашу ўважліва аднесціся да заўвагі, якая датычыць пятага ходу чорных.

Французская абарона, паўфінал XXVI першынства СССР, Масква.

| | СУЭЦІН | ГАРЭНШТЭЙН |
|---|---|---|
| 1. | e2 — e4 | e7 — e6 |
| 2. | d2 — d4 | d7 — d5 |
| 3. | Kb1 — d2 | Kg8 — f6 |
| 4. | e4 — e5 | Kf6 — g8 |
| 5. | c2 — c3 | b7 — b6 |

Чорныя маюць намер размяняць белапольных сланоў і пабудаваць блакаду па белых палях — ідэя, распрацаваная яшчэ гросмайстрам А. Німцовічам. Хоць гульня і носіць закрыты характар, усё ж іменна тут дае сябе адчуць перавага белых у развіцці, што мае істотнае значэнне для дынамікі далейшай барацьбы. Цікава, што некалькі тыдняў да гэтай гульні такую ж ідэю ўжыў супраць мяне чорнымі А. Благідзе (каманднае першынство СССР, Вільнюс) у наступным варыянце: 1. e4 e6, 2. d4 d5, 3. e5 b6?!, 4. c3 Фd7, 5. f4 Ca6, 6. C : a6 K : a6, 7. Фd3 Kb8, 8. Ke2 h5 (Чорныя будуюць зага-

раджальны кардон на каралеўскім фланзе), 9. 0—0 g6, 10. h3! (Карыстаючыся перавагаю ў развіцці, белыя эфектыўна ажыўляюць гульню ў цэнтры.), 10. ...c5, 11. dc bc, 12. c4 d4, 13. Kd2 Kc6, 14. Ke4 Ce7, 15. Ca3 Лc8, 16. C : c5 K : e5, 17. fe C : c5, 18. K : c5 Л : c5, 19. K : d4 Л : e5, 20. Фc3 f6, 21. Лad1 Фc7, 22. Фg3+ Kpf7, 23. Kc6!, і пазіцыя чырных ужо безнадзейная.

6. Cf1 — d3 Фd8 — d7

Нельга, вядома, адразу 6. ...Ca6? з-за 7. C : a6 K : a6, 8. Фa4+ з выігрышам фігуры.

7. Фd1 — e2 a7 — a5
8. Kg1 — h3!

Конь імкнецца на f4, беручы на прыцэл важнае поле h5.

8. ... Cc8 — a6
9. Cd3 : a6 Kb8 : a6
10. 0—0 h7 — h5
11. Kh3 — f4 g7 — g6
12. Kd2 — f3

Блакаднай ідэі чорных белыя супрацьставяць жывую фігурную гульню на каралеўскім фланзе, націскаючы на чорныя «клавішы».

12. ... b6 -- b5?

Больш прадбачліва і асцярожна 12. ...Kh6 з наступным ...Ce7 і ...Kf5. Цяпер белыя з выгадаю ўскрываюць лінію «c», заадно пазбаўляючы праціўніка контргульні на ферзевым фланзе.

13. a2 — a4 b5 — b4
14. c3 — c4! c7 — c6
15. c4 : d5 c6 : d5
16. Kf4 — d3 Kg8 — e7
17. Cc1 — g5!

Пазіцыя чорных стратэгічна прайграная, таму што іх кароль раней ці пазней трапляе пад сакрушальную атаку. Белыя пагражаюць здвоіцца па лініі «c» і далей уторгнуцца па гэтай артэрыі ў лагер чорных. Таму чорныя вырашаюць ракіраваць у кароткі бок.

17. ... Ke7 — f5
18. Cg5 — f6 Cf8 — g7
19. h2 — h3!

Пагроза 20. g4! няўмольна павісае ў паветры. Нявыгадна, вядома, 19. ... C : f6, 20. efh4, 21. Kde5!, і разгром непазбежны.

19. ... 0 — 0
20. g2—g4 h5 : g4
21. h3 : g4 Kf5 — h6
22. g4—g5!

Пачатак фінальнай атакі па лініі «h». Чорныя бездапаможныя.

22. ... Kh6 — f5
23. Kpg1 — g2 Лf8 — c8
24. Лf1 — h1 Kf5 — e7
25. Лh1 — h3 Kpg8 — f8
26. Лh3 — h7! Cg7 : f6
27. e5 : f6

І чорныя здаліся.

У чым жа тут справа? Ва ўлюбёнай стратэгіі аўтара гэтых радкоў ці ў пасільнай «дапамозе» няўдачлівых партнёраў? Хацелася, каб нашы маладыя шахматысты далі адказ на гэтыя пытанні.



# Усмешкі маладосці

Мікола ВЯРШЫНІН

## ВЯЛІКАЕ СЭРЦА

Нялёгка быць, паверце, лавеласам:
Кахаць усіх дзяўчат ён быў бы рад,
Хоць сэрца разарві на часткі часам,
Не сэрца, а дзявочы інтэрнат.





## СПЕЦЫЯЛІСТ

Фатограф заклікаў людзей:
— Вас так не здымуць больш
нідзе...
Я здымак вам зраблю такі,
Што не пазнаюць сваякі!

## ПРАЦАЎНІК

— Для гультайства дзе прычыны?—
Кожны з нас нярэдка чуе.
— Праца — лепшы адпачынак,
Кажа той, хто не працуе.



Павел ШЫБУТ.

## ДЗВЕРЫ

Увесь свой век яны рыпелі,
Калі ж на злом іх неслі,
Патрабавалі, каб далі
Ім пенсію за песні.





## ЗНАЁМСТВА

Муха знаёмая з вялікімі была...
Кружылася ля іх стала.

Мал. А. Волкава.

# Нашы аўтары

ІЛЬЮШЧЫЦ Кастусь нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Рог Салігорскага раёна. Вучыцца на лесатэхнічным факультэце Беларускага тэхналагічнага інстытута імя Кірава.

НАВУМЕНКА Іван нарадзіўся ў 1925 годзе ў г. п. Васілевічы на Гомельшчыне. У часе вайны быў членам падпольнай маладзёжнай групы, разведчыкам дэсантнай групы капітана Манзіенкі, байцом партызанскай брыгады імя Панамарэнкі. Пазней прымаў удзел у баях на Ленінградскім і 1-ым Украінскім франтах.

Пасля вайны скончыў філалагічны факультэт і аспірантуру Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, дзе цяпер працуе выкладчыкам.

Выйшлі кнігі «Семнаццатай вясной», «Хлопцы-равеснікі», «Вайна ля Цітавай копанкі», «Верасы на выжарынах», «Бульба», «Таполі юнацтва», «Сасна пры дарозе».

Раман «Вецер у соснах» — працяг кнігі «Сасна пры дарозе», якая друкавалася ў «Маладосці» ў 1962 годзе.

ПАУЛАУ Уладзімір нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Замошша на Случчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, служыў у Савецкай Арміі. Працаваў у рэдакцыях газет і на радыё. Аўтар кніг вершаў «Узлётная паласа», «Далягляд».

КАПЫЛОВІЧ Мікола нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Астражанка Лельчыцкага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

ГІЛЕВІЧ Ніл нарадзіўся ў в. Слабада на Лагойшчыне ў 1931 годзе. Скончыў Мінскае педагагічнае вучылішча, пасля філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Закончыўшы аспірантуру, працуе выкладчыкам універсітэта.

Выйшлі з друку зборнікі вершаў «Песня ў дарогу» (1957), «Прадвесне ідзе па зямлі» (1959), «Неспакой» (1961), «Бальшак» (1965), «Званковы валет» (1961) і «Да новых венікаў» (1963), а таксама некалькі зборнікаў вершаў для дзяцей. Вядомы як перакладчык твораў балгарскіх пісьменнікаў.

ПАЦЫЕНКА Генадзь нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Зубакі Лёзненскага раёна. Вучыўся ў сямігодцы, пасля ў чыгуначнай школе ФЗН № 14 г. Віцебска, асвойваў цалінныя землі Казахстана, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве. Друкаваўся ў часопісах «Нёман», «Сельская молодежь», «Молодая гвардия» і ў газетах. Апавяданне «Дзе нараджаецца вецер» узята з яго дыпломнай работы.

ПАНІЗНІК Сяргей нарадзіўся ў 1942 годзе ў Міёрскім раёне. Скончыў Магілёўскае медыцынскае вучылішча і працаваў фельчарам. Цяпер вучыцца ў Вышэйшым вайскова-палітычным вучылішчы.

ФЕДЗЮКОВІЧ Мікола нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Гутава Драгічынскага раёна.

Працаваў у рэдакцыях раённых газет, служыў у Савецкай Арміі. Цяпер вучыцца ў Літаратурным інстытуце імя Горкага ў Маскве.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 4**

*Литературно-художественный и общественно-политический ежемесячник*
*На белорусском языке*

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОУСКІ**. Тэхнічны рэдактар **Ігар КРАУЧАНКА**.
Карэктар **Ніна КУЛАКОУСКАЯ**.

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **Б-93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **Б-93-592** — аддзелы паэзіі і прозы, **Б-93-892**—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **Б-93-775**—аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 1.III.67 г. Падпісана да друку 31.III.67 г.
АТ 00633. Тыраж 10268. Зак. 114. Цана 40 кап. Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі прасп., 79.**



В. Навуменка. Палёт.